Нацыянальны інстытут адукацыі

# Факультатыўныя заняткі

С. М. Якуба

# Беларуская мова

## 6 клас



# Сакрэты словазмянення і формаўтварэння

Дапаможнік для вучняў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне

Мінск • «Аверсэв» • 2012

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Я49

*Серыя заснавана ў 2010 годзе*

**Якуба, С. М.**
Я49 Беларуская мова. 6 клас. Сакрэты словазмянення і формаўтварэння : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / С. М. Якуба. — 2-е выд. — Мінск : Аверсэў, 2012. — 142 с. — (Факультатыўныя заняткі).
ISBN 978-985-533-123-1.

Дапаможнік прызначаны для выкарыстання на факультатыўных занятках у 6 класе. Змешчаны ў кнізе тэарэтычны і практычны матэрыял накіраваны на замацаванне і сістэматызацыю ведаў, удасканаленне ўменняў і навыкаў па адпаведных раздзелах вучэбнай праграмы, развіццё культуры вуснага і пісьмовага маўлення навучэнцаў.
Адрасуецца вучням і настаўнікам беларускай мовы.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-533-123-1**

# УВОДЗІНЫ

Дыдактычныя матэрыялы падрыхтаваны ў адпаведнасці з праграмай факультатыўных заняткаў «Сакрэты словазмянення і формаўтварэння» і праграмай па беларускай мове для 6 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі. Дапаможнік мае на мэце сістэматызаваць веды пра вывучаныя часціны мовы, адметнасць іх словазмянення і формаўтварэння, развіваць моўную, маўленчую і лінгвакультуралагічную кампетэнцыі вучняў. Дыдактычныя матэрыялы будуць садзейнічаць таксама павышэнню творчага патэнцыялу школьнікаў, развіццю іх разумовых здольнасцей, лінгвістычнага мыслення, моўнага чуцця.

Змест дыдактычных матэрыялаў «Сакрэты словазмянення і формаўтварэння» пададзены трыма блокамі: тэарэтычныя звесткі, сістэма рознаўзроўневых практычных заданняў і дыягнастычныя матэрыялы, накіраваныя на праверку ведаў, уменняў і навыкаў вучняў па кожнай часціне мовы. Разам з тым у дапаможніку змешчаны кантрольныя пытанні і заданні, якія дапамогуць школьнікам сістэматызаваць і падагульніць веды па вывучаным матэрыяле, замацаваць сфарміраваныя ўменні і навыкі.

Адзін з асноўных прынцыпаў рэпрэзентацыі матэрыялу ў дапаможніку — займальнасць. У сувязі з гэтым матэрыял падаецца праз разнастайныя рубрыкі, якія арыентуюць як на ўзнаўленне тэарэтычнага матэрыялу («Успомнім», «Лінгвістычны каментарый», «Стол даведак»), так і на замацаванне ўменняў і навыкаў («Граматычнае сіта», «Вясёлы перапынак», «Лінгвістычная задача», «Спроба пяра», «Творчая лабараторыя», «Выпраўляем памылкі», «Папрацуем перакладчыкамі» і інш.). З мэтай праверкі засваення ведаў, уменняў і навыкаў вучням прапануецца рубрыка «Правяраем сябе».

У аснову навучання пакладзены тэкстацэнтрычны падыход. У сувязі з гэтым у дыдактычныя матэрыялы адабраны

тэксты лінгвакультуралагічнага зместу, а таксама творы займальнага характару: гумарыстычныя вершы, прыказкі, прымаўкі, загадкі, гумарэскі, скорагаворкі і інш.

Матывацыі навучання будзе садзейнічаць калектыўнае складанне крыжаванак і алгарытмаў, праца з сігнальнымі карткамі, схемамі, табліцамі, ілюстрацыя моўных з'яў уласнымі прыкладамі і малюнкамі і інш.

Змест курса, яго мэты і задачы абумоўліваюць неабходнасць выкарыстоўваць розныя формы і метады навучання: лінгвістычнае назіранне, эксперымент, слова настаўніка, гутарку, пошукавыя сітуацыі, маўленча арыентаваныя практыкаванні, розныя віды самастойнай работы (праца з вучэбнай і навуковай літаратурай, складанне дыдактычных матэрыялаў, рознаўзроўневых заданняў, тэставых работ, слоўнікавых дыктовак, алгарытмаў, афармленне рознага віду нагляднасці: картак, перфакарт, табліц), творчыя работы (вусныя паведамленні, напісанне сачыненняў, перакладаў, рэдагаванне работ таварышаў і інш.).

З мэтай рэалізацыі асобаснага падыходу ў дыдактычных матэрыялах пададзена сістэма практыкаванняў, якая будзе садзейнічаць свядомаму засваенню беларускай мовы. Так, *пазнавальныя*, *класіфікацыйныя* і *аналітычныя практыкаванні* маюць на мэце развіваць у вучняў паняцце пра пэўную моўную ці маўленчую з'яву. Да *пазнавальных* адносяцца практыкаванні на знаходжанне ў прапанаваным тэксце моўнай з'явы, што вывучаецца, падбор уласных прыкладаў, абгрунтаванне прыналежнасці моўнай адзінкі да таго ці іншага разраду, лексіка-семантычнай групы, тыпу і інш. *Класіфікацыйныя* практыкаванні маюць на мэце групоўку моўных з'яў па пэўнай аснове, выяўленне памылак пры класіфікацыі моўных адзінак і інш. *Аналітычныя* практыкаванні прадугледжваюць частковыя і поўныя моўныя разборы.

У дапаможніку змешчаны *практыкаванні*, накіраваныя на ўдасканаленне ўменняў выяўляць арфаграмы ў словах, тлумачыць іх напісанне, пісаць лексічныя адзінкі ў адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі, захоўваць пунктуацыйныя нормы пры афармленні тэкстаў і сказаў.

Вучням прапануецца шэраг *маўленчых практыкаванняў*, на аснове якіх фарміруецца ўменне ўспрымаць гатовыя тэксты і ствараць уласныя. У якасці падрыхтоўчых маўленчых практыкаванняў пададзены тыя, пры выкананні якіх удасканальваецца ўменне выразна чытаць тэксты, утвараць формы слоў, складаць і перабудоўваць словазлучэнні і сказы, замяняць адны канструкцыі іншымі, падбіраць сінонімы, антонімы, словы з пераносным значэннем і інш.

Вялікая ўвага ў дапаможніку надаецца практыкаванням, якія дапамагаюць выпрацоўваць уменне пераказваць і ствараць уласныя тэксты. Гэта заданні на вызначэнне тэмы, асноўнай думкі тэксту, прычынна-выніковых сувязей у ім, адбор моўных сродкаў і інш.

У сістэме падрыхтоўкі шасцікласнікаў належная роля адводзіцца практыкаванням *па развіцці звязнага вуснага і пісьмовага маўлення*. Праграмай прадугледжана ўдасканаленне навыкаў маналагічнага маўлення (выказванне на лінгвістычную тэму, фармулёўка правіла, абгрунтаванне напісання арфаграм, канчаткаў часцін мовы, пастаноўкі знакаў прыпынку), развіццё ўмення перакладаць тэксты з рускай мовы на беларускую, складаць апавяданні па пачатку, па апорных словах, рабіць апісанне прадметаў, разважаць на актуальную тэму і інш.

Сістэма практыкаванняў, пададзеная ў дыдактычных матэрыялах, арыентуе настаўніка на захаванне ўнутрымоўных міжузроўневых сувязей. Так, пад увагу бяруцца: фанетычны аспект (праца па вымаўленні гукаў і іх спалучэнняў, па рэдагаванні вуснага маўлення), лексічны аспект (тлумачэнне лексічнага значэння слоў (у тым ліку з выкарыстаннем тлумачальнага слоўніка), падбор сінонімаў, антонімаў, слоў з пераносным значэннем і інш.), граматычны аспект (развіццё граматычнага ладу маўлення вучняў, засваенне адметных сінтаксічных канструкцый, граматычных формаў і інш.), правапісны аспект (удасканаленне навыкаў спісвання і запісу пад дыктоўку слоў, словазлучэнняў, сказаў і тэкстаў у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі).

Разам з тым варта адзначыць, што большасць заданняў у дыдактычных матэрыялах арыентавана на комплексную працу з тэкстам, падчас якой будуць замацоўвацца веды пра моўныя адзінкі, выпрацоўвацца ўменні класіфікаваць іх, утвараць формы слоў у адпаведнасці з марфалагічнымі нормамі, правільна пісаць і асэнсавана выкарыстоўваць у маўленні.

Такім чынам, дыдактычныя матэрыялы дае прастору для творчасці настаўніка ў выкарыстанні найбольш эфектыўных метадаў і сродкаў навучання. Галоўнае, каб падчас засваення розных тэм у шасцікласнікаў узнікла жаданне вывучаць беларускую мову як нацыянальны феномен, які дапаможа не толькі пазнаёміцца з культурнымі і гістарычнымі здабыткамі Беларусі, а і далучыцца да сусветнай культуры.

# ПА СЦЯЖЫНКАХ КРАІНЫ МАРФАЛОГІІ

## Мой выток, пачатак і аснова

### Паслухаем пісьменнікаў

**1.** Прачытайце выказванні пісьменнікаў пра мову. Вызначце іх асноўную думку.

1. Кожны народ стварыў хоць бы адзін *геніяльны* твор, і твор гэты — мова (*А. Разанаў*).

2. Родная мова, хоць бедная мова, мілей найбагатшай чужой! (*Я. Купала*).

3. Каб ярка свяціла перлінка-слова, каб людзям зіхцела на ўсе бакі, яго шліфавалі як след, адмыслова найлепшыя ў свеце тачылы-вякі (*К. Цвірка*).

4. Мова! Яна разам з *сэрцам* даецца кожнаму чалавеку пры з’яўленні на свет. І па тым, як гучыць твая мова, песня, можна здагадацца, як жыве народ (*М. Танк*).

5. Матуля і мова — з калыскі адное (*В. Аколава*).

6. Мова — гэта ключ да *дзвярэй* у свет, і кожны павінен выйсці праз свае дзверы (*В. Каваленка*).

7. Мова — жывая істота. Яна жыве, а не існуе (*К. Чорны*).

8. Беражы і ахоўвай залатыя правы нашай роднае мовы, — і ты вечна жывы... (*М. Лужанін*).

9. Нібы маці, *берагчы* працаўніцу нашу — мову, бо яна — жыцця зачын і пачатак песні новай (*Я. Сіпакоў*).

10. Пароль неўміручасці — родная мова (*П. Макаль*).

**2.** Растлумачце значэнні слоў *перлінка*, *тачылы*, *неўміручасць*, падбярыце да іх аднакаранёвыя словы.

**3.** На пачатку дваццатага стагоддзя многія называлі нашу беларускую мову беднай. Што адбылося з беларускай мовай за гэты час? Ці можна яе назваць беднай сёння? Чаму? Падбярыце антонімы да слова *бедная*. Вызначце, у прамым ці пераносным значэнні

ўжыты дзеясловы ў трэцім сказе (практ. 1). Прывядзіце прыклады ўжывання гэтых слоў у прамым значэнні.

**4.** Зрабіце фанетычны разбор падкрэсленых слоў.

**5.** Прачытайце выказванне К. Чорнага. Патлумачце розніцу ў значэнні слоў *жыць* і *існаваць*.

**6.** Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

**7.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Чаму родную мову называюць матчынай? Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Зрабіце лексічны разбор выдзеленага слова.

Свет матулі. Ён бя..концы, ён таямнічы сваёй прадоннай неабдымнасцю. Ён наша свядомас..ць наша радасць і туга наша *спадчына*. Ты вырас, ты самастойны, як здаецца табе. Колькі ўрачоў ні будуць абслухваць цябе, а ніхто з іх з такой дакладнасцю (не) вызначыць ні т..мпературы тваёй, ні пульсу твайго, ні біц..я сэрца, як маці твая зробіць гэта ў імгненне, толькі прыклаўшы руку сваю да твайго лба, толькі вуха прытуліўшы да грудзей тваіх.

Універсітэты і акад..міі будуць вучыць ц..бе роднай мове, але калі не ўспрыняў мову гэтую з ма..чыных вуснаў, з першакрыніцы, ніколі ты а..чуваць (не) будзеш слова, дзе гук кожны ад матулі. Мова родная таму і завец..а ма..чынай (*Р. Барадулін*).

## Кладзі слова ў лад

**1.** Прачытайце прыклады назваў вясёлкі ў народных гаворках. Паспрабуйце растлумачыць, чаму гэту з’яву так назвалі. Чаму ў словах *вясёлка* і *перавясёлка* не стаіць націск?

Вясёлка — ра́дуга, ра́даўніца, параду́ха, ра́давіца, вясёлка, весялу́ха, перавясёлка, перавесялу́ха, вясе́лік, весялі́ха, весялі́ца, дуга́, красу́ля, дажджа́нка і інш. (*А. Крывіцкі*).

**2.** Прачытайце тэкст. Назавіце формы слоў, не характэрныя для літаратурнай беларускай мовы. Як такія словы называюцца? Замяніце дыялектныя формы слоў літаратурнымі адпаведнікамі.

**У краме ніякай *вадзіцы* не было. Дуб-Дубкоўскі прапанаваў зайсці да яго *суседзяў* — да старых Ма́руса і Ма́русі і напіцца.**

**Мы зайшлі. Са смакам пілі бярозавік, халодны, з *хлебнаю* падсмажанаю і крыху падпаленаю скарынкаю і нейкім лістком.**

**А калі падзякавалі і адыходзілі, гаспадыня на *развітанне*:**

**— Ідзе́це здаровенькія! Пе́це. Прыходзьце і пе́це. Каб вам пілоса, еласа й шчэ хацеласа! (*Паводле Ф. Янкоўскага*).**

Зрабіце разбор па саставе выдзеленых слоў. Патлумачце, як утварылася слова *бярозавік*.

### Гавораць моваведы

**Літару можна напісаць алоўкам, ручкай, фарбай, яе можна ўбачыць, сцерці, калі памылкова яе напісалі, але з адпаведным гукам мы гэтага не можам зрабіць. Гук можна вымавіць, пачуць... Таму і гаворыцца, што літара толькі вобраз гука, яго «партрэт», што перадае самыя агульныя рысы. Як у той прымаўцы, слова — вецер, а папера — грунт» (*Л. Выгонная*).**

Вызначце, да якога стылю адносіцца тэкст. Як вы разумееце сэнс прыказкі з тэксту? Пакажыце ў транскрыпцыі, як гучаць словы *яе*, *сцерці*, *агульныя*.

### Вясёлы перапынак

**3.** Прачытайце скорагаворкі-языкаломкі Р. Барадуліна. Якіх літар няма ў рускім алфавіце? Якія гукі характэрны толькі для беларускай мовы?

Ехалі ў вясёлай згодзе
Параход на карагодзе,
Карагод на параходзе.
Ім казала па́ра: годзе!

Чакала чайка чаянят,
Ручай чакаў ручаянят,

Чакалі чаяняты,
Пакуль ручаяняты,
Памыюць ручаняты.

І кожны быў заняты
Клопатам,
Хлюпатам,
Тупатам,
Лопатам.

### Выпраўляем памылкі

**4.** На святкаванні Дня беларускай мовы вучні чыталі вершы і словы пісьменнікаў пра мову. У выказванні П. Панчанкі «І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае «дзе» і густое «чаго!» Андрэй словы *ўсё*, *майго*, *дзе*, *чаго* прачытаў як [вс’о], [майво], [дзэ], [ч’эво]. Якія памылкі дапусціў хлопчык?

### Творчая лабараторыя

**5.** Маша з дзедам любяць лес. Аднойчы яны знайшлі там... азбуку. Прыгадалі лясных жыхароў, убачылі, што расце ў лесе, што там ёсць. Атрымаліся словы амаль што на ўсе літары азбукі. На якія літары азбукі Маша з дзедам не спаткалі ў лесе нікога, не ўбачылі нічога? Можа, вы бачылі ў лесе некага іншага ці нешта іншае? Пашырце рады запісаных па алфавіце слоў. Растлумачце, што яны абазначаюць.

**А.** Алешнік, аўсянка...
**Б.** Баравік, буякі...
**В.** Верас, вуж...
**Г.** Голуб, граб...
**Д.** Дзераза, дзяцел...
**Е.** Елка, ельнік...
**Ж.** Жалуды, жаўна...
**З.** Заранка, зязюля...
**І.** Івалга, Іван-чай...
**К.** Казуля, крушына...
**Л.** Ліса, лось...
**М.** Мурашкі, мухамор...
**Н.** Нара, незабудкі...
**П.** Папараць, пралескі...
**Р.** Рабіна, радоўка...
**С.** Сава, сасна...
**Т.** Таўстуха, трыпутнік...
**У.** Удод, урочышча...
**Ф.** Філін, фіялка...
**Х.** Хвошч, хмель...
**Ц.** Цецярук, цюльпан...
**Ч.** Чарамша, чаромха...
**Ш.** Шчаўе, шэршань...
**Я.** Ясень, ястраб...

*Паводле У. Ліпскага.*

**Гэта цікава**

У лацінскім алфавіце, як і ў беларускім і ўкраінскім, літара ***і*** мае выгляд палачкі з кропкаю над ёй. Выраз *пастaвіць кропку над **і*** заўсёды азначаў: поўнасцю завяршыць справу, нічога не пакінуць недагаворанага.

**Вясёлы перапынак**

**6.** Адгадайце загадкі-метаграмы, якія прапануе С. Шах. Патлумачце, якую ролю выконваюць гукі ў словах.

З **д** — у порце служыць караблям,
з **к** — гатуе ежу маракам,
з **т** — не толькі ў правадах бывае,
з **ф** — у назве паруса гучыць,
з **с** — яго заўжды карысна піць,
з **ш** — ужо здароўю пагражае.

**Папрацуем перакладчыкамі**

**7.** Перакладзіце на беларускую мову словы. Пастаўце ў іх націскі. З трыма словамі складзіце сказы.

Спина, усы, слабый, торты, щавель, четырнадцать, имя, крапива.

**Лінгвістычны каментарый**

Кожны народ па-свойму ўспрымае навакольны свет. Таму ў кожнага народа ёсць рэчы, прадметы, з'явы, якія не маюць адпаведных назваў у іншых мовах.

**8.** Прачытайце верш А. Пісьмянкова. Ці можам мы перакласці слова *дранікі* на рускую мову? Іншая назва дранікаў — *таркаванцы*. Як утварыўся гэты назоўнік? Назавіце ў тэксце звароткі, патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.

Бабка ўстала раненька,
Да святла,
І гарачых дранікаў
Напякла.
Дранікаў-бульбянікаў —
Смакаты,

Дранікаў-бульбянікаў
Залатых.
— Ешце, ешце, дзетачкі,
Па талерцы поўненькай!
Еш, унучка-кветачка,
Еш, унучак-сонейка!

Якія яшчэ значэнні можа мець слова *бабка*? Паспрабуйце намаляваць гэтыя прадметы.

### Вясёлы перапынак

**9.** Адгадайце загадкі М. Пазнякова. Якое значэнне маюць словы-адгадкі ў рускай і беларускай мовах.

Бацька — год,
Зіма — матуля.
На канікулы
Вяду я,
Пачынаю каляндар.

Абступіў ён агароды,
Абабег дамы, сады
І вакол жывой прыроды
Так прастойвае гады.

Я — сгустившийся навар,
Кушай летом
И зимой,
Рыбный я
Или мясной.

А вот я —
С другой судьбою:
Часто вижу города,
Дружен я всегда с рекою,
Путь мой — быстрая вода.

### Стол даведак

Я жыву ў Мінску. У школу езджу на метро. І кожны дзень, калі чую аб'яву там, мне хочацца даведацца, якое значэнне мае слова *немаўля*, што дыктар ужывае ў выразе *«...немаўлят бярыце на рукі...»*.

Слова *немаўля* можна патлумачыць праз падбор роднасных. *Немаўля* — той, хто не ўмее гаварыць, мовіць. Дарэчы, яно роднаснае і слову *мова*.

**10.** Прачытайце. Патлумачце значэнні «гаваркіх» беларускіх слоў.

Мілавіца (зорка Венера), журавіны, парэчкі, цукроўкі, папяроўкі (яблыкі), гародніна, садавіна, вяселле.

З двума з іх складзіце сказы.

### Творчая лабараторыя

**11.** Прачытайце тэкст. Вызначце, да якога стылю ён адносіцца. Абгрунтуйце сваю думку.

**Будзень і Свята**

Яны сустрэліся на дарозе. Ён у саламяным капелюшы, лапцях, зрэбнай апратцы, з клуначкам за плячамі. Яна сядзела ў брычцы, запрэжанай параю коней, маладая і прыгожая.

Ён пакланіўся пекнай паненцы, і тая звярнула на падарожнага ўвагу:

— Хто ты? Куды ідзеш?

— Будзень я. Іду куды вочы глядзяць.

— А, цябе прагналі з сяла? — засмяялася паненка.

— Адкуль ты ведаеш?

— Я — Свята! — з гордасцю пахвалілася паненка. — Калі людзі запрашалі, я сказала, што прыйду, як цябе прагоняць.

— А ці можна жыць, калі кожны дзень — свята? — засумняваўся Будзень.

— Можна! — зарагатала паненка і тузанула за лейцы.

Брычка ўехала ў сяло... (*Паводле Р. Бензерука*).

Растлумачце значэнні слоў *пекная*, *брычка*, *лейцы.* Падбярыце аднакаранёвыя да слоў *будзень* і *свята.*
Прыдумайце працяг казкі, выкарыстаўшы выраз: «Хто доўга гуляе, той багацця не мае». Раскажыце пра правілы афармлення дыялога на пісьме.

### Выпраўляем памылкі

**12.** Малады аўтар напісаў у газеце: «З дзікімі кабанамі сустракаюцца хатнія свінні». Якім словам можна замяніць спалучэнне *дзікія кабаны*? Ці могуць быць свінні хатнімі? Якім прыметнікам трэба замяніць слова *хатні*?

### Гаворацць моваэнаўцы

Значэнне шмат якіх фразеалагізмаў выяўляецца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленымі словамі. Фразеалагізм *душа ў душу* — дружна, у поўнай згодзе ўступае ў сувязь толькі з дзеясловамі *жыць*, *пражыць*. Таму нельга гаварыць

або пісаць, скажам, так: *«Мы цяпер з табою будзем сябраваць душа ў душу»* (*І. Лепешаў*).

**13.** Складзіце сказ з фразеалагізмам з тэксту рубрыкі «Гавораць мовазнаўцы». Вызначце, якім членам сказа ён з'яўляецца.

**14.** Да фразеалагізмаў, змешчаных у левым слупку, падбярыце сінанімічныя фразеалагізмы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| Кату па пяту | Кішкі слабыя |
| Даць прачуханца | Толькі пяткі блішчаць |
| Увабрацца ў сілу | На жабін скок |
| Рукі кароткія | Усыпаць бярозавай кашы |
| Як кот наплакаў | Аршын з шапкаю |
| Аж пыл курыць | Стаць на ногі |

### Гэта цікава

У беларускай мове сустракаецца вялікая колькасць запазычаных слоў. Многія з іх трапілі да нас даўно і зараз успрымаюцца як свае, беларускія словы: *бульба*, *вітамін*, *канікулы*, *карта*. Возьмем, напрыклад, слова *канікулы*. Па-лацінску *каніс — сабака*. Рымляне словам *Канікула* называлі сузор'е Вялікага Пса. Так яны называлі і час, калі Сонца пры сваім руху знаходзілася ў гэтым сузор'і (з 22 ліпеня па 23 жніўня), — самыя гарачыя дні лета. На гэты час аб'яўляўся перапынак у занятках. Адсюль назва *канікулы*.

**15.** Патлумачце напісанне слоў з вялікай літары ў прачытаным тэксце. Вызначце, ці можа мець адзіночны лік назоўнік *канікулы*.

**16.** Прачытайце тэкст. Назавіце словы з літарай *ф*. Дакажыце, што яны запазычаныя. Якія прыметы запазычаных слоў вы ведаеце?

Вы прачыталі ў кнізе такую фразу: «Ён ходзіць “фертам”». Як гэта? Каб разгадаць гэту загадку, трэба ведаць, што даўней літара «Ф» называлася «ферт». Цяпер уявіце сабе франтаватага, фарсістага, самазадаволенага, бравага *задаваку*, які ходзіць, узяўшыся рукамі ў бокі. У такой позе чалавек вельмі падобны на літару «Ф». Вось вам і ферт, ферцік, франт, фарсун (*Паводле «Вясёлкі»*).

Прывядзіце прыклады фразеалагізмаў, якія характарызуюць чалавека.

### Вясёлы перапынак

**17.** ***Гульня «Хто больш!».*** Прадоўжыце рад запазычаных слоў, у якіх пішацца літара ***э***.

Купэ, тунэль, маянэз, ветэран...

**18.** Запішыце словы, якія вымаўляюцца так:

[рэццы], [маладз'ба], [п'энал], [с'н'эх], [клас], [з'амл'а], [дз'в'эры].

**19.** Запішыце па-беларуску. Растлумачце напісанне.

а) Патриот, океан, педиатр, гениальный, диалог, фортепиано;

б) яркий огонёк, маленькое окошко, родная землица, неглубокая речушка, ласковый ветерок, сильная струйка, уютное гнёздышко.

**20.** Прачытайце ўрывак з верша Р. Барадуліна. Якія месяцы не названы ва ўрыўку? Растлумачце, як утварыліся назвы беларускіх месяцаў. Ці можна знайсці тлумачэнне назваў у вершы?

**Год**

Ахвочы да прыгод
Круціць, кружыць карагод.
Пачынае пералік:
Студзень,
Люты,
Сакавік.
Студзень студзіць
Рунь густую.
Люты злосны,
Ён лютуе.
Сок пускае сакавік —
Да салодкага прывык.
Следам з краскай
Красавік,
І лясун,
І палявік.
Травень-май
Траву лагодзіць.

Чэрвень
З чырванню прыходзіць.
Ліпень
Ліпам цвет прыносіць.
Жнівень жне,
Атаву косіць...

**21.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да рускіх слоў і параўнайце, як яны ўтварыліся. Растлумачце напісанне.

Предобеденный
Внеклассный
Соцветие
Совместно
Бабушка
Матушка
Бобрёнок
Птенец
Гнёздышко
Большущий

**22.** Падзяліце словы на групы аднакаранёвых. З двума няроднаснымі словамі складзіце сказы.

Насіць, noскі, пераносіца, нос, паднос, насавы, прыносіць, насілкі, заносы.

### Творчая лабараторыя

**Гульня «"Апраніце" корань».**

-холад-, -вод-, -бяроз-, -снеж-

**23.** Аднавіце прапушчанае звяно словаўтваральнага ланцужка.

Вада — вадзяны — ... — вадзяністасць; сонца — ... — бяссонечны; сіні — ... — пасінець; ліст — ... — лісточак; зялёны — ... — зазелянець.

Растлумачце значэнні слоў *вадзяны* і *вадзяністы*. Складзіце з імі словазлучэнні.

### Выпраўляем памылкі

**24.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія словы ў тэксце ўжыты няправільна. Чаму памыліліся сябры? Выпраўце памылкі ў маўленні.

Сустрэўшыся на перапынку, сябры расказвалі, што яны рабілі ў выхадны дзень.

— Я, — кажа Антось, — у кіно хадзіў. Фільм быў такі цікаўны, што я застаўся на паўторны сеанс.

— А я, — перапыняе хлопчыка Алеся, — на асеннім кірмашы была, розных глоністых вырабаў купіла.

— А мне і пахваліцца няма чым, — зазначае Алесь. — Дзень быў такі дажджавы, што я не адважыўся нікуды выйсці. Спрабаваў маляваць, але фарбы былі такія водныя, што малюнак не атрымаўся.

**25.** Шляхам падбору роднасных слоў растлумачце, у чым заключаецца праца *сарціроўшчыка*, *гравіроўшчыка*, *зваршчыка*. Пакажыце, як утварыліся гэтыя словы.

**26.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Вызначце ў іх роднасныя словы. Графічна абазначце карані. З якой мэтай ужываюцца аднакаранёвыя словы ў адным сказе.

1. Касі, каса, пакуль раса; раса далоў — касец дамоў. 2. Калі гром грыміць на зялёны лісток, то будзе багаты гадок. 3. Пакровы пакрываюць зямлю лістом, а то і снегам. 4. Блізкіх людзей бяда яшчэ больш збліжае. 5. Не вучы аратага араць, касца касіць, а сейбіта сеяць.

**27.** Прачытайце пацешкі. Назавіце аднакаранёвыя словы. Растлумачце ролю стылістычных паўтораў у тэксце.

**Благата**

Добраму чалавечку
Добра і ў запечку,
А благой благаце
Не ўнаровіш на куце.

**Лежань. Седзень**

Лежань лежма ляжыць,
Седзень седзьма сядзіць,
Бягун бегма бяжыць,
Крыкун крычма крычыць,
Гультай гульма гуляе,
Абібок бок абівае.

*В. Вітка.*

**Гавораць мовазнаўцы**

Ёсць многа вельмі пашыраных памылак. Ад слова *дзяўчынка* множны лік будзе не *дзяўчынкі*, а *дзяўчаткі*. *Дзяўчынкі* пішуцца толькі пры лічэбніку: *дзве*, *тры*, *чатыры дзяўчынкі* (*М. Лужанін*).

**28.** Запішыце форму множнага ліку для назоўнікаў *корань*, *ліст*, *прамень*, *пяро*, *селянін*, *грамадзянін.* Зрабіце вывад пра канчаткі назоўнікаў у множным ліку.

**29.** Утварыце неабходныя формы назоўнікаў у словазлучэннях.

**Ісці па (лясы), купіць падарунак (бабуля), ганарыцца (тата), сумаваць па (сяброўкі), купацца ў (рэчка), плыць у (лодка), сядзець на (бераг).**

**30.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Дапішыце канчаткі і раскрыйце дужкі. Патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Запішыце вядомыя вам назвы ядомых грыбоў.

**Не (спяшацца) у палон баравік. Моўчкі цікуе за табой з нейкай схованкі, прыглядаецца. Быццам (хацець) спытаць: «Як завуцца бел.. грыбы? Хто дзе ўладарыць у грыбн.. царстве?» Дык слухай, запамінай, дружа. Першымі ў чэрвен.. з'яўляюцца каласавікі. Яны (расці), калі красуе жыта. Потым разам з пачаткам жніва ў (бары) высыпаюць жніўнікі. А ў верасн.. і кастрычніку грыбнікоў (радаваць) крамяныя лістападнікі. Усе яны родныя браты, але (расці) у розныя поры года. Адрозніць іх можна і па колер.. капялюшыка, і па памеры ножкі. Вось які выбар! На любы густ (*Паводле У. Ягоўдзіка*).**

### Папрацуем перакладчыкамі

**31.** Запішыце па-беларуску. Раскажыце пра адметнасць беларускіх сінтаксічных канструкцый.

**Благодарить отца, смеяться над соседом, писать по новому адресу, идти в лес по грибы, заболеть ангиной.**

**32.** Прачытайце тэксты. Вызначце, да якога стылю і тыпу яны адносяцца. Патлумачце напісанне арфаграм у словах.

**1. Рабіна — з рада кветкавых раслін сямейства ружавых. Вядома 100 відаў. Пашырана дрэва ва ўмераным поясе Паўночнага паўшар'я. На Беларусі ёсць і дзікарослы від — рабіна звычайная. Расце ў падлеску, на палянах, на берагах рэк, у парках, садах, на вуліцах.**

**Лістападныя дрэвы вышынёю 10—25 метраў. Расце рабіна і кустамі. Лісце суцэльнае. Кветкі белыя, светла-жоўтыя**

або чырванаватыя, духмяныя ў шчыткападобных суквеццях. Плод — дробны яблык. Плады маюць у сабе вітамін С, вельмі карысныя (*«Лясная кніга»*).

2. Ішла аднойчы Вос..нь па сце..ках <u>лясных</u>. Спынілася каля Рабінкі. Пазайздросціла, якая яна прыгожая. <u>Паглядзела</u> Восень на Рабінку — пасыпалася адразу з Рабінкі лістота зжаўцелая. Лістота абляцела, а ягады трымаюцца. Ра..злавалася Вос..нь, паклікала да <u>сябе</u> в..тры восен..скія халодныя. Узвылі в..тры, закружыліся, наляцелі на Рабінку з усіх бакоў. Ды толькі нічога ў іх не атрымалася. <u>Ягады</u> як віселі, так і вісяліь.

Яшчэ больш узлавалася Вос..нь. Паклікала маразы <u>восен..скія</u> н..чныя. Пачалі маразы ягады ў ш..рань апранаць, ноч..у прымарожваць. І зноў нічога не атр..малася — <u>трымаюцца</u> ягады на галінках, як і трымаліся.

А Рабінка толькі раду..цца:

— Дзякуй табе, Вос..нь-матухна, за тое, што ягады <u>мае</u> горкія сало..кімі зрабіла. Цяпер яны куды смачнейшымі будуць для <u>гасцей</u> маіх д..ўгачаканых (*Паводле Г. Аўласенкі*).

Якіх гасцей чакала Рабінка? Як дрэўца выглядала на пачатку восені? Пашырце тэкст апісаннем Рабінкі. У якім стылі яно будзе напісана?

Вызначце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца падкрэсленыя словы. У якой форме яны ўжыты ў тэксце?

# НАЗОЎНІК

## «Нам засталася спадчына...»: назоўнікі ўласныя і агульныя, канкрэтныя і абстрактныя, зборныя, рэчыўныя

### *Назоўнікі ўласныя і агульныя*

**Успомнім**

Уласныя назоўнікі — гэта індывідуальныя назвы, якія вылучаюць прадмет з групы агульных: дзядзька *Павел*, горад *Мазыр*, цукерка *«Знічка»*, кот * Яська*.

**1.** Прачытайце тэкст. Выпішыце ўласныя назвы. Што яны абазначаюць? Якая роля ўласных назоўнікаў у тэксце?

**У кожнай назве паселішча сваё паняцце. Проста так яно не з'явілася. Яно нясе пэўны сэнс, мае сваё тлумачэнне. Ёсць зразумелыя назвы. Вёска Залессе некалі ўзнікла за лесам, Загор'е — за гарой. Вёска Кавалі ўславіла сваіх даўнейшых майстроў-кавалёў. А вось адкуль назва Ваўчкі? Вучоныя тлумачаць, што імя Воўк старажытныя людзі давалі дзецям, каб абараніць ад злых духаў. Імя-мянушка перайшло ў назву вёскі, дзе жыў радавод Ваўкоў, Ваўчкоў (*Паводле У. Ліпскага*).**

Паспрабуйце растлумачыць назву свайго паселішча. Раскажыце легенды ці паданні пра гісторыю свайго роднага кутка. Складзіце спіс назваў населеных пунктаў вашага раёна.

**2.** Пашырце рады назоўнікаў уласнымі прыкладамі. Што абазначаюць рады запісаных вамі слоў? З трыма словамі складзіце сказы.

**1. Настасся, Васільеўна, Буткевіч...**
**2. Туман, Сняжок, Пярэстая...**
**3. Прыпяць, Нарач, Нёман...**
**4. Брэст, Калінкавічы, Гомель...**
**5. Плутон, Венера, Марс...**
**6. Газета «Звязда», часопіс «Вясёлка»...**
**7. Тэлевізар «Віцязь», шампунь «Вітоша»...**

**3.** Прачытайце тэкст. Адкажыце на пытанні. Назавіце ўласныя і агульныя назоўнікі. Растлумачце іх напісанне.

**Магілёўшчына — радзіма слаўных сыноў беларускай зямлі. Нагадаем прозвішчы некаторых з іх: Пётр Мсціславец, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Вітольд Бялыніцкі-Біруля, Генадзь Аўсянікаў. Хто з іх народны артыст? Хто вядомы мастак? Хто класік беларускай літаратуры? Хто адзін з першадрукароў? (*Паводле «Вясёлкі»*).**

Ці ведаеце вы, што азначае ваша імя і прозвішча? Раскажыце пра славутых землякоў вашай мясцовасці.

### Вясёлы перапынак

4. Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль.

**Раніцы не бачым**

Новая настаўніца знаёміцца з класам. Цікавіцца, якія дзіцячыя выданні вучні ведаюць. Нехта назваў «Вясёлку», хтосьці «Бярозку».

— Ну, а «Раніцу» хто-небудзь з вас бачыў?

— Не, раніцы мы не бачым, — адказаў за ўсіх адзін хлопчык. — Раніцай мы ў школу ідзём (*У. Содаль*).

Чаму хлопчык так адказаў настаўніцы? У чым ён памыліўся? Запішыце вядомыя вам назвы часопісаў. Складзіце з імі некалькі сказаў.

5. Вядома, што многа ўласных назоўнікаў узнікла ад агульных. Аднак бывае і наадварот. Паспрабуйце растлумачыць, ад якіх уласных назоўнікаў утварыліся словы *панама*, *маўзер*, *рэнтген.*

6. **Гульня «Хто больш!».** Запішыце як мага больш назваў беларускіх гарадоў, вёсак, рэк, азёр, імёнаў беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. З трыма назвамі пабудуйце словазлучэнні, растлумачце іх напісанне.

## *Назоўнікі канкрэтныя, абстрактныя, зборныя, рэчыўныя*

### Успомнім

Да канкрэтных адносяцца назоўнікі, якія называюць прадметы, што можна палічыць. Большасць канкрэтных назоўнікаў, за выключэннем уласных (*Нарач*, *Баранавічы*) і некаторых агульных (*абцугі*, *сані*), маюць формы адзіночнага і множнага ліку.

Абстрактныя, зборныя і рэчыўныя назоўнікі супрацьпастаўляюцца канкрэтным. Гэтыя групы назоўнікаў абазначаюць прадметы, якія немагчыма палічыць, таму ў асноўным ужываюцца толькі ў адзіночным ліку.

**Граматычнае сіта**

**1.** Прачытайце тэкст. Чаму ўсмешка вярнулася да чалавека? Падбярыце да тэксту загаловак. Выпішыце па два канкрэтныя, абстрактныя, зборныя і рэчыўныя назоўнікі. Растлумачце значэнні выдзеленых фразеалагізмаў.

У аднаго чалавека прапала ўсмешка.

— Браток, што з табой здарылася? — здзівіўся сусед. — Поле пустазеллем зарастае, а ты ***лынды б'еш***. На твары ні кроплі радасці, а толькі сум. Без усмешкі цяжка жыць.

Пайшоў чалавек у лес. Бачыць, на лісці пад ялінай спіць яго ўсмешка.

— Уставай! — крыкнуў чалавек. — Цяжка без цябе жыць: усё ***з рук валіцца***.

Усмешка толькі павярнулася на другі бок. Чалавек разгубіўся, не ведае, што рабіць.

Раптам перад ім з'явіўся Крумкач і параіў:

— Ідзі дадому, поле ўзары, пасей гарох, лён, грэчку. Калі вырастуць, зацвітуць, тады і твая ўсмешка вернецца.

Чалавек зрабіў так, як параіў яму Крумкач... І ўсмешка вярнулася (*Паводле А. Якімовіча*).

**2.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Выпішыце канкрэтныя і абстрактныя назоўнікі. Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.

Дзеці — спадарожнікі планеты Сям'я. На ёй яны напаўняюцца мудрасцю, сілай, жыццёвым зарадам. І, адчуўшы моц у крылах, з дапамогай бацькоў узлятаюць на сваю арбіту. Ствараюць сваю жыццёвую планету «Я». Так было. Так ёсць. Так будзе.

Хай кожнае чалавечае Я стане вобразам Дабрыні, Розуму і Любові. Тады і мы станем Людзьмі. Можа, тады і Зямля наша ператворыцца ў планету Шчасця? (*Паводле У. Ліпскага*).

Пры якой умове Зямля можа стаць планетай Шчасця?

**Успомнім**

Зборныя назоўнікі абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў як адно цэлае і не могуць мець формы множнага ліку (*лісце*, *калоссе*, *вучнёўства*).

У множным ліку большасць назоўнікаў мае канчаткі **-і**, **-ы**. Але: *мінчане*, *сяляне* і інш.

**Вясёлы перапынак**

3. Прачытайце смяшынку. Знайдзіце ў тэксце зборны назоўнік. Якія назоўнікі з тэксту называюць асоб? Як называюцца такія назоўнікі?

**Хто нарабіў смецця?**

Маці прагульваецца з Косцікам. Дворнік мяце вуліцу. Хлопчык глядзеў, глядзеў на дворніка і кажа:

— Мама, а чаму дзядзя нарабіў столькі смецця? (*А. Хітрун*).

**Стол даведак**

Ці з'яўляюцца зборнымі назоўнікі *народ, статак, зграя*?

Гэтыя назоўнікі абазначаюць сукупнасць прадметаў, якія можна палічыць: *народ* — *народы*, *статак* — *статкі*, *зграя* — *зграі*. Таму яны не з'яўляюцца зборнымі.

4. Выпішыце зборныя назоўнікі. Складзіце з імі словазлучэнні.

Кусты, сум, лістота, хваля, малацьба, станцыя, ртуць, радня, алешнік, бруссе, блакіт, помста, арэлі, садавіна, каханне, каменне, сяржант, гуслі, паркаль.

**Лінгвістычны каментарый**

Да рэчыўных назоўнікаў адносяцца назвы рэчываў, якія можна падзяліць на часткі.

*Увага!* Частка мае асаблівасці цэлага: *малако*, *хлеб*, *золата*, *цэмент*, *шоўк*, *аспірын*.

Асноўная прымета рэчыўных назоўнікаў — ужыванне ў форме адзіночнага ліку. Аднак некаторыя назоўнікі маюць толькі форму множнага ліку (*дрожджы*, *духі*, *апілкі*).

Рэчыўныя назоўнікі спалучаюцца са словамі *шмат*, *многа*, *нямнога*, з адзінкамі меры даўжыні і вагі (*шмат соды*, *кілаграм мёду*).

5. Адгадайце загадкі. Да якога разраду назоўнікаў адносяцца словы-адгадкі?

1. Белае палатно, а пад ім халадно. 2. Без ног бяжыць, без вачэй глядзіць. 3. Вадкае, а не вада, белае, а не снег. 3. У вадзе нарадзілася, а вады баіцца.

**6.** Прачытайце тэкст. Пра якія пацеркі расказвае аўтар? Выпішыце з тэксту канкрэтныя, абстрактныя і рэчыўныя назоўнікі. Растлумачце значэнні прыказак.

Дзяўчаткі змалку любяць упрыгожанні. Бываюць яны з бурштыну, шкла, бісеру, з каштоўных камянёў. Фантазёркі прыдумляюць сабе пацеркі з ракавінак, жалудоў, рамонкаў.

А мне ўяўляюцца пацеркі са слоў. Слова да слова, і атрымліваюцца «пацеркі» — прыказкі і прымаўкі, у якіх адлюстравана народная мудрасць.

Розуму грашыма не заменіш. Адна рука і вузла не звяжа. Не ўсё тое золата, што блішчыць. Працавітага да работы не панукаюць (*Паводле У. Ліпскага*).

**Стол даведак**

Мая мама прадавец. Сёння яна сказала, што ў магазін прывезлі розныя сыры і мінеральныя воды. Аднак сыр і вада — рэчыўныя назоўнікі. Яны не могуць ужывацца ў множным ліку. Значыць, мама няправільна ўжыла форму назоўнікаў?

Некаторыя рэчыўныя назоўнікі могуць ужывацца ў множным ліку: *снягі Антарктыды*, *пяскі пустыні*, *галандскія сыры*. У такім выпадку трошкі змяняецца значэнне слоў. Словы *сыр*, *вада* і інш. ужываюцца ў множным ліку, калі размова ідзе пра розныя гатункі вырабаў.

**7.** Вызначце, якія з запісаных рэчыўных назоўнікаў могуць ужывацца ў множным ліку. Ці змяняецца пры гэтым іх значэнне?

Сок, цукар, соль, кісель, рыс.

**8.** Запоўніце табліцу прапанаванымі назоўнікамі.

| Уласныя | Агульныя | | | |
|---|---|---|---|---|
| | канкрэтныя | абстрактныя | рэчыўныя | зборныя |
| | | | | |

Сож, чысціня, цукар, алешнік, радасць, аксаміт, моладзь, прыгажосць, праспект, бег, Кузьма, лісце, саломіна,

кава, Сатурн, лістота, пясок, абыякавасць, Венера, абеліск, прызнанне, Мястра, марганец, вадарод, нафта, дрожджы.

**9.** Прачытайце.

Паштальён прынёс для Глеба лісток, на якім было надрукавана:

*Віншую паступленнем гімназію Цалую Тата*

Глеб узрадаваўся, але не зразумеў, чаму так дзіўна гэта віншаванне напісана.

Што падалося Глебу дзіўным? Што за лісток атрымаў хлопчык?

**Гэта цікава**

Слова *тэлеграма* ўтварылася з двух замежных слоў: *тэле* — далёка, *грама* — запіс.

**Стол даведак**

Чаму ў тэксце тэлеграмы не ўжываюцца словы-памочнікі — прыназоўнікі і не ставяцца знакі прыпынку?

У тэлеграме інфармацыя падаецца коратка, таму што трэба плаціць грошы за кожнае слова. Людзі дамовіліся не пісаць словы-памочнікі і не ставіць знакі прыпынку.

**10.** Перачытайце тэлеграму з практыкавання 9. Запішыце яе змест у форме сказаў.

**Спроба пяра**

**11.** Напішыце тэлеграму свайму сябру, родным.

## *«А слова — сапраўды жывая рэч...»*: адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі

**Успомнім**

У граматыцы да адушаўлёных назоўнікаў адносяцца назвы жывых прадметаў, якія могуць самастойна рухацца. Да неадушаўлёных адносяцца назвы нежывых прадметаў і назвы раслін (*трактар*, *вада*, *апенька*, *ліпа*).

**1.** Прачытайце тэкст. Адгадайце загадку В. Зуёнка. Выпішыце асобна адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі. Назавіце асабовыя назоўнікі.

**Жывы гадзіннік**

Ёсць каса, ды не кашу,
Грэбень ёсць, ды не чашуся,
Шпоры на нагах нашу,
Ды ў жакеі не імкнуся,
Не актор, а голас маю,
Як магу, так і спяваю.
А ў той песні сэнс адзіны:
Я адлічваю гадзіны,
Знаю час і ўдзень, і ў цемень,
Я жывы гадзіннік — ...

**Стол даведак**

Чаму словы *лялька*, *дамавік*, *карп* (страва) адносяцца да адушаўлёных назоўнікаў?

Каб вызначыць, адушаўлёным ці неадушаўлёным з'яўляецца назоўнік, трэба параўнаць яго форму ў вінавальным склоне множнага ліку з формамі роднага і назоўнага склонаў множнага ліку. Калі форма В. скл. = форме Р. скл. (*дамавікоў* (*В. скл.*) — *дамавікоў* (*Р. скл.*); *лялек* (*В. скл.*) — *лялек* (*Р. скл.*)), то назоўнік адушаўлёны, калі форма В. скл. = = форме Н. скл. (*баравікі* (*В. скл.*) — *баравікі* (*Н. скл.*); *азёры* (*В. скл.*) — *азёры* (*Н. скл.*)), — назоўнік неадушаўлёны.

*Заўвага!* Для назоўнікаў мужчынскага роду можна параўноўваць формы ў адзіночным ліку (*карпа* (В. скл.) — *карпа* (*Р. скл.*), *баравік* (*В. скл.*) — *баравік* (*Н. скл.*)).

**Граматычнае сіта**

**2.** Размяжуйце адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі. Назавіце асабовыя назоўнікі. З двума адушаўлёнымі назоўнікамі складзіце сказы.

Вадзянік, ліпа, валет, кенгуру, вяз, лялька, туз, будаўнік, мурашнік, сабака, дзіцця, алібі, народ, вавёрачка (цацка), князь, лешч (страва), валошка, вучань, мурашнік, акадэмік, ліпа, калібры, гваздзік, чарот.

## *«Наш пярэсты какаду...»*: цяжкасці ў вызначэнні роду назоўнікаў. Назоўнікі агульнага роду

### Успомнім

**У адзіночным ліку назоўнікі адносяцца да аднаго з трох родаў: мужчынскага (*Алег*, *сабака*, *дзядуля*), жаночага (*сяброўка*, *Вераніка*, *паліца*) і ніякага (*возера*, *дзіця*, *полымя*). Назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку (*Пухавічы*, *Сілічы*, *канікулы*, *нажніцы*), роду не маюць.**

**1.** Адгадайце загадкі. Выпішыце з тэксту назоўнікі, вызначце іх род. Якога роду адгадкі?

Яго пакінуў гаспадар
І сам паехаў на базар.
Ад дзвярэй ён ні на крок,
Бо завуць яго...

*В. Шніп.*

Стаіць за ракою
Духмянай гарой.
Ён так даспадобы
Кароўкам зімой.

*П. Саковіч.*

### Граматычнае сіта

**2.** Размяркуйце назоўнікі па групах у залежнасці ад родавай прыналежнасці.

| Мужчынскі | Жаночы | Ніякі | Не адносяцца ні да якога роду |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |

**Цюль, вермішэль, Егіпет, паездка, вогнішча, валяр'ян, грошы, дзяржава, пажарышча, Венера, прэм'ер, Баранавічы, духі, какава, імя, Арктыка, капуста, племя, паселішча, смеласць.**

### Творчая лабараторыя

**3.** Вам прапанавалі прарэкламаваць какава і вермішэль. Паспрабуйце зрабіць гэта, ужываючы пры назоўніках прыметнікі ў неабходнай форме.

### Успомнім

**У беларускай і рускай мовах род назоўнікаў, якія падобна гучаць, часам не супадае: *белая гусь — белый гусь*,**

***старажытны рукапіс — древняя рукопись, валяр'ян расцвіў — валерьяна расцвела, бабуліна камода — бабушкин комод*** **і інш.**

### Вясёлы перапынак

**4.** Прачытайце тэкст. Запішыце выдзеленыя словы ў пачатковай форме, вызначце іх род.

**Неяк адна цётачка выганяе *гусей* з агарода:**

**— Агыля, *сабакі*! — махае на іх сваім дубчыкам.**

**— Якія гэта сабакі?! Гэта ж гусі! — запярэчыў сусед.**

**— Якія гэта гусі?! Гэта *свінні*. Бач, як увесь агарод змясілі (*У. Содаль*).**

### Папрацуем перакладчыкамі

**5.** Да рускіх слоў падбярыце беларускія адпаведнікі. Вызначце род назоўнікаў. З трыма словамі пабудуйце сказы.

| Руская мова | Беларуская мова |
|---|---|
| боль | |
| гусь | |
| запись | |
| лебедь | |
| медаль | |
| насыпь | |
| педаль | |

**6.** Знайдзіце «чацвёртае лішняе». З названымі словамі складзіце словазлучэнні.

**1) Цюль, сабака, стэп, рунь;**
**2) кішэнь, квецень, шампунь, вуаль;**
**3) палын, шынель, подпіс, шэрань.**

### Лінгвістычны каментарый

**Адушаўлёныя нескланяльныя назоўнікі могуць абазначаць назвы асоб і жывёл. Назоўнікі, што абазначаюць асоб жаночага полу (*мадам*, *фрау*, *Люсі*), адносяцца да жаночага роду. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу**

(*канферансье*, *містэр*, *Вано*), — да мужчынскага роду. Нескланяльныя назвы жывёл адносяцца да мужчынскага роду (*какаду*, *гну*).

Неадушаўлёныя агульныя нескланяльныя назоўнікі ў асноўным належаць да ніякага роду (*пенснэ*, *бра*, *піяніна*).

**7.** Запішыце прыметнікі і дзеясловы ў неабходнай форме.

Было ціха. Спа.. магутн.. арангутанг, драма.. гарыла, храпе.. шымпанзэ. Толькі шустр.. макака ніяк не хаце.. супакоіцца. Задуменн.. гну жава.. сена. Гіганцк.. боа спа.., утульна скруціўшыся ў клубок. З сумкі шэр.. кенгуру выглядвала дзіцянё. Амерыканск.. лама моўчкі глядзе.. навокал. Зграбн.. газель пашчыпва.. траўку (*Паводле В. Служэўскай*).

**Стол даведак**

**Ці можна сказаць *смачны івасі*, *свежае салямі*, *прыгожае пенальці*?**

Род некаторых адушаўлёных (*івасі*, *цэцэ*) і неадушаўлёных (*салямі*, *кальрабі*, *пенальці*, *сірока*) назоўнікаў вызначаецца па агульным слове. Назоўнікі *івасі*, *цэцэ*, *салямі*, *кальрабі*, *авеню* жаночага роду, бо да жаночага роду адносяцца словы *рыба*, *муха*, *каўбаса*, *капуста*, *вуліца*. Мужчынскі род назоўнікаў *пенальці* і *сірока* тлумачыцца мужчынскім родам слоў *удар* і *вецер*. Таму правільна будзе сказаць *смачная івасі*, *свежая салямі*, *прыгожы пенальці*.

**8.** Спішыце тэкст, дапісваючы канчаткі прыметнікаў.

Шумн.. мнагалюдн.. Осла. На галоўн.. авеню — утульн.. кафэ «Пярэст.. какаду». Гучыць прыемн.. сапрана.

За столікам каля акна, дзе стаіць арыгінальн.. кашпо, сядзяць юн.. лэдзі і яе сяброўка. На адной з іх свабодн.. норкав.. манто, на другой — прыгож.. паліто. Абедзве ядуць бутэрброды з апетытн.. салямі і салат са свеж.. кальрабі. На дэсерт у іх будзе чорн.. кава, абрыкосав.. суфле і свеж.. безэ (*Паводле В. Служэўскай*).

## Гэта цікава

Слова *суфле* прыйшло да нас з французскай мовы. *Суфле* літаральна — «надзьмуты пірог» (аснову суфле складаюць узбітыя яйкі).

## Лінгвістычны каментарый

Род нескланяльных неадушаўлёных уласных назоўнікаў вызначаецца паводле роду адпаведнага агульнага назоўніка (*Тбілісі* — мужчынскага роду, таму што горад, *Ай-Петры* — жаночага роду, таму што гара, *Ківу* — ніякага роду, таму што возера).

*Увага!* Род зменных назоўнікаў вызначаецца па канчатках: *Селігер* (возера) — м. р, бо змяняецца як слова *вечар*; *Свіцязь* (возера) — ж. р., таму што змяняецца як назоўнік *дробязь*.

## Спроба пяра

**9.** Складзіце невялічкае апавяданне, каб з кантэксту вашы сябры здагадаліся, што Мумба — гэта возера, Юмба — гэта рака, Саіці — гэта горад, а Ісіці — вёска.

## Выпраўляем памылкі

Пры адказе на пытанне настаўніка: «Да якога роду адносяцца назоўнікі *доктар*, *лабарант* у словазлучэннях *доктар Кавалёва*, *лабарант Васільева*?» Алесь адзначыў, што такія назоўнікі адносяцца да жаночага роду. Ці згодны вы з Алесем?

## Успомнім

Назвы асоб паводле прафесіі ці роду заняткаў (*арнітолаг*, *дэпутат*, *прафесар*) адносяцца да мужчынскага роду.

**10.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў і дзеясловаў.

Ганна Міхайлаўна Паддубская — выдатн.. кіраўнік гуртка «Роднае слова». Яна — цудоўн.. педагог. Заслужан.. настаўнік, Ганна Міхайлаўна кірава.. гуртком на працягу

дзесяці гадоў. За гэты час наш.. кіраўнік падрыхтава.. нямала знаўцаў роднай мовы.

**11.** ***Лінгвістычная задача.*** Вельмі часта можна пачуць: *«Якая малайчына гэта дзяўчынка!», «Які малайчына гэты хлопчык!»* Што гэта за слова такое *«малайчына»*? Якога яно роду? Назавіце назоўнікі, якія маюць такі ж самы род, як і назоўнік *малайчына*.

### Лінгвістычны каментарый

Назоўнікі агульнага роду могуць праяўляць уласцівасці то мужчынскага, то жаночага роду (*са скнарам Антосем* і *са скнарай Ганнай*), але сцвярджаць, што яны ўжыты ў мужчынскім ці жаночым родзе, нельга. Гэта назоўнікі агульнага роду. Аднак іх канчаткі залежаць ад полу асобы, якую такія назоўнікі абазначаюць.

**12.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў і вызначце род назоўнікаў.

Каштоўн.. жэньшэнь, нов.. настаўнік Ганчарова, сонечн.. Батумі, вечн.. зубрыла Вераніка, прав.. педаль, дзіўн.. хвалько Піліп, горк.. алоэ, прыгож.. бра, глыбок.. возера Антарыа, аўстралійск.. кенгуру, цацачн.. поні, гультаяват.. беларучка Максім, балюч.. мазоль.

### Спроба пяра

**13.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Падзяліце тэкст на часткі, знайдзіце ключавыя словы. Назавіце назоўнікі, вызначце іх род.

Юрка нешта доўга майстраваў на кухні. Праз нейкі час ён ціхенька паклікаў дзядулю і прашаптаў: «Я змайстраваў «машыну часу». Пайшлі — пакажу». Зайшоўшы на кухню, дзядуля ўбачыў незвычайную канструкцыю з посуду і хатняга начыння.

— Унучак, а куды ты хочаш патрапіць на гэтай машыне? — запытаўся дзед. — У мінулае ці ў будучае?

— Не, дзядуля, я хачу апынуцца ў краіне кніг. Паедзеш са мной у падарожжа? У нашай дзіцячай бібліятэцы столькі кніжак — аж вочы разбягаюцца. Дапамажы разабрацца, якія прачытаць у першую чаргу.

— Ну, тады сядай! Паляцелі!..

**14.** Якія кніжкі вы параілі б прачытаць Юрку. Дапішыце апавяданне «Падарожжа ў краіну кніг», ужываючы зменныя і нязменныя назоўнікі.

## *«У роднай мовы моцнае карэнне...»*: назоўнікі адзіночнага і множнага ліку

### Успомнім

**Формы адзіночнага і множнага ліку маюць назоўнікі, якія называюць прадметы, што можна палічыць (*хата — хаты*, *чалавек — людзі*, *племя — плямёны*). Назвы прадметаў, якія немагчыма палічыць, ужываюцца толькі ў форме адзіночнага (*радасць*, *пясок*) ці множнага (*духі́*, *Калінкавічы*) ліку.**

**1.** Пашырце рады назоўнікаў, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку. Растлумачце, паводле якога значэння назоўнікі аб'яднаны ў адну групу.

1) Васіль, Панчанка, Нясвіж...
2) сівізна, гарэнне, адчай...
3) нафта, мука, аспірын...
4) праменне, мэбля, моладзь...

### Выпраўляем памылкі

Настаўніца прапанавала да слоў *ліст*, *прамень*, *корань* падабраць назоўнікі ў форме множнага ліку. Алег запісаў наступныя словы: *лісце*, *праменне*, *карэнне*. Ці правільна хлопчык выканаў заданне?

*Заўвага!* Зборныя назоўнікі не могуць мець формы множнага ліку.

### Творчая лабараторыя

**2.** Складзіце крыжаванку, выкарыстоўваючы словы *Тэлеханы*, *канікулы*, *акуляры*, *абцугі*, *грошы*, *выбары*, *дровы*, *сані*, *нажніцы*, *вілы.* Растлумачце, што абазначаюць названыя назоўнікі. Ці могуць яны ўжывацца ў форме адзіночнага ліку?

**3.** Запішыце рады слоў. У кожным з іх вызначце «лішняе». Абгрунтуйце свой выбар. Падкрэсліце назоўнікі, якія маюць толькі форму множнага ліку.

1. Нажніцы, алоўкі, абцугі, шчыпцы.
2. Маладосць, адказнасць, радасць, постаць.
3. Апілкі, дрожджы, грошы, дзённікі.
4. Шчэбень, бетон, цэгла, камень.
5. Вусны, замаразкі, маланкі, суткі.
6. Граблі, крупы, арэхі, санкі.
7. Мука, малако, соль, яблык.

**4.** Прачытайце верш М. Пазнякова «Ягады». Назавіце назоўнікі, якія адрозніваюцца лікам у рускай і беларускай мовах. Калі ўжываюцца назоўнікі *маліна*, *ажына*?

З мамай я збіраў суніцы,
А з бабуляю — чарніцы,
Ездзіў з татам у маліны,
А з дзядулем — у ажыны.
А сягоння мы з сястрыцай
Пойдзем разам у брусніцы,
Запрасілі сябрукі
Нас назаўтра ў буякі.
З кожнай, кожнай ягадай
Павітацца рады я.

**5.** Вызначце асаблівасці ўжывання формаў ліку падкрэсленых назоўнікаў.

1. Мая Беларусь у рамонку і верасе (*П. Панчанка*). 2. Усе мы не можам выбраць вольнай хвіліны, каб наведаць свае мясціны — Глыбачкі, Жывалкі, Замошшы (*Р. Барадулін*). 3. Зіма пайшла, свае забраўшы страхі ў ледзяную скрыню за плячыма (*І. Багдановіч*). 4. Мужнасць не згарэла ў Хатынях. Слава на Курганы ўзышла (*Ю. Свірка*). 5. Ідуць спакойна халады, на плечы ўскінуўшы завеі (*Р. Барадулін*). 6. Там, дзе гулі пшаніцы і жыты, стаяць снапы, як рыжыя браты (*П. Панчанка*).

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. На аснове якіх прымет мы адносім словы да назоўнікаў?

2. Якія прыметы дапамагаюць адрозніць канкрэтныя і абстрактныя, зборныя, рэчыўныя назоўнікі?

3. Ці могуць рэчыўныя назоўнікі мець форму множнага ліку? Прывядзіце свае прыклады.

4. Прывядзіце прыклады ўласных назоўнікаў у форме множнага ліку. Складзіце з імі сказы.

5. Якія назоўнікі з'яўляюцца асабовымі: *конь*, *волат*, *Алесь*, *камбайн*, *сям'я*, *зубр*, *дырэктар*, *крот*, *часопіс*?

6. Якія граматычныя прыметы дапамагаюць нам аднесці назоўнікі *лялька*, *робат*, *лясун*, *конь* (шахматная фігура), *тапелец* да адушаўлёных?

7. Ці адносяцца да адушаўлёных назоўнікаў назвы раслін *папараць*, *яблыня*, *рамонак*, *валошка*, *падбел*?

8. У якіх назоўнікаў вызначыць род немагчыма?

9. Як вызначыць род нескланяльных назоўнікаў?

10. Прывядзіце прыклады назоўнікаў, якія ў рускай і беларускай мовах адрозніваюцца родам.

11. Да якога роду адносяцца назоўнікі, што абазначаюць асоб па прафесіі: *інжынер*, *кандуктар*, *заатэхнік*, *брыгадзір*?

12. Ці можна сцвярджаць, што назоўнікі тыпу *забіяка* Вера, *чысцёха* Ганна адносяцца да жаночага роду?

13. Ці маюць форму множнага ліку словы *малако*, *цукар*, *варэнне*? Дакажыце.

## *Асцярожна, роднае слова*: канчаткі назоўнікаў у адзіночным ліку

**1.** Адгадайце загадку М. Пазнякова. Як называюцца словы, якія аднолькава гучаць, але маюць рознае значэнне?

Ён — з граматыкі,
Пры гэтым
Усяго іх —
Роўна шэсць.

А по мне
Промчишься с ветром,
Если снег
И санки есть.

**Лінгвістычны каментарый**

Змяненне назоўнікаў па ліках і склонах называецца скланеннем. Скланеннем называюцца і групы слоў, аб'яднаныя аднолькавым словазмяненнем.

*Заўвага!* Назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку (*цымбалы*, *Віскулі*), не адносяцца ні да якога тыпу скланення.

### Гаворань моваЗнаўцы

2. Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Падрыхтуйцеся да паведамлення «Чаму так называюцца склоны».

Паняцце *склон* (рускае *падеж*) прыйшло, відаць, з практыкі ігракоў у косці. У іх мове яно абазначала падзенне кінутай уверх косці пад тым ці іншым вуглом. Такім чынам, скланенне — гэта падзенне слова, змяненне канчаткаў у слове. *Назоўны* — гэта «*пачатковы*» склон, *прамы* — у адрозненне ад астатніх, якія падалі не прама, а пад вуглом (так званыя *ўскосныя склоны*). *Родны* склон атрымаў сваю назву таму, што ён можа абазначаць родавую прыналежнасць, паходжанне (*сын настаўніка*, *падарунак бацькі*). *Давальны* склон называецца так па сваёй сувязі з дзеясловам *даць* (*каму? — маці*, *сястры*, *брату*). Назва *вінавальнага* склона паходзіць ад лацінскага *causa — віна, прычына*. *Творны* названы паводле аднаго са сваіх значэнняў, якое паказвае, з дапамогай чаго адбываецца дзеянне: *пісаць алоўкам*, *дабірацца аўтобусам*. *Месны* склон атрымаў сваю назву з той прычыны, што ён можа абазначаць месца: *у полі*, *у лесе*, *на паляне* і г. д. (*Паводле Л. Васюковіч*).

### Граматычнае сіта

3. Вы часта просіце бацькоў купіць вам нешта смачненькае. Раскладзіце ў тры вазачкі словы-назоўнікі 1, 2 і 3-га скланення. Які тып асновы маюць падкрэсленыя назоўнікі? Складзіце табліцу «Асновы назоўнікаў».

Пячэнне, вафелька, мармелад, халва, рагалік, булачка, клубніцы, карамель, слодыч, пернік, рагалік, чарэшня.

### Вясёлы перапынак

4. Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце, у якім склоне ўжыты назоўнікі ў першых двух сказах. Выпішыце з тэксту назоўнікі ў пачатковай форме і вызначце тып скланення.

Вясковы хлопчык упершыню прыехаў у горад да сваякоў.

У кватэры на пятым паверсе дзеці пачалі бегаць, шумець.

Гаспадыня кватэры зрабіла заўвагу:

— Ціха, не насіцеся так — пад намі ж людзі!

Вясковы госць моцна здзівіўся:

— У вас пад падлогай людзі?! А ў нас — мышы (*А. Нафрановіч*).

Ці маюць словы *дзеці*, *людзі* формы адзіночнага ліку?

## *Канчаткі назоўнікаў 1-га скланення*

### Успомнім

**1.** Разгледзьце табліцу. Успомніце, якія назоўнікі адносяцца да першага скланення. Папоўніце графы табліцы ўласнымі прыкладамі.

| Назоўнікі жаночага роду з канчаткамі **-а**, **-я** | Назоўнікі агульнага роду, якія абазначаюць асобу жаночага полу | Назоўнікі мужчынскага роду з націскам на канчатку | Назоўнікі агульнага роду, што абазначаюць асоб мужчынскага полу, з націскам на канчатку |
|---|---|---|---|
| *вярба*, *зграя*, *Тамара* | *сведка Алеся*, *ціхоня Настасся* | *старшыня́*, *Крапіва́*, *Кузьма́* | *тамада́ Алесь*, *сарвігалава́ ўнук* |

### Стол даведак

Чаму назоўнікі з асновай на **г**, **к**, **х** у давальным і месным склонах маюць розныя канчаткі: *на дарозе*, *на страсе*, *гутарцы*, *руцэ*, *на шчацэ*? Ад чаго гэта залежыць?

Назоўнікі з асновай на **г**, **к**, **х** могуць мець канчаткі **-е**, **-ы**, **-э**. Канчатак **-е** маюць назоўнікі з асновай на **[г]** і **[х]**, якія пры змяненні слова чаргуюцца з [з'] і [с'] (*трывозе*, *на страсе*, *у біклазе*, *пры ткачысе*). Назоўнікі з асновай на **[к]**, што пры змяненні слова чаргуецца з [ц], могуць мець канчатак **-ы** або **-э**. Параўнаем: націск на канчатку *рака́ — рацэ́*, націск на аснове *суке́нка*, *све́дка Алеся — суке́нцы*, *све́дцы Алесі*.

### Вясёлы перапынак

**2.** Прачытайце скорагаворку Г. Аўласенкі. Знайдзіце назоўнікі першага скланення. Растлумачце правапіс канчаткаў.

**У руцэ была мука,**
**У муцэ была рука.**
**Ды рука схапіла мыла —**
**І муку вадою змыла.**

**3.** Адгадайце загадкі У. Мазго. Вызначце, на які зычны заканчваюцца асновы ў словах-адгадках. Словы-адгадкі запішыце ў давальным і месным склонах.

**Дом-палац стаіць высокі.**
**Нашых ведаў там вытокі.**
**Радасць свеціцца наўкола...**
**Ну вядома, гэта — ... .**

**Яна — крыніца ведаў,**
**Яна — рэцэпт ад бедаў,**
**Ад невуцтва, ад ліха,**
**Скарынаўская — ... .**

**Круглы твар яе,**
**Здаецца,**
**Уначы**
**З мяне смяецца.**
**Раніцаю**
**Зноў успомню**
**Нада мною**
**У небе ... .**

**Напрадвесні любім мы**
**Свята провадаў зімы.**
**Назавеш —**
**І адначасна**
**Стане посудам**
**Для масла.**

**4.** Пашырце сказы назоўнікамі ў родным, давальным і месным склонах, адказаўшы на пытанні.

**Тэлеграма прыйшла (ад каго?) ...**
**Ліст адрасаваны (каму?) ...**
**Дзядуля засумаваў (па кім?) ...**

***Для даведкі*: Маша, Марыя Аляксееўна, Ліда, Лідзія Яўгенаўна, Валя, Валянціна Андрэеўна, Анюта, Ганна Міхайлаўна, Каця, Кацярына Уладзіміраўна, Даша, Дар'я Сяргееўна.**

Запішыце імёны пяці дзяўчынак вашага класа ў месным склоне. Растлумачце правапіс канчаткаў.

**5.** Запішыце словазлучэнні, паставіўшы назоўнікі ў форме меснага склону адзіночнага ліку.

Сквапная сарока, таленавіты Кандрат Крапіва, сірата Алег, цёзка Аляксандра, задзіра Тамаш, стары дзед, дзікая качка, задавака Кацярына, драўляная падлога, чароўная жар-птушка, разумная дачка, знаходлівы творца, новы суддзя, старшыня калгаса.

**6.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыказак. Спішыце, раскрываючы дужкі.

1. Пашкадаваць чалавека ў (бяда) лягчэй, чым (справа) дапамагчы. 2. Дагледзь каня дома, то ён цябе ў (дарога). 3. Рыбка ў (рака), а шчасце ў (рука). 4. Жыць у чужой (старонка), як на скале адзінокай (сасонка). 5. Па (работа) і плата.

**7.** Запішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс назоўнікаў першага скланення.

1. Матуля папрасіла (Алеся) дапамагчы ёй па (гаспадарка). І загадала да сябровак не бегаць. Яна і не бегала.

Зайшла толькі на хвілінку да (Люся). Потым зазірнула да (Даша), а па (дарога) дамоў звярнула да (Марыля). Яшчэ дапамагла (суседка) (Людміла Пятроўна). Затым зайшла да (Дар'я Антонаўна) і (Марыя Кірылаўна) паглядзець на іх птушачку. І ўсё. Больш нікуды не хадзіла. Нават да (Таццяна Васільеўна), хоць яна заўсёды такімі смачнымі цукеркамі частуе. І нават у (Таня) не была. І чаму толькі нічога не паспела зрабіць? (*Паводле І. Кляніцкай*).

2. Лёля — багіня (вясна) у беларускай (міфалогія). Беларусам яна ўяўлялася маладзенькай, прыгожай (дзяўчына) з залатой (каса). Лёля была (дачка) марскога цара. Яна плавала па моры ў залатой (лодка) з сярэбранымі вёсламі.

І сёння прыгожую і стройную (дзяўчына) параўноўваюць з (Лёля) (*Паводле «Вясёлкі»*).

## *Канчаткі назоўнікаў 2-га скланення*

**1.** Дапоўніце рады ўласнымі прыкладамі. Адкажыце, якія назоўнікі адносяцца да другога скланення.

1) край, брат, шынель, Максім...
2) сяло, жыта, жыццё, зелле...
3) бярэмя, цемя, вымя...

**Успомнім**

Адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду маюць у родным склоне канчаткі **-*а*** (**-*я***): *суседа*, *каня*, *тапельца*, *геолага*, *Васіля*.

Неадушаўлёныя назоўнікі могуць мець канчатак **-*а*** (**-*я***) або **-*у*** (**-*ю***).

**2.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйцеся да паведамлення «Канчаткі назоўнікаў у родным склоне». Прывядзіце ўласныя прыклады.

| Канчаткі **-*у*** (**-*ю***) маюць назвы | Выключэнні |
|---|---|
| 1) рэчываў, тканін, лекаў, матэрыялаў: *пяску*, *паркалю*, *ампіцыліну*, *клею*... | |
| 2) з'яў прыроды, стыхійных бедстваў: *дажджу*, *грому*, *пажару*... | *перуна* |
| 3) уласцівасцей, якасцей, дзеянняў: *блакіту*, *гневу*, *перапісу*... | |
| 4) некаторых страў і прадуктаў харчавання: *гуляшу*, *пудынгу*, *сыру*... | *хлеба*, *каравая*, *пірага*, *аўса* |
| 5) прасторавых паняццяў: *усходу*, *краю*, *абшару*... | *поўдня* |
| 6) зборных прадметаў: *натоўпу*, *саду*, *ажынніку*, *бэзу*, *дубняку*... | *лясочка*, *садочка*, *статка*, *табуна*, *экіпажа* |

**3.** Растлумачце сэнс прыказак і прымавак. Абгрунтуйце напісанне канчаткаў назоўнікаў другога скланення ў родным склоне. Запішыце сказы пад дыктоўку.

I. 1. Адна пчала мёду не наносіць. 2. Дрэва ціснецца да дрэва, а чалавек да чалавека. 3. Рассыпаецца драбней маку.

4. Важнасць смеху не памеха. 5. Без хлеба сыты не будзеш. 6. Адной хвілінай веку не надточыш. 7. Старога дуба не сагнеш. 8. Мокры дажджу не баіцца.

II. 1. Ход часу не пачуеш і не ўбачыш. 2. Працуй да поту — паясі ў ахвоту. 3. Дыму без агню не бывае. 4. Чмель гудзе, але мёду не носіць. 5. Ад ветру гнецца тое дрэва, у якога слабае карэнне. 6. Шукае лёгкага хлеба. 7. У яго зімой снегу не дапросішся.

**Гэта цікава**

Слова *ёгурт* прыйшло да нас з турэцкай мовы. *Ёгурт* літаральна — «кіслае малако».

Які канчатак будзе мець назоўнік *ёгурт* у родным склоне? Складзіце са словам *ёгурт* словазлучэнне.

**Граматычнае сіта**

**4.** Выпішыце ў адзін слупок назоўнікі другога скланення мужчынскага роду з канчаткамі *-а*, *-я* ў родным склоне адзіночнага ліку, а ў другі — з канчаткамі *-у*, *-ю*. Растлумачце правапіс канчаткаў. Вызначце род выдзеленага ў тэксце назоўніка. Складзіце з ім сказ.

Сонцу брат я і паплечнік, —
Летам хваліцца сланечнік. —
На яго падобны з твару:
Круглы, рыжы ад загару.
Хоць расту на градцы з краю, —
Я суседзяў саграваю.
Вось і жнівень на зыходзе,
Мокра, сыра ў агародзе.
Непагадзь вятры прыносяць,
І *хвалька* расліны просяць:
— Мы замерзлі ранкам гэтым,
— Ты сагрэй нас, як і летам.
Ды ад сораму, канечне,
Голаў апусціў сланечнік.

*В. Гардзей.*

**5.** Дапішыце канчаткі назоўнікаў. З трыма словазлучэннямі складзіце сказы.

Крылы лебедз.., вучні з Віцебск.., агні горад.., дайсці да парог.., дні каранцін.., дзіцячага санаторы.., вецер з поўдн.., няма парадк.., мінскага вакзал.., слуцкага пояс.., дакрануцца да твар.., кропля кле.., правільнага адказ.., ветранага дн.., высокага насып.., калючага ажыннік.. .

**Вясёлы перапынак**

**6.** Адгадайце загадкі. Вызначце, якія канчаткі будуць мець словы-адгадкі ў родным склоне.

Вясёлка не ззяе без сонца,
Зіма не прыходзіць без снегу.
Як хаткі няма без аконцаў,
Так свята не будзе без ... .

*А. Кудласевіч.*

Хочаш ты альбо не хочаш,
Да цябе ён прыйдзе ноччу.
Расхіне свой парасон
І спаўе ў пяшчоту ... .

*Л. Багдановіч.*

**Стол даведак**

Чаму ў адных і тых жа словах у родным склоне сустракаем напісанне розных канчаткаў?

Некаторыя назоўнікі ў залежнасці ад таго, якое значэнне яны набываюць у кантэксце, могуць мець канчаткі ***-а*** **(*-я*)** ці ***-у*** **(*-ю*)**: *парасткі вяза* і *вырабы з вязу*; *сёмага лістапада* і *перыяд лістападу*, *сустрэць самабытнага талента* і *не стае таленту*.

**Вясёлы перапынак**

**7.** Прачытайце тэкст. Растлумачце напісанне канчатка ў назоўніку *клён*. У якім выпадку ў слове *клён* у родным склоне будзе пісацца канчатак *-у*?

Выхвалялася варона:
— Як прыгожа ў кроне клёна!
Хутка восень завітала —
Крона клёна голай стала.

*М. Пазнякоў.*

**Творчая лабараторыя**

**8.** Ці добра вы ведаеце фразеалагізмы? Дапішыце прапанаваныя ўстойлівыя выразы. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў другога скланення.

**Рабіць з мухі ... . Прыстаць з нажом да ... . Дзяліць шкуру незабітага ... . На край ... .**

**9.** Выпішыце з тэксту назоўнікі другога скланення. Растлумачце правапіс канчаткаў у родным і месным склонах.

**Каваль (казка-загадка)**

**Пасля абеду з-за небасхілу выплыла чорная навальнічная хмара. Ніхто і не заўважыў, калі на яе ўзабраўся Каваль. Ён адразу застукаў цяжкім молатам, аж іскры агню пасыпаліся з кавадла.**

**Хмара разраслася і схавала сонца. На зямлю пасыпаліся кроплі дажджу. А Каваль усё працаваў і працаваў. Нарэшце стаміўся: стукаў усё радзей і цішэй.**

**Падзьмуў вецер, і хмара паплыла далей. Прайшло няшмат часу. Выглянула Сонца і пацікавілася ў Каваля:**

**— Ну, пакажы, што выкаваў!**

**— Малайчына! — пахваліла Сонца.**

**Вы ўжо здагадаліся, што за мост выкаваў Каваль? І хто ён, гэты майстар? (*Паводле Г. Бензерука*).**

Адкажыце на пытанні з тэксту. Запішыце словы *гром, вясёлка* ў родным, давальным і месным склонах. Складзіце некалькі сказаў з запісанымі словамі.

**10.** Запоўніце табліцу прыкладамі назоўнікаў другога скланення, паставіўшы іх у месным склоне. Абгрунтуйце выбар канчатка.

<table>
<tr><td rowspan="4">Месны склон</td><td rowspan="2">Назоўнікі</td><td colspan="6">Асновы на</td></tr>
<tr><td>цвёрды</td><td>зацвярдзелы</td><td colspan="2">г, х</td><td>к</td><td>мяккі</td></tr>
<tr><td>неасабовыя</td><td>-е-</td><td>-ы</td><td>[г]: [з’],<br>[х]: [с’]<br>-е</td><td>-у</td><td>-у</td><td>-і</td></tr>
<tr><td>асабовыя</td><td>-е (-у)</td><td>-у</td><td colspan="2">-у</td><td>-у</td><td>-ю</td></tr>
</table>

Сын, канец, дождж, пірог, луг, бераг, паверх, страх, бег, доктар, Мележ, вораг, Слонім, сон, Бягомль, гай, герой, Васіль, Памір, страх, каваль, дзед.

## Граматычнае сіта

**11.** Прачытайце верш І. Бурсава. Дапамажыце хлопчыку навесці парадак у партфелі. Выпішыце асобна назоўнікі першага і другога скланення. Запішыце іх у месным склоне адзіночнага ліку.

Што ў цябе, скажы, Міколка,
Школьны ранец ці кладоўка?
Бо чаго не знойдзеш тут:
Шайба, корак, нітак жмут,
Пісталет драўляны,
Жук чацвертаваны,
Плаўлены сырок для кошкі,
Булкі высахшыя крошкі,
Два часопісы падзёртых,
Пяць цукерачных абгортак.
Сшыткі,
Дзённік ёсць,
Асадка.
Аднаго няма —
Парадку.

Патлумачце значэнне слова *асадка.*

## Выпраўляем памылкі

**12.** Прачытайце тэкст У. Мацвеева. Дапамажыце Васю правільна назваць жыхароў Швейцарыі і Індыі.

Спрачацца любіць хлопчык Вася.
Ёсць у яго свае «ідэйкі».
— У Швейцарыі жывуць *швейцары*,
А ў Індыі жывуць
Індзейкі.

Як будзе называцца чалавек, які жыве ў Беларусі, Амерыцы, Егіпце, Барысаве, Віцебску, Полацку, Брэсце? Запішыце названыя вамі назоўнікі ў месным склоне адзіночнага ліку.

Падрыхтуйце паведамленне пра адзін з беларускіх гарадоў і яго жыхароў.
Назавіце род выдзеленага назоўніка.

**Лінгвістычны каментарый**

**У месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду маюць тыя самыя канчаткі, што і неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду: з асновай на цвёрды — *е* (*на балоце*, *у харастве*), на зацвярдзелы — *ы* (*на ўзбярэжжы*, *у возеры*), на *г*, *к*, *х* — *у* (*у рэху*, *у малаку*), на мяккі — *і* (*на лісці*, *у полымі*). Геаграфічныя назвы змяняюцца, як агульныя назоўнікі з адпаведнай асновай.**

**13.** Утварыце і запішыце словазлучэнні з назоўнікамі, што ў дужках. Растлумачце правапіс канчаткаў гэтых назоўнікаў. З трыма словазлучэннямі складзіце сказы.

**У раённым (універмаг), вучыцца ў (Санкт-Пецярбург), пры беларускім (чарадзей), на іржавым (плуг), пры карэнным (жыхар), у дзедавым (мех), на салодкім (крэндзель), у авальным (люстэрка), збіраць па (зярнятка), згарэць у (полымя), на бацькавым (плячо), на старажытным (каўчэг), у смачным (сырадой), у дзікім (семя), сумаваць па (лета), у добрым (здароўе).**

**14.** Запішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне канчаткаў назоўнікаў першага і другога скланенняў.

**I. Яшчэ і сёння ў в..сковай (хата) у сенцах ці ў (кладоўка) можна ўбачыць серп. У жо..тых крапінах (іржа) сумуе ён па (праца). А раней кожная жняя шанавала свой серп. На зіму а..кручвалі яго сухой (анучка). А летам серп выц..раўся да бляску і ззяў, як ср..бны. Таму паэты параўноўвалі яго з ясным мес..чыкам-маладзічком (*Паводле «Вясёлкі»*).**

Назавіце назоўнік, які мае форму толькі множнага ліку.

**II. У (Алжыр) знаходзіцца цікавае возера. Яго в..дой можна пісаць на (папера), нібы ч..рнілам. У возера ўпадаюць дзве р..чкі. Адна багатая на солі (жалеза). А ў другой**

шмат раслінных і ж..вёльных рэшткаў. Вада гэтых р..чак змешваецца і становіцца падобнай на ч..рніла (*Паводле «Бярозкі»*).

Падкрэсліце назоўнік, які ў рускай мове адрозніваецца лікам.

**III.** У (Індыя) расце незвычайнае фігавае др..ва. У яго (цень) адначасова можа а..пачываць сем тыс..ч чалавек. Дрэву больш за трыста гадоў. Пад яго (крона) хопіць месца адразу ўсім жыхарам Зэльвы або Ляхавічаў (*Паводле «Бярозкі»*).

Падкрэсліце назоўнік, які ў рускай мове адрозніваецца родам.

## *Канчаткі назоўнікаў 3-га скланення*

**Успомнім**

Да трэцяга скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку (*мыш*, *нацыянальнасць*, *Свіцязь*).

**1.** Звярніце ўвагу на схему. Раскажыце, якія канчаткі маюць назоўнікі трэцяга скланення ў родным, давальным і месным склонах. Ад чаго яны залежаць?

Р.
Д.
М.

**-і** *сенажаці*, *моладзі*, *верфі*, *крыві*
**-ы** *Нарачы*, *шыры*, *Свіслачы*, *сушы*

З трыма словамі ў розных склонах складзіце сказы.

**Стол даведак**

Чаму ў творным склоне некаторых назоўнікаў не адбываецца падаўжэнне?

Канцавыя зычныя асновы [л’], [н’], [з’], [с’], [дз’], [ц’], [ч], [ш] назоўнікаў падаўжаюцца ў становішчы паміж галоснымі (*ру*[*н’н’*]*ю*, *со*[*л’л’*]*ю*, *но*[*чч*]*у*). Падаўжэння не будзе, калі гукі знаходзяцца не паміж галоснымі (*радасцю*, *аповесцю*) або калі аснова заканчваецца на [р], [ф], [б] (*Сібір’ю*, *верф’ю*, *Об’ю*).

**2.** Вызначце, да якога скланення адносяцца назоўнікі. Запішыце словы ў творным склоне адзіночнага ліку. З трыма назоўнікамі складзіце сказы.

**Карусель, рэчаіснасць, шампунь, прамысловасць, верф, суш, лань, шаль, медзь, Об, Любоў, сумесь, моц, палын, спіраль, рэч, безліч, далеч, бандэроль.**

**3.** Раскрыйце дужкі. Запішыце назоўнікі ў форме творнага склону адзіночнага ліку.

**Захапляцца («Слодыч»), са сваёй (задуменнасць), перад (вось) Зямлі, накрыцца (шынель), за бяздоннай (глыб), сучаснай (мадэль), з сыноўняй (любоў), за (педаль) веласіпеда, спыніцца перад (насып), зачараваны (Нарач), падхоплены (плынь), перад паўнаводнай (Бесядзь), вярнуцца з (медаль), плыць (Прыпяць), з апошняй (чвэрць), за спаленай (Хатынь), заліты (кроў).**

**4.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку і раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў трэцяга скланення.

**Мудрасць — гэта спалуч..нне розум.. з дабрын.. і (чалавечнасць). Без (сардэчнасць) няма (мудрасць). Без (мілас..рнасць), без д..брыні можна раш..ць любую мат..матычную задачу. А ж..ццёвыя праблемы вырашаюцца толькі пры спалуч..нні розум.. з (сардэчнасць), (спагадлівасць), (гуманнасць) (*Паводле І. Кляніцкай*).**

**5.** Прачытайце. Вызначце, да якіх скланенняў адносяцца назвы рэк. Запішыце ўласныя назвы ў творным склоне.

**Па тэрыторыі Беларусі працякае рака Прыпяць. Яе прытокі — Ясельда, Бобрык, Цна, Лань, Случ, Піна, Гарынь, Сцвіта, Шчара, Стыр.**

Раскажыце пра раку ці возера, што знаходзіцца ў вашай мясцовасці. Запішыце некалькі сказаў.

# ***Далоней ці далоняў, яблык ці яблыкаў?* : скланенне назоўнікаў у множным ліку**

**1.** Разгледзьце табліцу. Паразважайце, якія канчаткі маюць назоўнікі ў родным склоне множнага ліку. Прывядзіце ўласныя прыклады.

| | |
|---|---|
| канчаткі **-оў** (**-ёў**) — пад націскам **-аў** (**-яў**) — не пад націскам | назоўнікі 2-га скланення мужчынскага і ніякага роду: *салаўёў*, *кілаграмаў*, *бананаў*, *сонцаў*;<br>назоўнікі 1-га скланення са збегам зычных у аснове: *пушчаў*, *гульняў*, *лічбаў*;<br>некаторыя назоўнікі 3-га скланення: *рэчаў*, *даляў*;<br>назоўнікі, што маюць форму толькі множнага ліку: *цымбалаў*, *духоў* |
| нулявы канчатак | назоўнікі 1-га скланення з асновай на адзін зычны: *падзей*, *нот*, *станцый*; *вёсак*;<br>назоўнікі 2-га скланення ніякага роду з асновай на адзін зычны (акрамя ***в***): *азёр*, *правіл*;<br>геаграфічныя назвы на **-ычы** (**-ічы**), **-аны** (**-яны**): *Бешанковіч*, *Ружан* |
| канчаткі **-эй** (**-ей**), **-ай** | большасць назоўнікаў жаночага роду 3-га скланення: *гусей*, *ніцей*, *начэй*;<br>назоўнікі жаночага роду з націскным канчаткам **-а** (**-я**): *ступня́ — ступней*, *каланча́ — каланчэй*;<br>некаторыя множналікавыя назоўнікі: *саней*, *дражджэй*, *грошай*;<br>назоўнікі *вачэй*, *вушэй*, *плячэй*, *гасцей* |

**2.** Раскрыйце дужкі, паставіўшы назоўнікі ў форму роднага склону множнага ліку.

**Купіць (апельсін), гарадскіх (клумба), прынесці пяць (кілаграм), многа (недакладнасць), сарваць некалькі (памідор), каля (дзверцы) машыны, народных (песня), рагу з (баклажан), варэнне з (чарэшня), пяць пар (нажніцы), каля бабуліных (граблі), бяссонных (ноч).**

### Стол даведак

Ці могуць назоўнікі мець варыянтныя канчаткі ў родным склоне множнага ліку?

Некаторыя назоўнікі першага і другога скланенняў могуць ужывацца з нулявым канчаткам і з канчаткам ***-аў*** (***-яў***): *вёсен — вёснаў*, *пісем — пісьмаў*.

У некаторых назоўнікаў жаночага роду трэцяга скланення дапускаецца ўжыванне канчатка ***-яў*** (*арцелей — арцеляў*, *сенажацей — сенажацяў*).

### Граматычнае сіта

**3.** Размяркуйце словы па трох групах: 1 — у родным склоне адзіночнага ліку назоўнік мае канчатак *-аў* (*-яў*), *-оў* (*-ёў*), 2 — мае нулявы канчатак, 3 — мае канчатак *-эй* (*-ей*), *-ай*.

Дзівосы, крупы, мандарын, Бясхлебічы, грошы, тысяча, нож, сяло, поле, гавань, гранат, скронь, грам, джала.

### Спроба пяра

Складзіце невялікае апавяданне, ужываючы назоўнікі *алень*, *журавель*, *звер*, *лось*, *лебедзь*, *пень*, *мазоль*, *цень*, *бінокль* у форме роднага склону множнага ліку.

### Гавораць мовазнаўцы

**4.** Прачытайце тэкст. Запішыце назоўнікі з тэксту ў форме роднага склону множнага ліку.

Форма *грошаў* адпавядае літаратурнай норме толькі ў тых выпадках, калі яна з'яўляецца формай роднага склону множнага ліку ад назоўніка *грош* у значэнні 'даўнейшая медная двухкапеечная манета, пазней паўкапеечная' (*Г. Арашонкава*).

### Стол даведак

Часам у творах пісьменнікаў сустракаем словы *вачамі* і *вачыма*, *плячамі* і *плячыма*. Якая з гэтых формаў памылковая?

У творным склоне множнага ліку пераважна ўжываецца канчатак **-*амі*** (**-*ямі***). Словы *вочы*, *вушы*, *дзверы*, *плечы*, *грошы* побач з канчаткам **-*амі*** маюць і канчатак **-*ыма*** (*вачамі* — *вачыма*, *дзвярамі* — *дзвярыма*, *плячамі* — *плячыма*, *грашамі* — *грашыма*). Такія формы разглядаюць як варыянтныя.

**Выпраўляем памылкі**

Настаўніца прапанавала вучням скласці сказы са словамі *дзеці*, *людзі* ў творным склоне. Алесь напісаў: *З усімі дзецямі нашага класа мы хадзілі ў музей. Там адбылася цікавая сустрэча з вядомымі ў Беларусі людзямі.* Ці правільна хлопчык утварыў формы назоўнікаў?

**5.** Раскрыйце дужкі. Запішыце назоўнікі ў форме творнага склону множнага ліку.

Ганарыцца (дзіця), мінулымі (тыдзень), шчаслівымі (вока), перад дзвюма (чвэрць), ладзіць з (людзі), за шырокімі (плячо), вараны́мі (конь), за металічнымі (дзверы), перад невялікімі (прыстань), над магутнымі (крыло), пасівелымі (скроня), маладымі (курыца), з гусінымі (пяро).

**6.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне канчаткаў назоўнікаў у множным ліку.

Проста на (вочы) багацеем мы на паштоўкі. Трэба паслаць прывітанне, пажаданне дарагому чалавеку. У нашых (кіёск), у нашых (кнігарня) мноства прыгожых і яркіх (паштоўка). З (дзівосы) відаў і (краявід). Бачыш — і цешыць праца (мастак), (фатограф), (друкар) (*Паводле Ф. Янкоўскага*).

**Выпраўляем памылкі**

**7.** Адрэдагуйце тэкст.

**Як мы з мамай хадзілі ў магазін**

Мне падабаецца хадзіць па магазінах з мамай.

У гастраноме мы купілі пяць кілаграм памідор, яблык, некалькі апельсін, банан і гранат. Затым набылі кансерв,

крупаў, цукру для варэння з яблык і кампоту з вішань. Я вельмі хацеў цукеркаў, і мама купіла мне трыста грамаў.

У гаспадарчым магазіне нам трэба было набыць чаранок для бабуліных грабель, шурупы для дзверцаў, двое нажніцаў.

Мы былі задаволены нашымі пакупкамі (*Паводле В. Служэўскай*).

**Папрацуем перакладчыкамі**

**8.** Запішыце тэкст па-беларуску. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў у множным ліку. Які назоўнік адрозніваецца лікам у рускай і беларускай мовах?

В древние времена писали на пальмовых листьях, на коже, на коре деревьев. В Риме писали на дощечках, которые были покрыты воском. В Древнем Новгороде писали на берёсте. Декабрист Рылеев прокалывал строки своего стихотворения на листьях клёна и пересылал из крепости на волю.

Без бумаги и чернил пишут в лесу звери. Пишут на земле, на дереве, на камне (*По Н. Верзилину*).

## *«Да свайго племені-роду паплывеш і праз воду...»*: змяненне рознасклаияльных назоўнікаў

**Лінгвістычны каментарый**

Да рознаскланяльных адносяцца: а) назоўнікі *імя*, *племя*, *стрэмя*; б) назвы маладых істот (*мышаня*, *кураня*, *дзіця*); в) назоўнікі мужчынскага і агульнага роду (калі абазначаюць асоб мужчынскага полу) з ненаціскнымі канчаткамі ***-а***, ***-я*** (*ба́цька*, *дзя́дзька*, *со́ня*, *пранýра*, *запява́ла*).

**1.** Прачытайце тэкст. Чаму маці не дазволіла перакінуць свайго дзіцяці цераз плот? Выпішыце рознаскланяльныя назоўнікі. Раскажыце, як яны скланяюцца.

Пра дзяцей ёсць вельмі добрая легенда. Жанчына некалі паскардзілася чараўніку, што рукі адвальваюцца: дзеці

да году не ходзяць, цяляты, ягняты, жарабяты. Усіх на руках насі. Той узяўся памагчы. Кінуў цераз высокі плот жарабя — пабегла, цяля — таксама, ягня — і яно пабегла. «Ну, — кажа, — давай дзіця». Маці абурылася: «Эге, так я табе і дам дзіця цераз высокі плот кідаць». — «Ну, то тады і насі...» (*У. Караткевіч*).

**Успомнім**

Назоўнікі *імя*, *племя*, *стрэмя* ва ўсіх ускосных склонах (акрамя вінавальнага) могуць ужывацца з суфіксам ***-ен-***. У такім выпадку ў родным, давальным і месным склонах яны маюць канчатак ***-і***, а ў творным — канчатак ***-ем*** (Р. *імені*, *племені*, *стрэмені*; Т. *іменем*; *племенем*, *стрэменем*). У множным ліку назоўнікі *імя* і *стрэмя* могуць ужывацца з суфіксам ***-ён-*** ці без яго (Н. *імі* і *імёны*, *стрэмі* і *страмёны*), а назоўнік *племя* ўжываецца толькі з суфіксам ***-ён-*** (Н. *плямёны*, Т. *плямёнамі*, М. *пры плямёнах*). Калі назоўнікі *імя*, *племя*, *стрэмя* змяняюцца без суфікса ***-ен-***, то маюць формы назоўнікаў ніякага роду другога скланення.

Пры змяненні назваў маладых істот у родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку з'яўляецца суфікс ***-яц-*** (*цяляці*, *мышаняці*, *дзіцяці*). Ва ўсіх склонах множнага ліку назвы маладых істот ужываюцца з суфіксам ***-ят-*** (Н. *цяляты*, В. *цялят*, Т. *цялятамі* і г. д.).

**2.** Выпішыце з тэксту назвы маладых істот. Пастаўце выпісаныя назоўнікі ў родным, вінавальным, творным і месным склонах, складзіце з імі словазлучэнні. Раскажыце пра паход у заапарк.

Вось бы разам сабраць
Усіх зверанят:
Зубраня,
Зебраня,
Ласяня,
Лісяня,
Ваўчаня,
Бабраня —
Быў бы ў заасадзе
Дзіцячы сад.

*С. Валодзька.*

**3.** Запішыце тэксты, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс рознаскланяльных назоўнікаў.

1. На Аравійскім паўвостраве расце «кветка смеху». Хто пачастуецца яе (семя), будзе доўга смяяцца, а потым засне. Мясцовыя жыхары карыстаюцца гэтым (семя) як лекамі.

2. У даліне ракі Замбезі і на ўсходзе пустыні Калахары жывуць (племя) людзей, у якіх на нагах усяго два пальцы. Аднак прадстаўнікі гэтых (племя) зусім не адчуваюць свайго недахопу. Яны вылучаюцца рэдкай вынослівасцю ў час далёкіх пераходаў (племя) (*Паводле «Бярозкі»*).

3. Тысячы беларусаў былі першапраходцамі Азіі, Афрыкі і Амерыкі. (Імя) нашых землякоў названы мясціны на ўсіх кантынентах. Так, (імя) Ігната Дамейкі вядома ў Чылі і Аргенціне. Ён першы з еўрапейцаў даследаваў краіну індзейцаў Араўканію, знаёміўся з рознымі (племя). Яго (імя) названы гарады, горы, мінералы (*Паводле Д. Кісялёва*).

**Стол даведак**

Чаму ў творным склоне назоўнікі *старшыня* (Кавалёў), *сірата* (Антось) маюць канчаткі ***-ёй***, ***-ой***, а назоўнікі *мужчына*, *соня* (Алесь) ***-ам***, ***-ем***?

Каб правільна напісаць канчаткі ў назоўніках мужчынскага роду і назоўніках агульнага роду, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, на ***-а***, ***-я***, трэба вызначыць тып асновы і паставіць націск. Калі націск падае на аснову, то назоўнікі змяняюцца як рознаскланяльныя. У назоўным, родным і вінавальным склонах яны маюць канчаткі першага, а ў давальным, творным і месным — другога скланення. Параўнайце формы слоў і дапішыце канчаткі ва ўласных імёнах:

Н. *мужчына, скнара Міша, бацька, соня Вася*
Р. *мужчыны, скнары Міш.., бацькі, соні Вас..*
Д. *мужчыну, скнару Міш.., бацьку, соню Вас..*
В. *мужчыну, скнару Міш.., бацьку, соню Вас..*
Т. *мужчынам, скнарам Міш.., бацькам, сонем Вас..*
М. (*пры*) *мужчыне, скнару Міш.., бацьку, соню Вас..*

**4.** Раскрыйце дужкі. Запішыце назоўнікі ў патрэбнай граматычнай форме. З некалькімі складзіце словазлучэнні.

**Са (старшына) Бялевічам, сумаваць па (Валера), адрасаваць (Кузьма) Чорнаму, пазычыць (старшыня), падараваць (сірата) Алегу, на вядомым (суддзя), за (забіяка) футбалістам, славутаму (ваяка) Мішку, ганарыцца (дзядуля), падзякаваць (прамоўца), перад нястрыманым (Ілья), іграць з (Толя) на скрыпцы, пазнаёміцца з (Янка Купала).**

**Папрацуем перакладчыкамі**

**5.** Запішыце тэкст па-беларуску. Растлумачце правапіс рознаскланяльных назоўнікаў.

**Дорогой друг! Прости, не знаю твоего имени. Задумывался ли ты над вопросом: почему у отличников на всё хватает времени? И по ботанике заняться изучением семени пшеницы, и в конно-спортивной секции покачаться в стремени. Может, они из другого племени? Говорят, что всё дело в каком-то особом духовном пламени (*По А. Хайту*).**

## *Паміж Ракавам і Валожынам,* ці Асаблівасці змянення геаграфічных назваў

**Стол даведак**

Як правільна сказаць: *пазнаёміўся з Валожынам Андрэем ці з Валожыным Андрэем?*

Мужчынскія прозвішчы на ***-аў*** (***-еў***), ***-оў*** (***-ёў***), ***-ын*** (***-ін***) змяняюцца як назоўнікі другога скланення з цвёрдай асновай, аднак у творным склоне яны маюць канчатак прыметніка ***-ым*** (*Валожыным, Барысавым*). Геаграфічныя назвы на ***-аў*** (***-еў***), ***-оў*** (***-ёў***), ***-ын*** (***-ін***) скланяюцца, як назоўнікі другога скланення, і ў творным склоне маюць канчатак ***-ам*** (*Валожынам*, *Барысавам*).

**1.** Устаўце прапушчаныя літары. Абгрунтуйце напісанне канчаткаў назоўнікаў.

**Прэзентацыя была ў поўным разгары. З містэрам Стывен.. Крысцін.. была яго жонка. Яе пазнаёмілі з нашым**

банкірам Сцяпан.. Крысцін.., з гаспадаром новага магазіна Антонам Квакін.. і яго жонкай Аленай Квакін.., а таксама з яго амерыканскім партнёрам Энтані Квакін.. і яго дачкой Элен Квакін.. (*Паводле В. Служэўскай*).

**2.** Дапішыце канчаткі назоўнікаў. З трыма словазлучэннямі складзіце сказы.

З мастаком Шышкін.., адпачываць пад горадам Петрыкав.., п'есы, напісаныя Бетховен.., гутарыць з Рыгорам Барадулін.., сустрэцца пад Лоев.., з рэжысёрам Турав.., прыпынак перад Магілёв.., пасёлак пад Турав.., створанае Канстанцінам Тарасав.., адпачываць пад Рагачов.., шахты пад Старобін.., напісанае Шамякін.., азёры пад Браслав.., пазнаёміцца з Барадзін.. Стасем, вёска пад Крычав.., захапляцца горадам Кракав.. .

**3.** Прачытайце прыказкі. Раскрыйце іх сэнс. Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне *не* (*ня*), *ні* з назоўнікамі.

1. (Не) багі гаршкі лепяць, а майстры. 2. Згода будуе, (ня) згода руйнуе. 3. Паважаюць чалавека (не) за гады, а за розум. 4. (Ні) мукі пылінкі, (ні) солі драбінкі. 5. Калі (ня) ўрод, то і (не) ўмалот. 6. Чалавек (не) арэх: адразу яго не раскусіш. 7. Кажух (не) вата, капуста (не) гарбата. 8. (Не) бяспека прыдае смеласці нават баязліўцу. 9. (Не) іголка вінавата, калі кажух цесны.

**4.** Прачытайце. Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Абгрунтуйце напісанне арфаграм. Зрабіце марфалагічны разбор выдзеленых назоўнікаў.

I. 1. Цякуць дарожкай звычнаю струмен..чыкі жывічныя (*П. Марціновіч*). 2. Хвост пер'ем гарыць, і грабен..чык іскрыцца, і свецяцца вочы, нібыта суніцы (*К. Камейша*). 3. Дожджыч..к цёплы ідзе, пахне зялёнай сасною (*К. Камейша*). 4. Не аген..чыкі палаюць у траве з расой, а *суніцы* даспяваюць, хоць касі касой (*А. Дзeружынскі*). 5. Зор..чкі ясныя, зоркі бліскучыя ў небе вядуць карагод (*С. Новік-Пяюн*).

II. 1. Чым жа сунічнік гасцей пачастуе, калі ўсе суніцы ў збаноч..к збяру я (*А. Лойка*). 2. Скачуць сонейка *аскол-*

*кі* пасля дождж..ку ў вадзе (*А. Вольскі*). 3. Дзе гушкаюцца чмел..кі і поўзаюць жукі, растуць грыбы-вясел..кі, вясновыя смаржкі (*Е. Лось*). 4. Я знайшоў за рэчкай куст парэчак, а пад ім гняздз..чка — пяць яеч..к. 5. Коц..кі селі на кусц..к вярбовы, грэюць на сонцы жоўтыя бровы (*Д. Бічэль*).

**Творчая лабараторыя**

**5.** Замяніце спалучэнні слоў адным назоўнікам. Складзіце з трыма ўтворанымі словамі сказы.

Сухі вецер, новая будоўля, вазіць ваду, Чорнае мора, дзве мовы, ведаць мову, чорная зямля, брыкет з торфу, веласіпедны крос, палова вядра, палова Еўропы, самастойная адукацыя, лес і стэп, авіяцыйная база, лёгкая атлетыка, апісанне жыцця.

**Спроба пяра**

**6.** Напішыце сачыненне «Назвы зямлі беларускай».

## *«Скарына, Скарыне, Скарынам»*: пра скланенне некаторых прозвішчаў

**Стол даведак**

Перш чым скланяць прозвішчы, вызначце, ці маюць яны адпаведныя агульныя назоўнікі жаночага роду: *Вярба Вера*, *Сёмуха Даша*. Затым вызначце тып асновы і пастаўце націск. Жаночыя прозвішчы, утвораныя ад назваў прадметаў, якія заканчваюцца на ненаціскныя ***-га***, ***-ка***, ***-ха*** скланяюцца, як назоўнікі першага скланення (*Скруха*, *Піка*, *Кніга*), (Д.-М. (пры) *Скрусе Веры*, Т. *Скрухай Верай*), а мужчынскія, як рознаскланяльныя (Д.-М. (пры) *Скруху Андрэю*, *Скрухам Андрэем*). Жаночыя і мужчынскія прозвішчы, што суадносяцца з назоўнікамі жаночага роду першага скланення, акрамя назоўнікаў на ненаціскныя ***-га***, ***-ка***, ***-ха*** (*Хмара*, *Страха*, *Бяроза*, *Кропля*), скланяюцца, як назоўнікі жаночага роду першага скланення з адпаведнай асновай (Д.-М. *Хмары*, *Страсе*, *Бярозе*, *Кроплі*; Т. *Хмарай*, *Страхой*, *Бярозай*, *Кропляй*).

Мужчынскія прозвішчы на **-*а***, **-*я***, утвораныя не ад назваў прадметаў, скланяюцца, як назоўнікі мужчынскага роду з ненаціскнымі канчаткамі **-*а***, **-*я*** ў залежнасці ад тыпу асновы (Д.-М. (пры) *Капіцу*, *Дамейку*, *Бядулю*, *Сачанку*; Т. *Капіцам*, *Дамейкам*, *Бядулем*, *Сачанкам*).

1. ***Лінгвістычная задача.*** На ўроку беларускай мовы настаўніца прапанавала праскланяць прозвішчы вучняў 6 «А» класа. Дзеці з цікавасцю пачалі выконваць гэта заданне. Аднак праз нейкі час Алена Валькові зазірнула ў сшытак Вольгі Крайко, Васіль Сядых кінуў зацікаўлены позірк на Алену Каваленка, а Сувалка Тамара і Дула Вераніка здзіўлена паглядзелі на настаўніцу. Карыстаючыся табліцай, дапамажыце шасцікласнікам праскланяць іх прозвішчы. Праілюструйце табліцу ўласнымі прыкладамі.

| Не змяняюцца | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| уласныя назвы на галосны | іншамоўныя жаночыя імёны і прозвішчы на зычны | славянскія прозвішчы на **-*о***, **-*ых*** | беларускія жаночыя прозвішчы на зычны | жаночыя прозвішчы = назоўнікам ніякага роду | жаночыя прозвішчы на **-*нка*** |
| | | | | | |

2. Пастаўце імёны і прозвішчы ў неабходную форму. Якіх беларускіх кампазітараў, мастакоў вы ведаеце? Выкарыстайце некаторыя словазлучэнні ў паведамленні пра наведванне выставы мастакоў.

**Паэмы (Ніл Гілевіч), прафесіяналізм (Ігар Лучанок), малюнкі (Еўдакія Лось), вершы (Яўгенія Янішчыц), апавяданні (Алена Васілевіч), казкі (Шарль Перо), музыка (Джузэпэ Вердзі), музычныя творы (Віктар Войцік), вершы (Алеся Гайдук), палотны (Язэп Драздовіч), сустрэцца з (Ганна Серада), суразмоўнічаць з (Казімір Камейша), сядзець побач з (Антось Дарога), размаўляць з (Алег Калюга), песні (Эдуард Ханок).**

## Спроба пяра

3. Падрыхтуйце апавяданне «Я, маё імя і прозвішча».

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што вы ведаеце пра скланенне назоўнікаў? Назавіце тыпы скланенняў.

2. Якія назоўнікі адносяцца да 1-га скланення і ў чым асаблівасць іх змянення? Прывядзіце прыклады.

3. Ад чаго залежыць напісанне канчаткаў назоўнікаў 2-га скланення? Якія канчаткі могуць мець адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку?

4. Як змяняюцца асабовыя і неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду 2-га скланення? Якія канчаткі яны маюць у месным склоне? Прывядзіце прыклады.

5. Пры якіх умовах падаўжаецца апошні зычны асновы пры змяненні назоўнікаў 3-га скланення?

6. Якія канчаткі маюць назоўнікі ў родным склоне множнага ліку? Раскажыце пра варыянтныя формы.

7. Якія назоўнікі адносяцца да рознаскланяльных? Чаму яны так называюцца? Раскажыце пра змяненне назоўнікаў на *-мя* і назваў маладых істот.

8. У чым адметнасць змянення назоўнікаў мужчынскага роду на *-а* (*-я*) і назоўнікаў агульнага роду?

9. Праскланяйце прозвішчы на *-а*, *-я* вучняў вашага класа. Якія прозвішчы ў беларускай мове не змяняюцца?

10. Знайдзіце на карце Беларусі дзесяць назваў гарадоў і іншых населеных пунктаў, якія заканчваюцца на *-аў*, *-оў*, *-еў*, *-ёў*, *-ын*, *-ін*. Запішыце назоўнікі ў форме творнага склону.

**Правяраем сябе**

## І варыянт

**1.** Прачытайце тэкст. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Мірскі замак — помнік умелым рукам беларусаў. У старажытнасці ім валодалі багатыя князі Радзівілы. За іх грошы яго будавалі, рамантавалі, аднаўлялі.

**Замак у Мір.. — удзельнік усіх войн.., якія зведала наша беларуская з..мля. Яго разбуралі, бралі штурмам, палілі. Сёння наша св..тыня адноўлена. У замк.. праходзяць Дні піс..менства, канцэрты спевак.., кампазітар.. . Старaж..тныя вежы, брукаваная падлога прымушаюць задумацца пра наша агульнае мінулае. Старaж..тныя сцэны — як іконы маіх і тваіх про..каў. Перад імі хочацца думаць пра вечнае (*Паводле У. Ліпскага*).**

**2.** Выпішыце з тэксту назоўнік, які ўжываецца толькі ў множным ліку. Ці мае ён род? Складзіце з выпісаным назоўнікам словазлучэнне.

**3.** Вызначце, да якога тыпу скланення адносяцца назоўнікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| замак | | Карэлічы | |
| грошы | | старажытнасць | |
| спявак | | сцяна | |
| ікона | | дзядуля | |
| князь | | імя | |

**4.** Запішыце назоўнікі ў форме роднага і меснага склону адзіночнага ліку.

| | родны склон | месны склон |
|---|---|---|
| князь | | |
| канцэрт | | |
| вежа | | |
| кампазітар | | |
| падлога | | |
| дзень | | |

**5.** Закончыце выказванне: *«Пры скланенні назоўнікаў трэцяга скланення ў творным склоне адбываецца падаўжэнне зычных...».* Прывядзіце прыклады ____________________

____________________

**6.** Адкажыце, якія канчаткі будуць мець назоўнікі *Карэлічы*, *грошы* ў родным склоне множнага ліку. Складзіце з гэтымі словамі сказы.

## II варыянт

**1.** Прачытайце тэкст. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

**Паспрач..ліся кавалі, хто з іх самы ўмелы. Выраш..лі па..сці ў княжацкі палац. Няхай кня..ь вырашыць, хто з іх самы лепшы майстар.**

**Князь агледзеў вырабы. Даспадобы прыйшліся і трон, і кветкі з метал.., і даспехі. Аднак выбра.. ён шахматы. Чаму? У гульн.. ў шахматы важны кожны крок. Так і для княз.. . Ён кіруе ц..лай краінай. Лёс кожнага залеж..ць ад яго крокаў (*Паводле В. Паўлючэнка*).**

**2.** Выпішыце з тэксту назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку. Ці маюць яны род? Складзіце з выпісанымі назоўнікамі словазлучэнні.

**3.** Вызначце, да якога тыпу скланення адносяцца назоўнікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| краіна | | племя | |
| шахматы | | суддзя | |
| трон | | кветка | |
| надпіс | | мужчына | |
| каваль | | Усяслаў | |

**4.** Запішыце назоўнікі ў форме роднага і меснага склону адзіночнага ліку.

| | родны склон | месны склон |
|---|---|---|
| каваль | | |
| трон | | |
| кветка | | |
| майстар | | |
| падарунак | | |
| палац | | |

**5.** Закончыце выказванне: *«Канчаткі назоўнікаў першага скланення жаночага роду з асновай на -к залежаць ад...».*

Прывядзіце прыклады ______________________________

______________________________________________

**6.** Цэнтрам аднаго з самых старажытных княстваў з'яўляўся Тураў. Пакажыце, як скланяецца гэта назва. Які канчатак мае назоўнік *Тураў* у творным склоне, калі з'яўляецца прозвішчам (*Тураў Генадзь*)?

# ПРЫМЕТНІК

## *«А найлепшая тая дарога, што вядзе на бацькоўскі парог»*: асаблівасці ўтварэння і ўжывання ступеней параўнання прыметніка

**Граматычнае сіта**

**1.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце прыметнікі. Размяркуйце іх па групах: якасныя, адносныя, прыналежныя.

Прынцэсіны фрэйліны схіліліся над цудоўным медным гаршчочкам. Ён увесь дзень паказвае, што дзе гатуюць!

Вось дворнічышын абед: учарашні гарохавы суп, маласольныя агуркі, салодкае пячэнне з гарачым чаем. А гэта абед у губернатара. Тут падаюць мясное рагу з маладой зелянінай, заліўную рыбу, салёныя грыбы, разнастайныя смачныя гарніры і шакаладныя блінчыкі. На дэсерт будуць наліўныя яблыкі, сакавітыя грушы, спелыя кавуны. Суфле рознае: апельсінавае, бананавае, арэхавае. Да таго ж сок мангавы, грэйпфрутавы, ананасавы... (*Паводле Т. Рык*).

Прапануйце свой варыянт абеду для князя і яго прыслугі.

**2.** Адгадайце загадкі-жарты, ужываючы прыметнікі. Назавіце, да якога разраду адносяцца прыметнікі-адгадкі. Дайце ім граматычную характарыстыку.

1. Які год цягнецца адзін дзень? 2. Якая ў рыбы кроў? 3. Які ў моры камень? 4. Пад які куст заяц садзіцца, калі дождж ідзе?

## Успомнім

**3.** Запоўніце табліцу неабходнымі формамі прыметнікаў. Раскажыце, як утвараюцца формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання прыметнікаў.

| Формы | Ступені параўнання | |
|---|---|---|
| | Вышэйшая | Найвышэйшая |
| простая | моцны + -ейш- →<br>дарагі + -эйш- →<br>**Але:** добры →<br>дрэнны → | най + мацнейшы →<br>най + даражэйшы →<br>най + лепшы →<br>най + горшы → |
| састаўная | больш (болей) + моцны →<br>менш (меней) + дарагі →<br>менш (меней) + важны → | самы + моцны →<br>найбольш + дарагі →<br>найменш + важны → |

**4.** Прачытайце верш Т. Мушынскай «Якія бываюць словы». Якія прыметнікі дапамагаюць аўтару ахарактарызаваць прадметы? Вызначце канчаткі назоўнікаў і прыметнікаў. Утварыце магчымыя формы ступеней параўнання для якасных прыметнікаў.

Цёплыя словы — сонца і хата.
Лепшыя словы — мама і тата.
Смачныя словы — хлеб і суніцы,
Росныя словы — кветкі, крыніца.
Чулыя словы — сын, калыханка,
Ясныя словы — лета і ранак.
Мудрыя словы — жыта і поле,
Светлыя словы — вецер і воля.
Даўнія словы — водгулле, род.
Гордыя словы — звон і народ.

**5.** ***Лінгвістычная задача.*** Пры вышэйшай ступені параўнання прыметніка назоўнікі і займеннікі ўжываюцца ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *за*: *брат старэйшы за яе*, *Днепр даўжэйшы за Прыпяць*. Ці можа пры вышэйшай ступені параўнання ўжывацца канструкцыя *чым + Н. скл.* назоўніка ці займенніка? Прывядзіце прыклады, калі гэта магчыма.

### Творчая лабараторыя

**6.** Параўнайце.

Па велічыні:

а) возера Нарач і возера Байкал; б) возера Нарач і іншыя азёры на тэрыторыі Беларусі.

Па колькасці насельніцтва:

а) сталіцу Беларусі з горадам Баранавічы; б) Мінск са сталіцамі Расіі, Кітая, Злучаных Штатаў Амерыкі.

**7.** Адгадайце загадкі. Знайдзіце ў іх прыметнікі. Утварыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання.

Сінявокі, слаўны, чысты,
Галаwасты, залацісты.
Дасць абноў ён людзям шмат,
Будзе кожны вельмі рад.

Круглыя, гарбаценькія,
Па краях — калмаценькія,
Па баках бялюсенькія,
Пасярод цямнюсенькія.
Як прыходзіць бяда —
Дык цячэ з іх вада.

### Вясёлы перапынак

**8.** Прачытайце тэкст. Якія формы прыметнікаў ужываюцца пры абазначэнні ўзросту? Якая форма выкарыстоўваецца, каб сказаць, што сястрычцы менш гадоў, чым Славіку?

У цябе, хлопчык, ёсць брацік? — пытае цёця ў Славіка.

— Не толькі брацік, але і сястрычка! — з гонарам адказвае той.

— Ты, відаць, самы старэйшы?

— Самы старэйшы ў нас дзед! (*М. Сліва*).

### Стол даведак

Ці ўсе якасныя прыметнікі могуць мець ступені параўнання?

**Простая і састаўная формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання не ўтвараюцца ад якасных прыметнікаў, якія абазначаюць:**

а) пастаянную якасць: *голы*, *мёртвы*, *рагаты*;

б) масці жывёл: *буры*, *вараны́*, *пярэсты*;

з’яўляюцца:

в) вытворнымі назвамі колераў: *бронзавы*, *васільковы*, *карычневы*;

г) складанымі прыметнікамі: *цёмна-бардовы*, *жаўтароты*, *белагрывы*.

**Не ўтвараюцца простыя формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання ад якасных прыметнікаў з суфіксамі -*ав*-, -*яв*-, -*ляв*-, -*лів*-, -*ніч*-, -*ічн*-, -*еньк*-, -*эзн*-, -*юч*-, -*аўн*-, -*ат*-, -*авіт*-, -*іст*-, -*н*-, -*к*-, -*л*- (*перадавы*, *бялявы*, *вяртлявы*, *мітуслівы*, *маляўнічы*, *гераічны*, *беленькі*, *шырачэзны*, *калючы*, *сакаўны*, *шурпаты*, *працавіты*, *лясісты*, *туманны*, *плаўкі*, *хрыплы*).**

**9.** Прачытайце рады якасных прыметнікаў, якія не маюць ступеней параўнання. Вызначце, што абазначаюць словы ў радзе. З трыма прыметнікамі складзіце словазлучэнні.

а) Босы, жывы, кульгавы;
б) сівы, вараны́, буланы;
в) медны, ружовы, бэзавы;
г) ярка-чырвоны, светлавалосы, чарнабровы.

**10.** Утварыце ўсе магчымыя формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання прыметнікаў. Запішыце па два прыклады прыметнікаў у форме вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання. Складзіце з імі сказы.

Звонкі голас, чулы чалавек, светлы дзень, дажджлівы год, вішнёвая цынія, рэдкі лес, блізкая вёска, барадаты дзед, шпаркі воўк, лапавухі сабака, плаксівае дзіця, васільковы шаль, лясістыя горы, ціхая плынь, вараны́ конь, белахвостая птушка.

### Творчая лабараторыя

**11.** Складзіце «Кнігу геаграфічных рэкордаў»: запішыце некалькі сказаў пра «самых-самых».

**12.** ***Лінгвістычная задача «Вылічым... слова».*** Утварыце прапушчаныя формы ступеней параўнання.

1. Моцны : ? = ? : вышэйшы
2. Добры : ? = ? : горшы
3. Цямнейшы : ? = ? : найсвятлейшы
4. Шырокі : ? = ? : самы далёкі
5. Вузкі : ? = ? : найбольш дакладны
6. Прыгожы : ? = ? : больш смелы

### Стол даведак

У сачыненні пра родны горад Алег напісаў: «*Мінск — старажытнейшы горад Беларусі*». Ці правільна хлопчык ужыў форму ступені параўнання?

У рускай мове для таго, каб перадаць гранічную ступень якасці, ужываецца форма, утвораная пры дапамозе суфіксаў ***-айш-***, ***-ейш-*** (*древнейший костёл*, *глубочайшее озеро*). Для беларускай мовы характэрна форма найвышэйшай ступені параўнання (*найстаражытнейшы касцёл*, *найглыбейшае возера*).

### Выпраўляем памылкі

**13.** Папрацуйце рэдактарам газеты. Запішыце сказы без граматычных памылак.

1. Мамачка... У гэтым слове закладзены глыбейшы духоўны змест. 2. Зарплата пчаляроў — адна з вышэйшых на Століншчыне. 3. Хахуля — старажытнейшы прадстаўнік айчыннай фаўны. 4. Цэны ў магазіне ніжэй, чым на рынках горада.

### Творчая лабараторыя

**14.** Выкарыстайце прыметнікі ў вышэйшай і найвышэйшай ступенях параўнання ў рэкламным тэксце.

## *«Будзь здароў, як вада...»*: поўныя і кароткія формы якасных прыметнікаў

**Успомнім**

Кароткая форма якасных прыметнікаў у сучаснай беларускай мове ўжываецца вельмі рэдка. Яе можна сустрэць у паэтычных творах, у прыказках і прымаўках. Кароткія прыметнікі змяняюцца па родах і ліках, але не скланяюцца. У сказе кароткія формы якасных прыметнікаў выступаюць толькі ў ролі выказніка.

**1.** Прачытайце прыказкі. Знайдзіце ў іх поўныя і кароткія формы прыметнікаў. Вызначце, якімі членамі сказа яны з'яўляюцца. Праілюструйце прыметнікамі матэрыял табліцы. Прывядзіце прыклады.

1. Сам бог рад, калі ў сям'і лад. 2. Хата гасцямі багата. 3. Сам харош, а розуму ні на грош. 4. Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі. 5. Не вялік мураш, ды горы варочае. 6. На чужой старонцы рад сваёй варонцы. 7. Чым багата, тым і рада. 8. Не так дораг абед, як дарагі прывет.

| Формы | Змяняюцца | | | Маюць канчаткі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | адзіночны лік | | | множны лік |
| | род | лік | склон | м. р. | ж. р. | н. р. | |
| поўная | +<br>у<br>адз.<br>л. | + | + | **-ы, -і**<br>*вольны*<br>палёт<br>*ранні*<br>спеў | **-ая, -яя**<br>*мілая*<br>матуля<br>*позняя*<br>вясна | **-ае, -ое, -яе**<br>*шырокае*<br>палатно<br>*залатое*<br>збожжа<br>*асенняе* лісце | **-ыя, -ія**<br>*дзявочыя*<br>косы<br>*раннія*<br>маразы |
| кароткая | +<br>у<br>адз.<br>л. | + | толькі<br>ў Н.<br>скл. | □<br>народ<br>*волен*□ | **-а**<br>песня<br>*чутна* | **-а, -о**<br>усё<br>*мілагучна*<br>дно *відно* | **-ы, -і**<br>думкі<br>*шчыры*<br>словы<br>*дарагі* |

Падбярыце прыказкі, каб у іх былі поўныя і кароткія формы прыметнікаў. Афарміце прыказкі, праілюстраваўшы іх змест малюнкамі.

**2.** Прачытайце тэкст. Вызначце форму прыметнікаў (поўная, кароткая). Раскажыце пра адметнасць ужывання кароткай формы прыметніка ў беларускай мове.

Будзь здароў, як вада,
А расці, як вярба.
Будзь здароў на ўвесь год.
Будзь так весел, як вясна,
Будзь так моцны, як зіма.
Не будзь санлівы,
Да работы лянівы,
Не будзь завіслівы,
Але будзь здароў, як вада!
Расці, як вярба,
Будзь шмыткі, як пчала!
Будзь багат, як зямля!..

*З народнага.*

**3.** Вызначце, у якой форме (поўнай ці кароткай) ужыты выдзеленыя прыметнікі. Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі як члены сказа. Звярніце ўвагу на стылістычную мэту ўжывання кароткай формы прыметніка.

1. Пачынаецца ўсё з любві, нават самая ***простая*** ява (*Я. Янішчыц*). 2. Сеў матылёк на куст квяцістага бэзу — і ўбачылі ўсе адразу, якія фіялетавы бэз, а матылёк — ***бялюткі***! (*А. Разанаў*). 3. Усё тут ***знаёма*** і ***блізка***: і гэта гара, і рака, дыханне любімага Мінска, і неба — цвяток васілька (*Ю. Свірка*). 4. Свет ***шчодры***. Свет мяне паўторыць... Ну, а не свет, дык Беларусь — мне — досыць (*У. Караткевіч*). 5. Печ прыгорне нас, як матка, добра там, дзе я ***здароў*** (*Я. Колас*).

## *«Жменька сонечных промняў...»,* ці Скланенне якасных і адносных прыметнікаў

**1.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім прыметнікі. Вызначце, у якой форме яны ўжыты.

Галоўныя прыметы прадметаў даюць нам магчымасць лёгка пазнаць гэтыя прадметы. Вось, напрыклад, некалькі

прымет знаёмага вам прадмета: белая, крохкая (крышыцца ў руках), пакідае след на класнай дошцы. Пазналі? Вядома, гэта крэйда. А вось яшчэ прыклад: салодкае, белае, халоднае. Што гэта такое? Вы зноў пазналі — марожанае.

Назавіце прадметы па іх прыметах: 1. Белы, лёгкі, пушысты, халодны. 2. Зялёны, паласаты, круглы, салодкі.

Запішыце назвы прадметаў разам з іх прыметамі ў родным, давальным і месным склонах. Прыдумайце свае загадкі з выкарыстаннем прыметнікаў.

**2.** Запішыце прыказкі, у якіх ёсць наступныя антонімы: *маленькі — вялікі*, *горкі — салодкі*, *гарачы — халодны*. Вызначце разрад прыметнікаў. Растлумачце напісанне канчаткаў.

### Творчая лабараторыя

**3.** Вы ведаеце, што бываюць *залаты пярсцёнак*, *залатое сэрца*, *залатыя рукі*, *залатыя словы*. Складзіце як мага больш словазлучэнняў з прыметнікамі *воўчы*, *сярэбраны*, *свінцовы*, *металічны*. З двума словазлучэннямі пабудуйце сказы. Раскажыце пра пераход прыметнікаў з аднаго разраду ў іншы.

### Граматычнае сіта

**4.** Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя канчаткі, карыстаючыся табліцай. Выпішыце якасны і адносны прыметнік разам з назоўнікамі. Праскланяйце выпісаныя вамі словазлучэнні. Дакажыце, што канчаткі прыметнікаў залежаць ад роду, характару асновы і націску.

Прыгожы герб у горада Слоніма. На блакітн.. шчыце — стаіць на задн.. лапах залаты леў і трымае сярэбран.. стралу з двайной перакладзінай. Позірк яго мужн.. і велікадушны. Звер са спартыўн.., статн.. постаццю. Прыгож.. і добры леў з'яўляецца надзейн.. абаронцам.

Леў быў сімвалам слонімск.. старосты Льва Сапегі. Леў Сапега з'яўляўся вядом.. дыпламатам і палкаводцам, Канцлерам Княства і аўтарам Статута Вялік.. Княства Літоўск.. (*Паводле У. Ліпскага*).

| Склон | Мужчынскі род | Ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|---|
| Н. | -ы, -і | -ае, -ое, -яе | -ая, -яя |
| Р. | -ага, -ога, -яга | | -ай (-ае), -ой (-ое), -яй (-яе) |
| Д. | -аму, -ому, -яму | | -ай, -ой, -яй |
| В. | як Н. ці Р. | | -ую, -юю |
| Т. | -ым, -ім | | -ай (-аю), -ой (-ою), -яй (-яю) |
| М. | -ым, -ім | | -ай, -ой, -яй |

**5.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Вызначце канчаткі прыметнікаў. Растлумачце напісанне канчаткаў у множным ліку.

1. Галоўнае — з зямлёй (бацькоўская) сувязь, што б ні было, трывалай зберагчы (*С. Законнікаў*). 2. Мы ганім у нашых бацькоў пережыткі, а руні (ячменная) не адрознім ад жыта (*Р. Барадулін*). 3. Яшчэ нямала дзён (цікавы) і раніц светлых і (ласкавы) (*Я. Колас*). 4. Не раз прыходзіў я з (далёкі) дарогі паслухаць звон тваіх (блакітны) хваль (*П. Панчанка*). 5. Сустрэч і (шчыры) спагады не адкладай ніколі на пасля (*С. Грахоўскі*). 6. Бяру ў прыгаршчы (празрысты) вады — і сонца (трапяткі) у руках (*П. Панчанка*). 7. (Белы) (чаромхавы) завеяй зноў пялёсткі бераг замялі (*С. Грахоўскі*).

**6.** ***Лінгвістычная задача «Вылічым... слова».*** Запішыце прапушчаныя словы. Растлумачце правапіс суфіксаў.

1. Племя : племянны = полымя : ?
2. Чэрвень : чэрвеньскі = Кубань : ?
3. Казах : казахскі = калмык : ?
4. Навагрудак: навагрудскі = Брэст : ?
5. Беласток : беластоцкі = Нясвіж : ?
6. Буг : бугскі = чэх : ?

**7.** ***Лічбавы дыктант.*** *н* (1) ці *нн* (2)?

Свін..ыя вушы, карцін..ая галерэя, адушаўлён..ы назоўнік, мільён..ы жыхар, страшэн..ы шторм, жураўлін..ы крык, палымян..ая прамова, дарэформен..ы перыяд, абедзен..ы перапынак, семян..ы фонд, пясчан..ы кар’ер, брытвен..ы прыбор, казён..ы дом.

**8.** Перапішыце тэкст, устаўляючы літары і неабходныя прыметнікі. Растлумачце напісанне канчаткаў прыметнікаў.

**Еўропа — гэта мазаіка з р..зных моў: ад француз..кай да фінскай, ад партугальскай да румынскай. Некат..рыя з іх у ходзе гісторыі перас..клі разам з дасле..чыкамі акі..н. Так, сёння ў Бразіліі гаворацць на ..., у Аргенціне і Мексіцы — на ..., у Канадзе — на ... і ... мовах.**

Колькі дзяржаўных моў у Беларусі? На якіх мовах размаўляюць жыхары Беларусі? Складзіце спіс моў, пра якія вы ведаеце хоць што-небудзь. Цікава, колькі моў будзе ў вашым спісе?

### Творчая лабараторыя

**9.** Прачытайце тэкст. Пашырце яго прыметнікамі.

**У Настассі быў хамячок-дзяўчынка Мучка. Мучка — ад слова «мукá». Таму што ______. Спала яна ў ______ нары. Рэагавала на сваё ______ імя. Мне таксама хацелася мець такую ______ жывёлінку.**

**Аднойчы я прыйшла дадому і ў ______ пакоі ўбачыла ______ хамячка.**

**Пачала яго разглядваць. А ён такі ______! Лапкі ______, з ______ пальчыкамі, вочкі ______. Сам ён ______, хвосцік у яго ______, носік ______, зубкі ______. Назвала я хамячка Рыжык.**

***Для даведкі*: белы, ватны, мучны, прыгожы, дзіцячы, пушысты, смешны, маленькі, ружовенькі, малюсенькі, бліскучы, чорненькі, рыжанькі, невялічкі, ружовы, жоўценькія, вострыя.**

### Спроба пяра

**10.** Напішыце аб'яву пра тое, што згубілася ваша любімая жывёліна. Выкарыстайце як мага больш прыметнікаў.

## *Святло Купалавага дома ці Купалава дома?*: прыналежныя прыметнікі і іх склонавыя формы

**Успомнім**

Прыналежныя прыметнікі ў назоўным склоне маюць кароткую форму: прыметнікі мужчынскага роду — нулявы канчатак (*Алесеў сябар*, *настаўнікаў план*, *сябраў мапед*), жаночага роду — канчатак **-а** (*сястрына́ хустка*, *дзядулева энцыклапедыя*, *Петрусёва хата*), ніякага **-о** або **-а** (*буслава гняздо*, *даччыно пано*, *Алесева поле*).

**1.** ***Гульня «Бюро знаходак».*** Карыстаючыся табліцай, утварыце прыналежныя прыметнікі і дапамажыце вызначыць, каму належаць згубленыя рэчы: *шапка*, *пенал*, *вуда*, *акуляры*, *люстэрка*, *завушніцы*, *пяро*, *лато*. Утвораныя словазлучэнні запішыце ў табліцу.

| Утваральная аснова | Словаўтваральны суфікс | Прыналежныя прыметнікі |
|---|---|---|
| Назоўнікі мужчынскага роду<br>дзед□,<br>Алесь□,<br>рыбак□,<br>Кастусь□ | -аў- (-ав-),<br>-еў- (-ев-),<br>-оў- (-ов-),<br>-ёў- (-ёв-) | |
| Назоўнікі жаночага роду<br>бабуля<br>Марыля<br>зязюлька к:ч<br>Васілінка к:ч | -ін-<br>-ін-<br>-ын-<br>-ын- | |

**2.** Прачытайце тэкст. Вызначце, да якога разраду адносіцца прыметнік *воўчыя* ў словазлучэнні *воўчыя ягады*.

Малое дзяўчо збірае ягады з куста воўчага лыка ля дарогі.

— Што ты робіш? — пытаецца прахожы. — Гэта ж воўчыя ягады.

— Нічога, дзядзечка. Для ваўка яшчэ нарастуць.

Якой часцінай мовы з'яўляецца слова *прахожы*? Як яно змяняецца?

**3.** Ад выдзеленых назоўнікаў утварыце прыналежныя прыметнікі. З утворанымі словазлучэннямі складзіце некалькі сказаў.

Гняздо ***ластаўкі***, смех ***Алесі***, запасы ***вавёркі***, юнацтва ***Аленкі***, лапаць ***Мікіты***, крык ***кнігаўкі***, хата ***Лявоніхі***, дупло ***куніцы***, апярэнне ***зязюлькі***, паліто ***Зоські***, вочы ***Гаўрылы***, мары ***Гілевіча***, крылы ***дзятла***, апавяданні ***Бядулі***, рэкорд ***Антося***, крокі ***Янкі***, стук ***дзятла***.

**Стол даведак**

Чаму мы пішам *бачу сябрава кацяня*, але *бачу сябравага брата*?

**Калі ў вінавальным склоне прыналежны прыметнік дапасуецца да адушаўлёнага назоўніка мужчынскага роду, то мае канчатак *-ага* (бачу каго? — *бацькавага брата*, *сябравага сына*). Ва ўсіх астатніх выпадках у вінавальным склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі маюць кароткую форму (*бацькаву сястру*, *сябрава дзіця*, *Андрэеву кніжку*).**

**4.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў. З двума словазлучэннямі складзіце сказы.

**Падзяляю Андрэев.. радасць, горк.. крыўду, буслав.. крыла, убачыў суседав.. сабаку, бел.. абрусам, не знайшоў дзедав.. капелюша, над блакітн.. Італіяй, вакол Ськав.. капелюша, па асенн.. дажджах, каля мядзведж.. берлагу, на салаўін.. канцэрце, на свеж.. паветры, пры апошн.. пасажыру, да сестрын.. паліто, сустрэў братав.. дзіця, чароўн.. зямлёй, вучу Антосев.. сына.**

**5.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Зрабіце марфалагічны разбор падкрэсленых прыметнікаў. Раскажыце пра адметнасць змянення прыналежных прыметнікаў.

**1. З дзяцінства ўрэзаўся ў памяць пах (*матчын*) хлеба — <u>сакавіты</u>, духмяны, любы (*Б. Сачанка*). 2. І кожны радок быў да сэрца прытулены, што Біблію слова (*матулін*) берагу, каб не сурочылі (*Р. Барадулін*). 3. У кляновую замець, у сіні прастор зноў паклікала восень на (*матчын*) поле (*С. Грахоўскі*). 4. Уяві мяне ў казцы <u>чароўнай</u> (*Купа-***

***лаў***) Бандароўнай (*Д. Бічэль*). 5. І бег дадому шпарка конь. Шукаў сынок у рукаве тугую (***бацькаў***) далонь (*Ю. Свірка*).

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Якое значэнне маюць вышэйшая і найвышэйшая ступені параўнання прыметніка?

2. Якія вы ведаеце формы ступеней параўнання? Як яны ўтвараюцца? Ці можна сказаць: «Я ўтварыў простую ступень параўнання прыметніка»? Чаму?

3. Параўнайце формы прыметнікаў *старшы сяржант*, *малодшы лейтэнант* і *Андрэй старэйшы за мяне*, *мой тата маладзейшы за суседа*. Якія з іх ужыты ў форме вышэйшай ступені параўнання?

4. Ці правільна ўтворана форма ступені параўнання ў наступных прыкладах: *Полацк — старажытнейшы горад*. *Нарач — глыбейшае возера*? Абгрунтуйце сваю думку.

5. Якія групы якасных прыметнікаў не могуць мець ступеней параўнання? Прывядзіце прыклады.

6. Якія прыметнікі могуць мець кароткую форму?

7. У якіх склонах супадаюць канчаткі адносных і якасных прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду?

8. У чым адметнасць скланення якасных і адносных прыметнікаў?

9. Як утвараюцца прыналежныя прыметнікі жаночага, мужчынскага і ніякага роду?

10. У чым асаблівасці скланення прыналежных прыметнікаў?

11. Вучням прапанавалася з дзвюх груп формаў (***не знайшоў дзедава*** ці ***дзедавага прыёмніка***, ***убачыў суседава*** ці ***суседавага сына***, ***не заўважыў Васілёва*** ці ***Васілёвага агеньчыка***) выбраць правільную. Алеся напісала ***дзедава прыёмніка, суседавага сына***, ***Васілёва агеньчыка***. Ці правільны выбар зрабіла Алеся? Абгрунтуйце сваю думку.

**Правяраем сябе**

## I варыянт

**1.** Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі прыметнікаў. Вызначце тып тэксту.

**Як даўней св..ткавалі Купалле — старажытн.. абрадавае свята? Звычайна вечарам мола..ь збіралася каля р..чкі ці возера, на лясн.. паляне ці каля малад.. жыта. Дзяўчаты шукалі лекав.. травы, плялі прыгож.. вянкі. А хлопцы рыхтавалі вялік.. вогнішча. Калі агонь станавіўся ярк.. і палк.., пачыналі вадзіць каля вогнішча карагоды, скакаць цераз яго. Наваколле по..нілася звонк.. смехам, жартамі.**

**Апоўначы ўсе разыходзіліся па цёмн.. лесе. Верылі, што ў купальск.. ноч адбываецца найвялікш.. цуд прыроды — зацв..тае чарадзейн.. папараць-кветка. Яна асляпляльна-бел.. колеру, але цв..це нядоўга. Хто паспее яе сарваць, будзе шчаслів.. (*Паводле У. Ягоўдзіка*).**

**2.** Выпішыце з апошняга абзаца прыметнікі разам з назоўнікамі. Абазначце іх род, лік і склон.

**3.** Утварыце і запішыце формы ступеней параўнання прыметніка *малады*. Ці могуць мець ступені параўнання прыметнікі *асляпляльна-белы*, *цудадзейны*? Адказ абгрунтуйце.

**4.** Ад назоўніка *хлопцы* ўтварыце прыналежны прыметнік. Запішыце яго разам з назоўнікам у вінавальным склоне.

## II варыянт

**1.** Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі прыметнікаў. Вызначце тып тэксту.

**Малю..ць не толькі людзі. Нёман — мастак эмацыянальн.. . Спярша на пя..чаную паласу мастак наносіць слой рачн.. глею. Ён паступова высыхае на гарач.. сонцы. А на пяск.. ў цёпл.. ямках купаюцца ч..жыкі і вераб'і.**

Звяры і птушкі ўпрыгожваюць гэту мясціну карункамі разнастайн.. слядоў. У кожнай жыв.. істоты свой асаблівы почырк. Сляды на пяск.. — як адціснутыя ў мякк.. пласт..ліне. Вось тут пакінуў аўтограф воўк, далей — дзік. Яшчэ далей лось: след глыбок.., ра..двоены.

Праз некалькі дзён заўважаю, што прыб..рэжная паласа заз..лянела балотніцай. Нёман аздобіў яркай зелянінай усю прырэчн.. мясціну. А кветкі дз..мухаўцоў пазалацілі зялёнае палатно...

Праца над карцінай працягваецца (*Паводле М. Бусько*).

**2.** Выпішыце з першага абзаца прыметнікі разам з назоўнікамі. Вызначце іх род, лік і склон.

**3.** Утварыце і запішыце формы ступеней параўнання прыметніка *цёплы*. Ці могуць мець ступені параўнання прыметнікі *зялёны*, *прырэчны*? Адказ абгрунтуйце.

**4.** Ад назоўніка *лось* утварыце прыналежны прыметнік. Запішыце яго разам з назоўнікам у вінавальным склоне.

# ЛІЧЭБНІК

## *«За трыдзевяць зямель...»*: разрады лічэбнікаў

### Граматычнае сіта

**1.** Прачытайце тэкст. Падбярыце да яго загаловак. Вызначце ролю лічэбніка ў тэксце. Выпішыце лічэбнікі, размеркаваўшы іх па групах у залежнасці ад разраду паводле значэння.

Паміж Мінскам і Токіа — болей як восем тысяч кіламетраў. Японія знаходзіцца на астравах. Іх некалькі тысяч, але толькі каля трохсот з іх маюць плошчу большую за адзін квадратны кіламетр. Вялікіх усяго чатыры — Хакайда, Хансю, Сікоку і Кюсю.

Агульная плошча астравоў — трыста семдзесят восем тысяч квадратных кіламетраў. Дзевяць дзясятых краіны

займаюць горы, таму заселеная толькі адна дзясятая яе частка. На ёй жыве прыкладна сто дваццаць пяць мільёнаў чалавек. Японскі архіпелаг расцягнуўся на тры з паловаю тысячы кіламетраў з поўначы на поўдзень. Таму, напрыклад, сёння можна пакатацца на лыжах на Хакайда, а заўтра паляжаць на гарачым пяску вострава Акінава (*Паводле «Бярозкі»*).

**2.** Прачытайце тэкст. Выпішыце лічэбнікі. Ахарактарызуйце іх паводле будовы (простыя, складаныя, састаўныя).

Самая старажытная літара О засталася нязменнай. У такім самым выглядзе яна была прынятая ў фінікійскім алфавіце (каля тысячы трохсот гадоў да н. э.).

Самы доўгі алфавіт (семдзесят дзве літары) мае кхмерская мова. Гэта мова жыхароў Лаоса і Кампучыі.

Самы кароткі алфавіт утрымлівае адзінаццаць літар (папуаскія мовы).

Самая вялікая колькасць галосных (пяцьдзясят пяць) налічваецца ў мове саданг (Цэнтральны В'етнам).

Найменшая колькасць галосных (дзве) у абхазскай мове (каўказскія мовы).

Назавіце прыметнікі ў найвышэйшай ступені параўнання.

**3.** Вызначце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца аднакаранёвыя словы. Чым адрозніваюцца лічэбнікі ад назоўнікаў, якія абазначаюць лік? З двума лічэбнікамі складзіце сказы.

Чацвёрты, чатыры, чацвярціна, чацвярцінка, чатырма, учацвярых, чвэрць, чатырыста, чацвёрка, адна чацвёртая; сямнаццаць, сёмы, сямёрка, сем, сямітысячны.

**4.** Прачытайце тэкст. Вызначыце яго стыль і тып. Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы? Выпішыце лічэбнікі разам з назоўнікамі, вызначце іх сінтаксічную ролю ў сказе.

Нашы прапрапрадзеды верылі ў магію лічбаў. 7 азначала *чвэртку* месяца, колькасць дзён у тыдні. *«Сямёрку»* звязвалі яшчэ з колькасцю зорак у Вялікім Возе. 4 — *чатыры* часткі сутак, чатыры пары года, чатыры бакі свету. Яны мелі сваю колеравую сімволіку. Сіняя або зялёная бар-

ва асацыявалася з захадам, белая — з усходам, чырвоная і чорная — з поўднем і поўначчу (*Паводле У. Арлова*).

**5.** Прачытайце і запішыце прыказкі і прымаўкі. Раскажыце пра ролю лічэбніка ў маўленні.

1. Хто два зайцы гоніць, ніводнага не здагоніць. 2. У адно вуха ўпусціў, а ў другое выпусціў. 3. У добрай галавы сто рук. 4. Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў. 5. Былі б мы сямёра, змаглі б усё ўчора. 6. За сем работ бярэцца, а ні адна не ўдаецца. 7. Конь на чатырох нагах, і той спатыкаецца. 8. Дзе кухараў шэсць, там няма чаго есць.

**6.** Карыстаючыся слоўнікамі, растлумачце значэнні фразеалагізмаў *блудзіць* (*заблудзіць*) *у трох соснах*, *абое рабое*, *за трыдзевяць зямель*, *іграць першую скрыпку*, *на сваіх дваіх*, *на ўсе сто*.

**7.** ***Лінгвістычная задача «Вылічым... слова».*** Устаўце замест кропак слова, захоўваючы марфалагічныя прапорцыі. Раскажыце пра ўжыванне лічэбнікаў з назоўнікамі. Запішыце назвы твораў мастацкай літаратуры, у якіх выкарыстоўваюцца лічэбнікі.

1. Двум : ? = дзвюм : ?
2. Двух : ? = дзвюх : ?
3. Абодвума : ? = абедзвюма : ?
4. Паўтара : ? = паўтары : ?
5. Двума : ? = дзвюма : ?

*Для даведкі*: 1. сёстрам або братам. 2. лялек або робатаў. 3. суседкамі або сябрамі. 4. сценам або кіламетрам. 5. далонямі або пнямі.

### Вясёлы перапынак

**8.** Прачытайце скорагаворку. Назавіце лічэбнік. Пашырце ім словазлучэнні *вясёлыя дзяўчынкі*, *старанныя вучні*. Раскажыце пра адметнасць ужывання.

Тры рублі рублямі,
Рубель пятакамі,
Рубель так
Ды пятак.

Тры капейкі па капейцы
І капейка так.

**Граматычнае сіта**

**9.** Назавіце рады назоўнікаў, якія спалучаюцца з лічэбнікам *двое*. Абгрунтуйце сваю думку. Раскажыце пра адметнасць утварэння зборных лічэбнікаў і сінтаксічную сувязь з назоўнікамі.

- Кніга, сястра, верабей.
- Газета, трактар, вучоны.
- Баец, суткі, людзі.
- Конюх, важаты, трактар.
- Мужчына, нажніцы, лісяня.
- Варона, дзяўчына, мышаня.
- Дзверы, коні, ваўчаня.
- Сын, гусі, бабраня.
- Галчаня, школьнік, рабочы.
- Лінейка, ваўчаня, інспектар.

**10.** Прачытайце. Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы. Утварыце парадкавыя лічэбнікі ад слоў *пяць*, *дваццаць*, *трыццаць адзін*, *сто тысяч*.

На ўроку фізікі настаўнік спытаў вучня:
— Колькі законаў адкрыў Архімед?
— Сем, — адразу адказаў той.
— Калі ласка, пералічы іх.
— *Першы, другі, трэці*... (*Паводле «Вясёлкі»*).

## Граматыка з матэматыкай, ці Скланяем колькасныя лічэбнікі

### *Скланенне лічэбнікаў, якія абазначаюць цэлыя лікі*

#### Лічэбнік *адзін* (*адна, адно*), *адны*; *два, тры, чатыры*

**Успомнім**

Лічэбнік *адзін* скланяецца, як прыметнік. Лічэбнік *адзін* дапасуецца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне.

**1.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце лічэбнік. У якім родзе ён можа дапасавацца да назоўніка? Ці можа ён мець форму множнага ліку?

— Вова, — сказала настаўніца, — тваё сачыненне «Наша мама» слова ў слова супадае з сачыненнем твайго брата.

— Вядома, — адказаў Вова. — У нас з братам адна мама (*Паводле «Вясёлкі»*).

Утварыце словазлучэнні «лічэбнік **адны** + назоўнік, які ўжываецца толькі ў форме множнага ліку». Ці можа лічэбнік **адны** спалучацца з іншымі назоўнікамі?

### Вясёлы перапынак

**2.** Адгадайце загадку А. Зэкава. Спалучыце лічэбнікі *два*, *тры*, *чатыры* з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду. Пашырце словазлучэнні прыметнікамі.

Апанас каля канавы
Ў дзве рукі касіў атаву.
Падышлі Цімох і дог —
Колькі стала рук на трох?

**3.** ***Лінгвістычная задача.*** Ці адпавядаюць літаратурнай норме скланавыя формы азначэнняў пры колькасна-іменных спалучэннях у прыкладах *дзве шэрых гусі*, *чатыры тонкіх галінкі*, *два высокіх дрэўцы*, *тры маладых клёнікі*?

### Папрацуем перакладчыкамі

**4.** Перакладзіце на беларускую мову словазлучэнні. З двума з іх складзіце сказы.

Три дорогих вещи, два зимних пальто, две чёрных кошки, три надёжных друга, четыре маленьких лисёнка.

### Успомнім

Лічэбнікі *два* (*дзве*), *тры*, *чатыры* ў творным склоне маюць канчаткі *-**ма*** і *-**ыма***: *чатыр**ма** медзведзянятамі*, *тры**ма** пяцёркамі*.

**5.** Адгадайце загадкі. Праскланяйце лічэбнікі-адгадкі разам з назоўнікамі. Растлумачце напісанне канчаткаў.

1. Ляцелі галкі, стаялі палкі. Як сядуць яны па адной — галка лішняя, як сядуць па дзве — палка лішняя. Колькі

было галак і колькі палак? 2. Сядзяць у крузе чатыры кошкі, супраць кожнай кошкі — па тры. Колькі кошак было разам? 3. Ляцела сарока, за ёю сорак. Колькі ляцела птушак?

### Лічэбнікі *пяць — дзесяць, адзінаццаць — дваццаць, трыццаць*

**Лінгвістычны каментарый**

У форме творнага склону лічэбнікаў ад *дзевяці* да *дваццаці*, лічэбніках *пяць* і *трыццаць* адбываецца падаўжэнне гука [ц’] у становішчы паміж галоснымі, што перадаецца на пісьме падвойным напісаннем літары ***ц***: ***дзевяццю лiпамі***, ***пяццю таварышамі***, ***трыццаццю гадамі***.

**6.** Запішыце, замяняючы лікі словамі. Абазначце канчаткі лічэбнікаў і іх склон.

*Узор.* Да васьмі дадаць дзевяць — будзе сямнаццаць.

1. Да 13 дадаць 7 — будзе... 2. Ад 30 адняць 12 — будзе... 3. Да 8 дадаць 5 — будзе... 4. Ад 15 адняць 7 будзе... 5. Да 3 дадаць 14 будзе...

**7.** Назоўнікі, што ў дужках, дапасуйце да лічэбнікаў. Спалучэнні слоў запішыце ў творным склоне.

Восем (дзіця), дванаццаць (пяро), трыццаць (гектар), дваццаць (паверх), пятнаццаць (дзень), сем (голуб), пяць (лінія), шэсць (яблык), чатырнаццаць (вішня).

**Спроба пяра**

**8.** Паразважайце, чаму для некаторых вучняў вашага класа лёгка па беларускай мове атрымаць «дзесяць» і «дзевяць». А некаторыя нават «пяць» атрымліваюць з цяжкасцю. Падчас разважання вы можаце выкарыстоўваць словы «пяцёрка», «дзясятка», «сямёрка». Ці з’яўляюцца гэтыя словы лічэбнікамі?

### Лічэбнікі *сорак, сто, дзевяноста*

**Успомнім**

Лічэбнікі ***сто***, ***сорак*** маюць дзве формы: у назоўным і вінавальным склоне *сто*, *сорак*, а ва ўскосных (акрамя

вінавальнага) — *ста*, *сарака*. Лічэбнік *дзевяноста* ва ўсіх склонах мае аманімічныя формы: *дзевяноста песень*, *дзевяноста песням*, *дзевяноста песнямі*.

**9.** Прачытайце тэкст Г. Каржанеўскай. Выпішыце лічэбнік разам з назоўнікам. Праскланяйце. Складзіце некалькі сказаў, каб лічэбнік быў у розных формах. Патлумачце напісанне слова *рэкорды*.

Страказа на камень села,
Ножкі тонкія пагрэла,
Пакруціла галавой
І сказала: «Божа мой!
Налятала я на дачах
Кіламетраў сто, няйначай.
Б'ю рэкорды дзень за днём...
А дзе мой аэрадром?»

**10.** Праскланяйце словазлучэнні.

40 порцый марожанага, 90 белых мышэй, 100 тамоў «Сусветнай літаратуры».

**Выпраўляем памылкі**

**11.** У сачыненні некалькі вучняў класа напісалі, што купілі сшыткі *са стамі старонкамі*, *пабывалі на стах выстаўках*. Ці правільныя формы лічэбнікаў ужыты ў творчай рабоце?

**Папрацуем перакладчыкамі**

**12.** Перакладзіце. З двума словазлучэннямі складзіце сказы.

Девяносто рублей, девяноста тетрадями, девяноста участникам, на девяноста страницах.

## Лічэбнікі *пяцьдзясят — восемдзесят*, *дзвесце — дзевяцьсот*

**Успомнім**

Пры скланенні лічэбнікаў ад *пяцідзесяці* да *васьмідзесяці* ва ўскосных склонах кожная частка мае канчаткі, аднолькавыя з канчаткамі лічэбніка *пяць*. Пры скланенні націск

падае на канчатак першай часткі: *шасі́дзесяці*, *сямі́дзесяці*, *васьмю́дзесяцццю*, у лічэбніках *дзвесце* — *дзевяцьсо́т* — на частку ***-сот***: *двухсо́т*, *пяцісо́т*, *дзевяцісо́т*.

Другая частка лічэбнікаў ад *двухсот* да *дзевяцісот*, якая суадносіцца з лічэбнікам *сто*, ва ўскосных склонах мае чатыры формы: *сямі**со́т** гарадоў*, *сямі**ста́м** гарадам*, *сямю**ста́мі** гарадамі*, (*у*) *сямі**ста́х** гарадах*.

**13.** Прачытайце тэкст. Запішыце лікі словамі. Словы якіх часцін мовы вы запісалі? З лічэбнікам *дзвесце* пабудуйце сказ, які адпавядаў бы тэматыцы тэксту. Праскланяйце лічэбнікі *пяцьдзясят*, *дзвесце*, *восемсот*.

Слова *юбілей* — лацінскае. Гэтым словам называлі прамежак часу ў 50 гадоў. Цяпер юбілеем называюць круглую дату, гадавіну, кратную пяці. Характэрным для слова *юбілей* з'яўляецца тое, што яно спалучаецца з прыметнікам *гадовы*: 800-гадовы юбілей горада, 50-гадовы юбілей маці, 100-гадовы юбілей майго дзядулі (*З. Бадзевіч*).

### Выпраўляем памылкі

**14.** Настаўніца прапанавала вучням праскланяць спалучэнне *дзвесце бяроз*. Алеся добра ведала, што пры скланенні складаных лічэбнікаў змяняюцца дзве часткі. У лічэбніку *дзвесце* першая частка *дзве-*. Дзяўчынка і пачала змяняць яе, як адпаведны лічэбнік: *дзвюхсот бяроз*, *дзвюмастамі бярозамі*... Ці правільна Алеся змяняла лічэбнік? Дапамажыце дзяўчынцы выправіць памылку.

### Лінгвістычны каментарый

Частка ***дзве-*** лічэбніка *дзвесце* ў назоўным і вінавальным склонах мае форму жаночага роду, а ва ўскосных склонах змяняецца па тыпе мужчынскага роду: *двумстам*, *двухсот*.

Н. дзвесце рукапісаў
Р. двухсот рукапісаў
Д. двумстам рукапісам
В. дзвесце рукапісаў
Т. двумастамі рукапісамі
М. (пры) двухстах рукапісах

**Вясёлы перапынак**

**15.** Прачытайце лічылку М. Пазнякова. Вызначце, да якога разраду паводле будовы і значэння адносяцца лічэбнікі. У якой форме яны ўжываюцца ў тэксце? Праскланяйце спалучэнне *дзвесце пенак*.

Доўга кнігу я гартаў,
Шмат жывёлін напаткаў:
Дзевяць зайцаў,
Трох шпакоў,
Сем вавёрак,
Двух ласёў.
Восем дзятлаў,
Шэсць лісіц,
Дзвесце пенак,
Сто сініц.
Дзесяць вожыкаў,
Пяць соў.
Ты лічы,
А я пайшоў.

Выкарыстоўваючы лічэбнікі, напішыце абʼяву пра незвычайную знаходку.

## Скланенне састаўных лічэбнікаў, якія абазначаюць цэлыя лікі

**Успомнім**

Пры скланенні састаўных лічэбнікаў кожная частка змяняецца, як просты лічэбнік.

**16.** Прачытайце тэкст. Вызначце канчаткі лічэбнікаў. Патлумачце напісанне формаў лічэбніка.

Трэнеру секцыі, у якой было пяцьдзясят восем вучняў, даводзілася пастаянна ўжываць лічэбнік *пяцьдзясят восем* у розных склонах:

Н. Пяцьдзясят восем — колькасць вучняў на пачатак заняткаў.

Р. Для пяцідзесяці васьмі вучняў куплены мячыкі.

Д. Пяцідзесяці васьмі вучням выдадзены ракеткі.

**В. Пяцьдзясят восем вучняў узнагароджаны ганаровымі граматамі.**

**Т. З пяццюдзесяццю васьмю вучнямі ездзілі на спаборніцтвы.**

**М. На пяцідзесяці васьмі вучнях новая форма.**

Уявіце, што ў секцыі займаецца 25 вучняў. Складзіце шэсць сказаў, каб лічэбнік *дваццаць пяць* ужываўся ў розных склонах.

### Вясёлы перапынак

**17.** Прачытайце тэкст. Чаму задачка падалася «хітрай» для вучня? Праскланяйце лічэбнікі з тэксту разам з назоўнікамі. Раскажыце пра адметнасць скланення састаўных лічэбнікаў і лічэбніка *дзвесце*.

Задачка гэта складзена
Даволі хітра.
Знайшоў адказ,
А як жа зразумець? —
Вады было ў басейне
Дзвесце літраў,
А выцякла —
Аж трыста дваццаць шэсць.

*У. Мацвееў.*

### Папрацуем перакладчыкамі

**18.** Перакладзіце сказ на беларускую мову. Раскажыце пра асаблівасць спалучэння састаўных лічэбнікаў, якія заканчваюцца на 2, 3, 4, з адушаўлёнымі і неадушаўлёнымі назоўнікамі. Якую форму ў вінавальным склоне будзе мець лічэбнік *дваццаць два* ў складзе колькасна-іменнага словазлучэння «*лічэбнік + назоўнік алімпійцы*»?

**Число 37 имеет замечательное свойство. Если умножить его на числа 3, 6, 9, 12, 15, 18, то получится интересный ряд: 111, 222, 333, 444, 555, 666 (*В. Служэўская*).**

**19.** Прачытайце верш У. Мацвеенкі. Запішыце лікі словамі ў родным і творным склонах. Раскажыце, якіх правіл бяспекі вы прытрымліваецеся.

А я
Ад ранішняй

Пары
Зубрыў на памяць
Нумары.
Калі
Будынак у агні,
Па 101
Хутчэй звані.
Калі
Здараецца бяда,
Звані
Ў міліцыю — 102.
Калі патрэбны дактары,
Звані
Па «хуткую» — 103.
Калі
З пліты
Выходзіць газ,
Звані па 104 —
У Мінгаз.

**20.** Прачытайце распіску, якую напісаў вучань. Раскажыце пра стылістычную ролю лічэбніка ў маўленні.

**Распіска**

Мною, Кавалеўскім Раманам, вучнем 6 «Б» класа, атрымана ў бібліятэцы 114 кніг, 32 часопісы і 28 газет для тэматычнай выставы гуртка «Жывое слова».

20 снежня 2010 г. Подпіс

По правілах у дакументах лікі пішуцца словамі. Запішыце лікі словамі.

### Спроба пяра

**21.** Вас папрасілі набыць падарункі для спартыўнага свята на суму 157 рублёў. Напішыце распіску паводле прапанаванага вышэй узору.

## *Склонавыя формы зборных лічэбнікаў*

### Вясёлы перапынак

**1.** Прачытайце загадку-скорагаворку. Назавіце зборныя лічэбнікі. Раскажыце пра асаблівасці скланення. Адгадку запішыце і праскланяйце.

**Сем сямярэй, сямёра свіней, свінка, свінчын брат і сямёра парасят. Колькі будзе?**

### Выпраўляем памылкі

**2.** Прачытайце сказы. Выпраўце памылкі. Раскажыце пра асаблівасці спалучэння лічэбніка *абое* з назоўнікамі.

**1. Мыць падлогу будзеце абое: і Саша, і Косцік. 2. Трымайся лепш — абоімі рукамі! 3. Каваленка Люда і Андрэйчанка Антося! Зноў вы абое спазніліся!**

### Успомнім

**Лічэбнік *абое* скланяецца, як займеннік *твае*. Ва ўскосных склонах націск падае на *і*.**

**3.** Праскланяйце лічэбнік *абое* паводле ўзору. Запішыце неабходныя формы. Складзіце сказы з лічэбнікамі *абодва*, *абедзве*, *абое* ва ўскосных склонах. Ці можа лічэбнік *абое* спалучацца са словам суседзі?

| | | |
|---|---|---|
| Н. | абое | твае суседзі |
| Р. | ... | тваіх суседзяў |
| Д. | ... | тваім суседзям |
| В. | абаіх | тваіх суседзяў |
| Т. | ... | тваімі суседзямі |
| М. | (пры) ... | тваіх суседзях |

**4.** ***Лінгвістычная задача.*** Мы можам сказаць *чацвёра сяброў*, а ці можна сказаць *чацвёра сяброваk*? З якімі назоўнікамі «сябруюць» зборныя лічэбнікі? Праскланяйце спалучэнне *чацвёра сяброў*. Раскажыце пра калектыўны паход у кіно, выкарыстоўваючы зборныя лічэбнікі.

## *Скланенне дробавых лічэбнікаў, іх склонавыя канчаткі*

**Успомнім**

У дробавых лічэбніках асобна скланяюцца лічнік — як колькасны лічэбнік, і назоўнік — як парадкавы лічэбнік: *тры дзясятыя кіламетра*, *трох дзясятых кіламетра*, *тром дзясятым кіламетра* і г. д.

*Увага!* Назоўнік пры дробавым лічэбніку ва ўсіх склонах ужываецца ў форме адзіночнага ліку роднага склону.

**Вясёлы перапынак**

**1.** Прачытайце тэкст.

Дзве сястрычкі, Оля з Юляй,
Запыталіся ў бабулі:
— Адкажы, на што падобна
Палавіна апельсіна?..
Лоб наморшчыла бабуля:
— Мо на жоўтую цыбулю?
Мо на сонечны праменьчык
Ці бурштынавы каменьчык?..

Дапамажыце бабулі адгадаць, на што падобна палавіна апельсіна. Які дробавы лічэбнік адпавядае назоўніку *палавіна*? Запішыце яго і праскланяйце разам з назоўнікам *апельсін*.

**2.** Параўнайце формы дробавых лічэбнікаў першай і другой групы. Раскажыце, як дапасуецца лічнік да назоўніка ў дробавых лічэбніках. Ад чаго гэта залежыць?

а) $\frac{2}{3}$ — дзве трэція, $\frac{3}{7}$ — тры сёмыя, $\frac{4}{9}$ — чатыры дзявятыя;

б) $\frac{5}{8}$ — пяць восьмых, $\frac{6}{7}$ — шэсць сёмых, $\frac{7}{9}$ — сем дзявятых.

**Выпраўляем памылкі**

**3.** Вучням было прапанавана заданне запісаць лікі $\frac{2}{7}$, $\frac{6}{8}$, $\frac{4}{5}$ словамі. Марына напісала *дзве сёмых*, *шэсць восьмых*, *чатыры пятых*. Ці правільна дзяўчынка выканала заданне?

**Стол даведак**

Як правільна напісаць: *дзве цэлыя пяць восьмых* ці *дзве цэлых пяць восьмых*?

Слова *цэлыя* ўжываецца ў форме множнага ліку назоўнага склону пасля лічэбнікаў *два*, *тры*, *чатыры* і ў форме множнага ліку роднага склону пасля іншых лічэбнікаў, якія абазначаюць цэлыя лікі.

**4.** Запішыце лікі словамі. З трыма спалучэннямі складзіце сказы.

$\frac{3}{6}$ (тэрыторыя), $2\frac{3}{8}$ (літр), $\frac{4}{5}$ (зала), $1\frac{2}{3}$ (кілаграм), $\frac{5}{7}$ (тона), $2\frac{3}{5}$ (пясок).

**Лінгвістычны каментарый**

Дробавы лічэбнік *паўтара* мае значэнне «адзін і палова другога» і ва ўсіх склонах ужываецца ў форме *паўтара*. Аднак ён змяняецца па родах: *паўтара* — пры спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду і *паўтары* — з назоўнікамі жаночага роду.

*Увага!* Ва ўскосных склонах, акрамя роднага і вінавальнага, пры лічэбніках *паўтара* і *паўтары* назоўнік ужываецца ў множным ліку.

**Творчая лабараторыя**

**5.** Праскланяйце спалучэнні *паўтара яблыка*, *паўтары ігрушы*, *паўтара банана*. Складзіце невялікія сказы, у якіх лічэбнікі *паўтара* і *паўтары* ўжываліся б у розных склонах.

**6.** Вызначце, як раней называлася мера даўжыні, якая складала:

2,13 м; 0,71 м; 16,4 кг; 4,3 г?

*Для даведкі:*

**Меры даўжыні**

1 сажань = 3 аршыны = 7 футаў = 2,13 м

1 аршын = 16 вяршкоў = 0,71 м

**Меры вагі**

1 пуд = 40 фунтаў = 16,4 кг

1 залатнік = 4,3 г

Падрыхтуйце паведамленне з выкарыстаннем старажытных мер даўжыні і вагі.

## Скланенне парадкавых лічэбнікаў

**Успомнім**

**Парадкавыя лічэбнікі змяняюцца, як прыметнікі. Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў змяняецца толькі апошняе слова.**

**1.** Запішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне парадкавых лічэбнікаў. Вызначце, якім членам сказа з'яўляюцца парадкавыя лічэбнікі.

У час вайны (тысяча васемсот дванаццаць) года французы знішчылі многія рэдкія беларускія кнігі. У агні загінуў Турава-Пінскі летапіс. Ён быў пачаты ў (тысяча дваццаць адзін) годзе і скончаны ў (тысяча шэсцьсот трыццаць пяць). Ворагі знішчылі і беларускі слоўнік, складзены Лаўрэнціем Зізаніем у (тысяча пяцьсот дзевяноста шэсць) годзе.

**Лінгвістычны каментарый**

У лічэбніках, якія заканчваюцца на -*тысячны*, -*мільённы*, -*мільярдны* і інш. таксама змяняецца толькі апошняе слова: *дваццацітысячны* (*дваццацітысячнаму*, *дваццацітысячным*, *трохмільённы* (*трохмільённага*, *трохмільённым*), *двухмільярдны* (*двухмільярднага*, *двухмільярднаму*). Такія лічэбнікі пішуцца ў адно слова.

**Творчая лабараторыя**

**2.** Раскрыйце дужкі і запішыце словазлучэнні. Лікі замяніце словамі. З трыма словазлучэннямі складзіце сказы пра Беларусь. Правядзіце сацыялагічнае апытанне на тэму «Чыстая вада — крыніца здароўя».

Ганарыцца (50-тысячны) жыхаром, у (2-мільённая) сталіцы, з (10-мільённы) насельніцтвам, у (150-мільённы) тыражы, за (200-тысячны) пасажырам.

**3.** Прачытайце тэкст. Запішыце лік словамі. Ахарактарызуйце лічэбнік з тэксту паводле значэння і структуры. Праскланяйце яго.

Нашы продкі называлі сакавік бярозазолам. У гэты час палілі беразнякі, чысцілі зямлю пад новы ўраджай. Адна-

часова абуджаўся бярозавы сок. А трошкі пазней на галінках з’яўляліся першыя клейкія лісцікі. Адзін такі лісцік аднойчы зляцеў з галінкі і трапіў на герб Бярозы, побач з датаю — 1477 год (*А. Бензярук*).

Пра нараджэнне якіх беларускіх гарадоў гавораць вам наступныя лічбы: 862, 980, 1067 (Полацк, Тураў, Мінск)? Што вы ведаеце пра гісторыю ўтварэння гэтых гарадоў?

**4.** Запішыце словазлучэнні, замяняючы лікі словамі і раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс лічэбнікаў. З трыма словазлучэннямі пабудуйце сказы. Праскланяйце дробавыя лічэбнікі разам з назоўнікамі.

І. З 978 надпісамі, 16-павярховы дом, да 875 старонак, перад 327 школьнікамі, ад 237 адняць 14, здаць $\frac{4}{5}$ работы, 2 (залаты ланцужок), $\frac{3}{9}$ (падручнік), 12 (свінні), 900-гадовы юбілей, 9 (параненыя).

ІІ. З 49 памылкамі, звыш 97 гатункаў, 7 (бусляня), 40-градусная спякота, 185-ты надзел, на 263-м кіламетры, пад 728 цаглінамі, $4\frac{3}{5}$ (тона), за 687 гарадамі, 12 (нажніцы).

**5.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Запішыце лікі словамі. Зрабіце марфалагічны разбор лічэбніка *трыста*.

Вялікая Мядзвядка вядома 300 гадоў. Вёска і на пачатак цяперашняга стагоддзя немалая — 84 двары, 219 жыхароў. Яна — калыска Ігната Дамейкі, сусветна вядомага вучонага, грамадскага дзеяча, актыўнага ўдзельніка паўстання 1831 года на Беларусі. Нашаму земляку ўстаноўлены помнік у Сант’яга — сталіцы Чылі, а 2 гарады гэтай краіны носяць яго імя. Хай жа вам, сябры, захочацца калі-небудзь бліжэй пазнаёміцца з жыццём Ігната Дамейкі, з яго 3 тамамі дзённікаў «Мае падарожжы» (*У. Ліпскі*).

Чаму народы іншай краіны ўшаноўваюць памяць Ігната Дамейкі? Каб вам давялося пісаць дзённік «Мае падарожжы», што вы туды запісалі б?

**6.** На працягу тыдня паназірайце за мовай вядучых беларускага радыё і тэлебачання і занатуйце памылкі ў скланенні лічэбнікаў.

**Вясёлы перапынак**

7. Конкурс-жарт на замяшчэнне пасады вядучых беларускага радыё і тэлебачання. Прачытайце тэкст, замяняючы лікі словамі.

**Крымінальная хроніка**

Грамадзянка Мухіна знайшла кашалёк з 47 060 рублямі. На гэтыя грошы яна набыла самавар коштам 34 320 рублёў, а таксама чай, цукар і кандытарскія вырабы на суму больш за 14 240 рублёў. Да знойдзеных грошай ёй давялося дадаць уласных 1,5 тысячы рублёў. 14 гасцям, якія сабраліся ў Мухінай, было прапанавана шыкоўнае частаванне. На 27 мінуце свята на гаспадыню напаў нехта Павукоў, але госці, захопленыя ежай, не звярнулі на гэта ніякай увагі. Выратаваў Мухіну оперупаўнаважаны Камароў (гэта была яго 65 аперацыя). Не пашкодзіла б Мухінай задумацца, што несумленна набытыя грошы шчасця не прыносяць! (*Паводле В. Служэўскай*).

8. Складзіце храналагічныя табліцы, выкарыстоўваючы звесткі з гістарычнага мінулага нашай краіны.

## *Дзядулю пад шэсцьдзясят ці каля шасцідзесяці?*: абазначэнне прыблізнай колькасці ў беларускім маўленні *Колькі часу? Каторы час?*: гадзіны па-беларуску

1. Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Запішыце тэкст, устаўляючы неабходныя літары і запісваючы лікі словамі. Як у тэксце перадаецца прыблізная колькасць? Як можа перадавацца прыблізная колькасць у беларускай мове?

Васільку трапляліся толькі абабкі. Хлопчык намерыўся ўжо вяртацца назад, аж бачыць: вялізны дуб стаіць. Паглядзеў грыбнік на лясн.. волата, правёў далонню па яго шурпатай кары. «Гадоў пад 300, а мо і пад 500 дубу», — прыкідваў ён. Крыху адступіўся хлопец і ледзь не па..скочыў — ля самых яго ног стаяць адзін пры другім 3 баравікі. Прыглядзеўся, аж яны тут не адны. Некаторыя, нібы ад спалох..,

пахаваліся пад ялінкі, а каля 10—15 смельчак.. проста стаяць на прагалінках, як напаказ (*Паводле А. Галузы*).

**Папрацуем перакладчыкамі**

**2.** Перакладзіце на беларускую мову. Як у беларускай мове перадаецца прыблізная колькасць?

Прочитали около ста книг, минуты три до перерыва, директору под шестьдесят, ей уже за пятьдесят, прошли километров шесть, в библиотеке около десяти экземпляров, в пяти километрах от речки, мешок килограммов шестьдесят, идти два-три километра, девочке около двенадцати лет, шагах в десяти от школы.

**3.** ***Лінгвістычная задача.*** У дзіцячым садку дзеці вучацца вызначаць час па гадзінніку. Васілінка здзіўлена глядзіць на тое, як перамяшчаюцца стрэлкі на зробленым гадзінніку, і адзначае, што яна прачынаецца ў 7 гадзін і прыходзіць дадому ў 7 гадзін. Дапамажыце дзяўчынцы правільна назваць час.

**4.** Ваш стрыечны брат цікавіцца, які ў вас распарадак дня. Адкажыце яму, у колькі гадзін пачынаецца трэці ўрок; а якой гадзіне вы абедаеце ў школе, у які час пачынаецца ваша любімая перадача па тэлебачанні, а якой гадзіне пачынаюцца заняткі гуртка (факультатыву, секцыі), які вы наведваеце. Спытайцеся ў сваіх сяброў, як праходзіць іх дзень.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. На якія разрады паводле значэння падзяляюцца лічэбнікі? Вызначце, якія з запісаных лічэбнікаў зборныя: *васямнаццаць*, *васьмёра*, *трынаццаты*, *тры пятыя*, *двое*, *два*, *пяцёра*.

2. Як падзяляюцца лічэбнікі паводле структуры? Вызначце, якія з прапанаваных лічэбнікаў простыя, якія складаныя, а якія састаўныя: *дваццаць*, *пяць*, *адзінаццаць*, *трыццаць тры*, *дзвесце*, *трыста сорак*, *семсот*.

3. Ці можна вызначыць род у лічэбнікаў *чатыры*, *восем*? Якія лічэбнікі маюць род?

4. Ці змяняецца па ліках лічэбнік *адзін*?

5. Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі: *дзве маркі*, *тры бярозы*, *пяць сталоў*, *чатыры чалавекі*, *восем наклеек*.

6. З якімі групамі назоўнікаў могуць спалучацца зборныя лічэбнікі?

7. Якое значэнне маюць парадкавыя лічэбнікі? Чым яны адрозніваюцца ад лічэбнікаў іншых разрадаў?

8. Запішыце лікі 50, 60, 500, 600, 900 словамі. Патлумачце іх напісанне. З двума лічэбнікамі складзіце сказы.

9. Якую форму маюць лічэбнікі *два*, *тры*, *чатыры* ў творным склоне?

10. Прачытайце арыфметычныя прыклады: $3\frac{1}{2} + 2\frac{3}{4}$; 7,15 – 2,07. Запішыце выразы словамі.

11. Ці можна сказаць *паўтара тоны*, *паўтарастамі рублямі*?

12. Ці правільна ўтворана спалучэнне *трое птушак*, *пяцёра гусей*, *васьмёра дзяўчат*?

**Правяраем сябе**

## I варыянт

1. Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.

Колькі стралялі ў зуброў Белавежы!

Восень, 27 верасня. 1752 год. Кароль Аўгуст III палюе ў Белавежскай пушчы. Разам са сваёй жонкай — вялікай каралеваю. У гэты дзень каралева забіла 22 зубры і прачытала каля 53 старонак сентыментальнага рамана.

1860 год. Таксама верасень. Палюе цар Аляксандр II. З усёй пушчы пад яго стрэлы было сагнана 117 зуброў і 8 зубранят, 100 зайцоў, 3 ласі, 23 дзікі, 36 коз, 14 ланяў, 17 ваўкоў і 5 ваўчанят, 15 ліс, 14 барсукоў. Гэта было не паляванне, а сапраўдная бойня.

Але зубр, нягледзячы на здзек і ганьбаванне, не пакінуў сваю Белавежу (*Паводле Я. Сіпакова*).

**2.** Выпішыце з тэксту лічэбнікі разам з назоўнікамі, паставіўшы іх у творным склоне. Вызначце разрады лічэбнікаў паводле структуры і значэння.

**3.** Выпішыце з тэксту назоўнікі, якія могуць спалучацца са зборнымі лічэбнікамі. Запішыце колькасна-іменныя спалучэнні «*зборны лічэбнік + назоўнік з тэксту*».

**4.** Вызначце, як у тэксце практ. 1 перадаецца прыблізная колькасць. Перакладзіце на беларускую мову.

**Лет сто пятьдесят назад, около двадцати человек, около сорока лет, месяца через три, около шести или восьми зубрят, проскакали около шестидесяти километров, килограммов на тысячу.**

## II варыянт

**1**. Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль.

**У пачатку 2006 года ў Беларусі налічвалася 767 чалавек, якія маюць узрост 100 і болей гадоў. Цікава, што пераважная большасць доўгажыхароў нашай краіны (676 чалавек) — жанчыны.**

**Найбольшая колькасць доўгажыхароў налічвалася ў Гродзенскай і Мінскай абласцях. У Гродзенскай 188, а ў Мінскай 156 чалавек. Менш за ўсё доўгажыхароў у сталіцы — 49 чалавек. Узрост 100 і болей гадоў мелі 116 жыхароў Брэстчыны, 105 — Віцебшчыны, 80 — Гомельшчыны і 71 — Магілёўшчыны. У пачатку 2006 года 21 грамадзянін нашай краіны меў узрост ад 110 да 115 гадоў, а ўзрост яшчэ чатырох чалавек перавышаў 115-гадовую адзнаку (*С. Грыб*).**

**2.** Выпішыце з тэксту лічэбнікі разам з назоўнікамі, паставіўшы іх у творным склоне. Вызначце разрады лічэбнікаў паводле структуры і значэння.

**3.** Выпішыце з тэксту назоўнікі, якія могуць спалучацца са зборнымі лічэбнікамі. Запішыце колькасна-іменныя спалучэнні «*зборны лічэбнік + назоўнік з тэксту*».

**4.** Напішыце пра асаблівасці змянення і спалучэння з назоўнікамі дробавых лічэбнікаў. Перакладзіце на беларускую мову.

**Три целых и пять десятых жителей, две пятых населения, в полутора километрах от Витебска, ноль целых шестьдзесят три сотых метра, прожить вместе полтора года, пять целых две седьмых страны.**

**5.** Ад колькаснага лічэбніка *восемдзесят* утварыце парадкавы. Запішыце яго разам з назоўнікам і праскланяйце. Вызначце канчаткі.

# ЗАЙМЕННІК

## *«Я — акіяну жытняга калоссе...»*: змяненне і ўжыванне асабовых займеннікаў

**1.** Прачытайце верш «Барсучок». Выпішыце займеннікі. Ахарактарызуйце іх паводле значэння. З якімі часцінамі мовы яны суадносяцца. Ці маюць яны род, лік, склон?

**Я ў радок пастаўлю**
**слоўкі —**
**вы,**
**мы,**
**ты,**
**я.**

**Дождж і сонейка.**
**Галоўкі**
**вы-**
**мы-**
**ты-**
**я.**

*Д. Бічэль-Загнетава.*

**2.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Раскажыце, што вы ведаеце пра асабовыя займеннікі. Дайце марфалагічную характарыстыку асабовым займеннікам з тэксту. Праскланяйце займеннікі *я*, *ты*.

**Аднойчы сустрэліся Талент і Імя. Паважна пыхкаючы, Імя кажа:**

**— Прэч з дарогі, хіба ты не бачыш, хто я?**

**— Ну хто ты? — спакойна пытаецца Талент.**

**— Я — Імя! — з гонарам адказвае яно. — Усе мяне ведаюць, усе даюць мне дарогу. А вось хто ты — я штосьці цябе не ведаю.**

—Я, — усміхнуўся Талент, — якраз тое, чаго табе не хапае (*Народны гумар*).

**Стол даведак**

Калі пры напісанні займенніка Вы трэба ўжываць вялікую, а калі малую літару?

Вялікую літару выкарыстоўваюць у займенніку Вы і Ваш пры ветлівым звароце да адной асобы. Вялікая літара пішацца пры звароце да асобы ў афіцыйных паперах, у тэкстах адрасоў, віншаванняў, рэклам.

**3.** Адгадайце загадкі Р. Барадуліна «Ён, яна, яно, яны». Вызначце, якую часціну мовы замяняюць займеннікі. Раскажыце пра адметнасць скланення асабовых займеннікаў.

Вісіць яна,
На ёй вісяць,
Ніхто не прапануе: сядзь.
Для вопраткі пацешылка,
Яна завецца...

На падлозе, не ў лазе
На адной стаіць назе.
І не бусел,
І не звер,
А завецца ён...

А яно і цёмнай ночы
Пазірае зырка ў вочы.
Асвятляе ўсё жытло
Электрычнае...

Па іх ступаеш ты штодня,
Яны —
Густым лугам радня.
Па іх
Ідуць нячутна сны,
Яны завуцца...

### Папрацуем перакладчыкамі

**4.** Перакладзіце на беларускую мову сказы. Правільна ўжывайце формы асабовых займеннікаў.

1. Это был он. Я отчётливо видел его самого и рюкзак у него на плечах. 2. Это была она. Я надеялся только на неё и ждал её больше всех. 3. Это оно, озеро Свитязь! Я рад встрече с ним, я могу любоваться им! 4. Это они! За ними было не успеть, их невозможно было догнать.

### Успомнім

Займеннікі *ён*, *яна* не ўжываюцца ў адносінах да тых, хто ўдзельнічае ў размове.

**5.** Прачытайце тэкст. Якую ролю выконваюць асабовыя займеннікі ў тэксце? Ці адрозніваюцца па сваім значэнні займеннікі, што ўказваюць на 2-ю асобу, і займеннікі, якія ўказваюць на 3-ю асобу? Якую памылку дапусціла Каця?

На перапынку Каця, Максім і Настасся дзеляцца ўражаннямі пасля зімовых канікулаў.

— Ці спадабалася табе паездка ў Белавежскую пушчу? — цікавіцца Каця, звяртаючыся да Максіма.

— А адкуль ты ведаеш, дзе я быў? — здзіўлена пытаецца Максім.

— Ды вось яна сказала.

**6.** Вызначце, чаму нам не зразумелы сэнс сказаў. Што стварае камічны эфект? Перабудуйце сказы так, каб у іх не было двухсэнсоўнасці.

1. Я дастала сшытак з партфеля і паклала яго на стол. 2. Аловак ляжаў на стале, а побач з ім сціркa. 3. Вова сядзеў на кані, грыва яго развявалася на ветры.

### Выпраўляем памылкі

**7.** Прачытайце тэкст. Чаму яго нельга лічыць дасканалым? Замяніце, дзе трэба, назоўнікі асабовымі займеннікамі. Растлумачце напісанне выдзеленых слоў. Зрабіце фанетычны разбор слова *празрыстую*.

Адзін хлопчык натрапіў за вёскай на празрыстую крынічку і пакаштаваў з крынічкі вады. З той пары хлопчык заў-

сёды бег да крынічкі, бо з крынічкай хлопчык ніколі не сумаваў. Нагуляецца хлопчык, ляжа на беражку і пачынае кідаць у ваду *каменьчыкі*.

За кароткі час хлопчык столькі накідаў у крынічку каменьчыкаў, што крынічка не змагла больш трываць крыўды. І... прапала ў зямлі.

*Раззлаваўся* хлопчык і стаў таптаць нагамі тое месца, дзе некалі біў *струменьчык*. А потым пабег шукаць іншую крынічку. Але нідзе не мог напіцца. Зразумеў тады хлопчык, што дарэмна пакрыўдзіў сваю крынічку. Пабег хлопчык і пачаў *расчышчаць* крынічку ад каменьчыкаў.

І крынічка ўзрадавалася. Спачатку з зямлі прабіўся тоненькі струменьчык, а потым крынічка забруіла, заіскрылася, весела заспявала. Крынічка ўсё даравала хлопчыку (*Паводле Р. Дамброўскай*).

**8.** Адкажыце на пытанні: *На якую тэму напісаны тэкст з практ. 7? Якая яго асноўная думка? Які загаловак можна падабраць да гэтага тэксту? Чаму крынічка пакрыўдзілася на хлопчыка? Ці могуць іншыя крынічкі, рэкі і азёры пакрыўдзіцца на людзей? Чаму?* Паразважайце на адну з тэм: *«Крыўда маленькай ракі», «Кніга антырэкордаў», «Пра што маўчыць лес?», «Гэта — твая зямля»* і інш.

## *«Травінка кволая — і тая не ўзрастае дзеля самой сябе...»:* асаблівасці змянення і ўжывання зваротнага займенніка

### Вясёлы перапынак

**1.** Прачытайце, устаўляючы замест кропак займеннік *сябе* ў патрэбнай форме. Адгадайце загадкі. Растлумачце напісанне займенніка.

Востры хвост, нібыта вілы,
Дзіўны выгін маюць крылы.
Прыляціць да нас калі —
Лепіць дом … з зямлі.

У лесе — гаспадар, не госць,
Шмат у яго іголак ёсць.
Але не шыць, не цыраваць,
... ад смерці ратаваць.

*М. Пазнякоў.*

**Творчая лабараторыя**

**2.** Устаўце ў сказы прапушчаны займеннік *сябе. Растлумачце, чаму ён неабходны ў гэтых выказваннях.*

1. Дрэнна паводзіў на ўроку. (Запіс у дзённіку) 2. Як сёння адчуваеце? (Пытанне ўрача) 3. Цяпер дазволю перайсці да наступнага пытання. (З прамовы дакладчыка) 4. Яна нічога не ўяўляе. (З характарыстыкі знаёмай)

**3.** Прачытайце і запомніце скорагаворку. Вызначце, у якой форме ўжыты займеннік *сябе*. Пабудуйце сказы з займеннікам *сябе* ў вінавальным і месным склонах.

**Агурок**

Агурок-абібок
Абадраў сабе бок,
Абадраў сабе бок
Абібок-агурок.

*Л. Іўлева.*

**4.** Пастаўце займеннікі ў неабходную форму. Растлумачце правапіс. Раскажыце пра адметнасць скланення і варыянтныя канчаткі займеннікаў.

1. Ці гэта час належыць (мы), ці гэта мы (ён) належым? (*А. Разанаў*). 2. Ад (сябе) хто можа адвыкнуць, можа й будзе патрэбны (сябе) (*Р. Барадулін*). 3. (Мы) тыя вяртаюцца кветкі, што самі (сябе) узгадавалі (*Е. Лось*). 4. Эх ты, жыццё, жыццё людское! Няма (ты), няма спакою... (*Я. Колас*). 5. Вясна, вясна! Не для (я) ты! Не я (ты) абагрэты... (*Я. Колас*).

## *«Якое карэнне, такое і насенне...»*: змяненне займеннікаў, што суадносяцца з прыметнікамі

**1.** Прачытайце тэкст. Назавіце займеннікі. Да якіх разрадаў яны адносяцца?

Кожны з нас — Я. А калі мы сабраліся ў групу або калектыў, з'яўляецца яшчэ адно важнае слова — Мы. І тады побач з «Я хачу» гучыць «Мы хочам», побач з «Я люблю» — «Мы любім». Пры гэтым ты сам заўважаеш, што, прыходзячы дадому, расказваеш: «Мы сёння пісалі дыктант», «Наш клас у нядзелю пойдзе ў тэатр». Чаму так адбываецца? А таму што для кожнага чалавека вельмі важныя справы, думкі, пачуцці таго калектыву, у які ён уваходзіць. Гэта твая сям'я, твой клас, твае сябры... (*З падручніка «Чалавек і свет»*).

Прадоўжыце рад назваў калектываў, у якія вы ўваходзіце (секцыя, гурток, факультатыў, ансамбль, гурт і інш.). Прывядзіце прыклады займеннікаў, якія паказваюць на прыналежнасць 1 і 2-й асобам у адзіночным і множным ліку. Выкарыстайце іх пры апавяданнІ пра ваш калектыў.

**Стол даведак**

Чаму займеннікі *яго*, *яе*, *іх* сустракаем і сярод асабовых, і сярод прыналежных?

У ролі займенніка, які ўказвае на прыналежнасць 3-й асобе, ужываецца нязменная форма асабовага займенніка: ***яго***, ***яе***, ***іх***: *Генадзь даў яе брату добрую параду. Ён захапляўся яе братам*.

**Граматычнае сіта**

**2.** Запішыце сказы. Вызначце, якія з займеннікаў асабовыя, а якія прыналежныя. Падкрэсліце іх, як члены сказа.

1. Іх, ваўкоў, заўсёды тут многа. 2. Яны не слухалі яго. 3. Я захапляўся яе талентам. 4. Сёння я не сустрэў яе. 5. Папрасі напісаць пра яго здароўе. 6. Гэта была іх добрая знаёмая.

### Выпраўляем памылкі

**3.** Дапамажыце дырэктару пазбавіцца двухсэнсоўнасці выказвання: *Я ўбачыў класнага кіраўніка ў сябе ў кабінеце.* Што мы павінны ведаць, каб дапамагчы дырэктару?

**4.** Прачытайце. Знайдзіце ў сказах займеннікі, якія змяняюцца, як прыметнікі. Запішыце іх, згрупаваўшы ў разрады па значэнні. Вызначце, у якой форме яны ўжываюцца ў сказах. Зрабіце лексічны разбор выдзеленага слова.

**1. *Справядлівасць* — гэта мера, якой трэба адмерваць людзям так, як яны таго заслужылі. 2. Праўда — гэта, брат, тое, у што ты веруеш так, што і іншых прымусіш паверыць. 3. Да кожнай з'явы на свеце трэба падыходзіць са словамі: чаму? і чаго? Бо гэта і ёсць пачатак мудрасці і філасофіі. 4. Ласка і гнеў, ціша і бура! Я вітаю вас, калі вы прыходзіце ў сваім часе. 5. Няма на свеце такое сілы, над каторай не было б большае сілы. 6. Уяўленне аб рэчаіснасці і сама рэчаіснасць — розныя рэчы (*Я. Колас*).**

### Вясёлы перапынак

**5.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ўказальны займеннік. Вызначце яго род, лік, склон. Назавіце прыметнік у форме вышэйшай ступені параўнання. Як ён утварыўся?

**Скардзіцца маме Воўка:**
**— Лепшыя ў Толі алоўкі.**
**— Чаму лепшыя? —**
**Мама здзіўляецца.**
**Мае вунь заўсёды**
**Губляюцца,**
**А тыя, што ў Толі, —**
**Ніколі!**

***І. Шуцько.***

### Успомнім

**Займеннікі *гэты*, *той*, *такі*, *гэтакі* скланяюцца, як прыметнікі. У Р. скл. жаночага роду адзіночнага ліку могуць мець варыянтныя формы: *тая* — *той* (*тае*), *гэта* — *гэтай* (*гэтае*), *такая* — *такой* (*такое*).**

**6.** Прачытайце тэкст. Выпішыце займеннікі, вызначце іх разрад паводле значэння. Раскажыце пра асаблівасці змянення азначальных займеннікаў.

**Мох і дуб**

Спачатку пасяліўся ля камля,
Пасля на дрэва ўзабраўся,
Як да вяршыні самае дабраўся,
Сказаў:
— Цяпер я —
Вышыня.
Магу я дарасці аж да нябёс:
Да самае далёкай зоркі.
Ды Дуб зазначыў горка:
— Шаноўны Мох,
Я для цябе зрабіў усё, што мог,
Але да зорак і нябёс
Пакуль што сам я не дарос.

**7.** Разгледзьце табліцу «Змяненне азначальных займеннікаў *сам* і *самы*». Упішыце формы, якіх не хапае.

| Склон | Адзіночны лік | | | |
|---|---|---|---|---|
| | м. р. і н. р. | ж. р. | м. р. і н. р. | ж. р. |
| Н. | ***сам*** дзед<br>***само*** лісце | ***сама*** дзяўчынка | ***самы*** дарагі<br>***самае*** дарагое | ***самая*** дарагая |
| Р. | ***самога*** | ... | ... | ***самай*** |
| Д. | ... | ***самой*** | ***самаму*** | ... |
| В. | як Н. або Р. скл. | ***саму*** | як Н. або Р. | ***самую*** |
| Т. | ... | ***самой*** (***самою***) | ***самым*** | ... |
| М. | (пры) ***самім*** | (пры) ***самой*** | ... | (пры) ***самай*** |

**8.** Спішыце сказы, устаўляючы замест кропак займеннікі *сам* або *самы*. Вызначце, у якой форме яны ўжыты, і растлумачце іх значэнні.

**1. ... сабой застаецца святло, і шчодрае, і скупое (*Р. Барадулін*). 2. І складаюцца ... дзівосныя казкі, падобныя іншы**

раз да праўды, і нараджаецца праўда, яшчэ больш цікавая часам, чым ... казка (*Я. Колас*). 3. Травінка кволая — і тая не ўзрастае дзеля ... сябе (*Н. Мацяш*). 4. Найцяжэй судзіць сябе ..., чым у другога плямінку знайсці (*С. Грахоўскі*). 5. Толькі ў мамы ... суровы дакор і пяшчотнейшы ... (*Р. Барадулін*). 6. Забіць чалавека — гэта значыць забіць ... сябе (*Я. Колас*).

**9.** Прачытайце выразы. Скажыце, ці можна замест выдзеленага займенніка ўжыць тыя, што ў дужках. З выдзеленымі займеннікамі складзіце сказы.

1. Заходзь да мяне ў **любы** (кожны, усякі) час. 2. Вазьмі **любую** (кожную, усякую) кнігу. 3. На сходзе выступіў **кожны** (любы, усякі) прысутны. 4. **Усякая** (кожная, любая) птушка сваё гняздо бароніць. 5. **Усякія** (кожны, любы) людзі сустракаюцца на тваім шляху.

**10.** Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх значэнні. Спішыце, раскрываючы дужкі. Вызначце граматычныя прыметы займеннікаў.

1. Хто не ляніцца, той справай (свой) ганарыцца. 2. Няма (той) грабель, што ад сябе грабуць. 3. Печаныя галубы не ўляцяць (сам) да губы. 4. Для (усякі) птушкі сваё гняздо міла. 4. Мудры (свой) розуму не паказвае.

**11.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце займеннікі. Вызначце іх разрад паводле значэння. У якой форме ўжыты займеннікі ў тэксце? Зрабіце марфалагічны разбор выдзеленых слоў.

Слова «этыка» грэчаскага паходжання. У беларускай мове яно мае знач..нне ‘звычай’. З даўніх часоў у людзей з’явіліся звычаі: як ставіц..а адзін да аднаго, як паводзіць *сябе* ў грама..стве. Многія з гэтых звычаяў людзі захоўвалі ў пам...ці, перадавалі з пакалення ў пакаленне. Да іх адносяцца *звычаі* вітацца пры сустрэчы, клапаціцца пра дз..цей, старых, хворых.

Звычаі, якія людзі лічылі самымі важнымі, запісваліся ў кнігах. Адна з такіх кашто..ных кніг — Біблія. У ёй, напрыклад, запісана, што ўсе людзі роўныя, што ўсе павінны жыць у згодзе. Нельга крыўдаваць адзін на аднаго, трэба навучыцца даравацць крыўды.

Некаторыя звычаі да..шлі да нас праз тысячагод..і, іншыя ж з'явіліся н..даўна. Аднак усе яны адлюстроўваюць характар светаўспрыман..я, культуру *беларускага* народа (*З падручніка «Чалавек і свет»*).

Якія вы ведаеце беларускія звычаі? Назавіце вітальныя словы і выразы, якімі карыстаюцца беларусы.

## *Каго? Чаго? Якога?*: скланенне пытальных і адносных займеннікаў

**1.** Адгадайце загадкі. Знайдзіце займеннікі і вызначце, да якога разраду яны адносяцца.

Хто пад елкай
Ці ў лазе
Носіць шапку
На назе?

— Цёх-цёх-цёх,
Ціву-ціў... —
Птах мелодыю разліў.
Сакавітая, чыя
Гэта песня?

*М. Пазнякоў.*

**2.** Прачытайце прыказкі і пытальныя сказы. Да якіх разрадаў адносяцца займеннікі? Раскажыце, як яны змяняюцца. Паспрабуйце ўспомніць прыказку з такімі займеннікамі.

1. Што ні край, то звычай. 2. Хто ў лес, хто па дровы. 3. Хто едзе ў лес? 4. Што пасееш, тое і пажнеш. 5. Што ты пасееш? 6. Хто шукае, той знаходзіць. 7. Хто мяне шукае?

**3.** Прачытайце загадкі-жарты. Спішыце, паставіўшы займеннікі ў патрэбную форму. Вызначце іх граматычныя прыметы.

1. Без (што) чалавек не можа жыць? 2. У (які) месцы сярэдзіна зямлі? 3. За (што) вада ў графіне? 4. Без (што) хаты не пабудуеш? 5. З (які) варот Пётр I на вайну выязджаў? 6. На дне (які) ракі плавае лічба? 7. У дупле (які) дрэва хаваецца лён? (*З народнага*).

*Для даведкі*: дзе стаіш; за шклом; клён; Прыпяць; без імені; з адчыненых; без стуку.

**4.** Прачытайце тэкст «З чаго зроблены дзяўчынкі і хлопчыкі?». Чаму ён так называецца? Назавіце займеннікі, вызначце іх разрад, дайце граматычную характарыстыку. Пастаўце пытанні да тэксту. Спішыце першы абзац, растлумачце напісанне арфаграм у выдзеленых словах.

Паводле меркавання *вучоных*, *мозг* дзяўчынак запраграмаваны так, што рэагуе на людзей і іх твары. Мозг хлопчыкаў — на *аб'екты* і іх форму. Таму адна і тая сітуацыя ўспрымаецца дзецьмі па-рознаму. *Дзяўчынкі* могуць доўга разглядаць складаныя *нерухомыя* прадметы. Хлопчыкі ж больш цікавяцца хаатычным рухам аб'ектаў *няправільнай* формы. Ім даспадобы стракатыя аўтамабілі, канструктары, круцёлкі.

Гульні дзяўчынак часцей за ўсё абапіраюцца на блізкі зрок. Дзяўчынкі раскладваюць перад сабой свае багацці — лялькі, пацеркі, мяккія цацкі. Ім дастаткова маленькага кутка. У аснове гульняў хлопчыкаў — далёкі зрок. Яны бегаюць адзін за адным, кідаюць прадметы, страляюць. Хлопчыкі схільныя да асваення новай прасторы, рызыкоўных учынкаў. Яны кемлівыя ў складаных сітуацыях і ўмеюць прымаць нетрадыцыйныя рашэнні.

Веданне асаблівасцей развіцця хлопчыкаў і дзяўчынак дазваляе вырасціць сапраўдных мужчын і жанчын (*Паводле Т. Сцяпанавай*).

Перакажыце тэкст. Паразважайце, хто для вас з'яўляецца ідэалам мужчыны і жанчыны.

## *Ні пры кім ці пры нікім?*: асаблівасці змянення адмоўных і няпэўных займеннікаў

### Вясёлы перапынак

**1.** Прачытайце скорагаворку. Запішыце займеннікі ў пачатковай форме. Вызначце іх разрады. Раскажыце, як утварыліся адмоўныя займеннікі. Праскланяйце займеннікі *ніхто* і *нішто*.

Я ніколі нікому нічога ніякага, а калі што якое, дык што тут такое?

**2.** Знайдзіце ў сказах няпэўныя займеннікі. Вызначце, у якой форме яны ўжыты. Запішыце займеннікі ў пачатковай форме. Ці можна замяніць іх аднакаранёвым словам *нехта*? Ці зменіцца пры гэтым значэнне сказа?

**1. Хтосьці ўсклікне. Змоўкне хтосьці (*А. Разанаў*). 2. Калі ты камусьці хоць трошкі патрэбен, дык хочацца шчодра і радасна жыць (*С. Грахоўскі*). 3. Агеньчыкаў стольні не бачыў ніколі, напэўна, тут хтосьці рассыпаў вуголле (*К. Камейша*).**

Складзіце сказы з займеннікамі *штосьці* і *нешта* ў розных формах.

### Папрацуем перакладчыкамі

**3.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Раскажыце пра асаблівасці змянення няпэўных займеннікаў.

**1. Мне некому рассказать об этом. 2. Нечего переживать о происшедшем. 3. Кто-то постучал в дверь. 4. Без работы нечего и хлеба искать. 5. Маме нечем написать записку. 6. Алине не с кем пойти в театр. 7. Он говорил лишь бы что.**

**4.** Уявіце, што вы вяртаецеся са школы дадому. Націскаеце званок... Вам ніхто не адчыняе дзверы. Шукаеце ключы ў партфелі. А іх... няма. Раптам па лесвіцы падымаецца суседка. Пабудуйце дыялог, выкарыстаўшы словы *ніхто*, *няма чым*, *няма каго*, *няма чаго*, *хтосьці*, *нешта*, *чамусьці* і інш.

### Выпраўляем памылкі

**5.** Прачытайце пачаткі двух сачыненняў на тэму «Мая любімая жывёліна». Якое з сачыненняў пачынаецца правільна і выразна?

**1. Ён вельмі вясёлы. Я яго вельмі люблю. У майго кацяняці белыя лапкі і пыска, а сам ён шэры з палоскамі. Мне падабаецца з ім гуляць. Такога прыгожага кацяняці ні ў кога няма...**

**2. Калі я была маленькая, то вельмі хацела мець сабаку. Ды што сабака! Вось мой брат хацеў каня! А тады ў мяне яшчэ нікога не было: ні брата, ні сястры. Таму мне хацелася мець хоць каго-небудзь.**

**І вось аднойчы мы з мамай былі на рынку, а там прадавалі маленькіх трусянят! Такіх прыгожанькіх ні ў каго не было.**

І мы купілі такое трусяня. І прынеслі яго дадому. І пасадзілі ў вялікую скрынку. І назвалі яго Цімкам... (*Паводле Т. Рык*).

**Спроба пяра**

**6.** Падбярыце загаловак да выбранага вамі тэксту з папярэдняга практыкавання. Напішыце працяг апавядання, выкарыстоўваючы займеннікі розных разрадаў. Адрэдагуйце сачыненне вашага таварыша.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Для чаго выкарыстоўваюцца займеннікі ў тэксце?

2. Чаму асабовыя займеннікі так называюцца?

3. Чаму ўрач, звяртаючыся да хворага, часта пытаецца: «Ну, як мы сябе адчуваем?»

4. У якой форме ўжыты займеннік *сябе* ў словазлучэнні *падзякаваў сабе*? Ці мае ён форму назоўнага склону?

5. Якія займеннікі змяняюцца, як прыметнікі? Прывядзіце прыклады.

6. Чым адрозніваюцца прыналежныя займеннікі *яе*, *яго*, *іх* ад падобных на іх асабовых? У чым адметнасць змянення такіх займеннікаў?

7. Назавіце займеннікі, якія ўказваюць на прадмет. Прывядзіце прыклады прыказак з такімі займеннікамі. Вызначце, у якой форме яны ўжыты ў прыказках.

8. Ці правільна ўжыты формы займеннікаў у наступных словазлучэннях: *прымушаць* ***самаго*** *сябе*, *не дазваляць* ***самаму*** *сабе*?

9. Якую форму будуць мець займеннікі *нехта*, *нешта*, *ніякі* ў месным склоне? Запішыце гэтыя формы займеннікаў. Складзіце з імі сказы.

**Правяраем сябе**

## І варыянт

**1.** Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі. Вызначце тып і стыль тэксту. Падбярыце да яго загаловак.

Аднойчы іду берагам Свіцяз.., цешуся яго краявідамі. А два хлапчукі шпурляюць кам..ні ў нашых даверлівых свіц..зянскіх качак. Спыняю іх:

— Кідайце не злом, а д..бром.

— Як гэта? Ніхто так не робіць, — дзів..цца.

— Не камянямі ц..льцеся ў птушак, а пачастуй..е іх хлебам...

Суціш..ліся. Задумаліся. Кожны сам с..бе.

Адзін з іх усё ж я..чэ раз са злос..ю запусціў камень у возера. Мне падалося, не ў качак кінуў, а ў маё с..рца (*Паводле У. Ліпскага*).

2. Выпішыце займеннікі з тэксту. Вызначце, да якога разраду яны адносяцца. Абазначце іх род, лік і склон (калі магчыма).

3. Праскланяйце займеннік *сам*. Якое значэнне ён мае ў тэксце.

4. Запішыце, раскрываючы дужкі: *не сустрэцца* (*ніхто*), *не пазычыць* (*ніхто*), *з* (*нашы*) *качкамі*, *пачаставаць* (*яны*) *хлебам*, *раззлавацца на* (*сабе*), *падзякаваць* (*я*).

## II варыянт

1. Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі. Вызначце тып і стыль тэксту. Падбярыце да яго загаловак.

Бацька навучаў сыноў, каб яны жылі ў згодз.. . Аднак сыны яго не слухалі. Аднойчы бацька ўзя.. венік і прапанава.. хлопц.. яго пераламаць.

Колькі сыны ні стараліся, пераламаць гэты венік так і не ..маглі. Тады бацька сам ра..вязаў венік і загадаў ламаць па адным прутк.. .

Сыны лёгка пераламалі паасобку ўсе пру..кі. Тады бацька і кажа:

— Таксама і вы: калі будз..це жыць у згодз.., ніхто вас не пер..можа, ніякі недруг, а калі будз..це сварыцца, усякі вас лё..ка адолее (*З народнага*).

2. Выпішыце займеннікі з тэксту. Вызначце, да якога разраду яны адносяцца. Абазначце іх род, лік і склон (калі магчыма).

3. Праскланяйце займеннік *усякі*. Якое значэнне ён мае ў тэксце? Ці можна яго замяніць займеннікамі *любы*, *кожны*?

4. Запішыце, раскрываючы дужкі: *з* (*усе*) *пруткамі*, *думаць пра* (*вы*), *прынесці* (*ён*), *не спрачацца* (*ніхто*), *не заўважыць* (*ніякі*) *перашкод*, *дазволіць* (*свой*) *брату*.

# ДЗЕЯСЛОЎ

## *«У краіне Дзея слова»*: неазначальная форма дзеяслова, зваротныя дзеясловы, пераходныя і непераходныя дзеясловы

**Успомнім**

Неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў) так называецца, бо не паказвае, што дзеянне павінна быць, што яно магчыма, што яно рэальна. Гэтым займаюцца розныя лады дзеяслова. А як неазначальная форма ***не мае ладу***, то ***не мае*** і тых граматычных значэнняў, якія ўласцівы ладу: ***ні асобы***, ***ні роду***, ***ні ліку***. Інфінітыў можа быць пераходным ці непераходным (*пісаць ліст*, *ісці ў школу*), зваротным ці незваротным (*думаць*, *смяяцца*), закончанага ці незакончанага трывання (*вывучыць*, *маляваць*). Неазначальную форму дзеяслова можна пазнаць па суфіксах ***-ць*** (*думаць*), ***-ці*** (*несці*), ***-чы*** (*пячы*).

1. Падкрэсліце пытанні, на якія можа адказваць дзеяслоў у неазначальнай форме. Прывядзіце ўласныя прыклады інфінітыва.

Што рабілі? што рабіць? што зраблю? што рабіў? што зрабіць? што будзе рабіць?

**Творчая лабараторыя**

2. Замяніце фразеалагізмы дзеясловам у неазначальнай форме.

Аддаць жыццё, біць кулаком у грудзі, біць лынды, блытацца пад нагамі, даць лазню, закрануць за жывое, кляваць носам.

3. Прачытайце прыказкі. Знайдзіце ў іх неазначальную форму дзеяслова. Вызначце, якім членам сказа яна з'яўляецца.

1. Дзетак узгадаваць — не грыбкоў назбіраць. 2. Лягчэй за ўсё ўпрасіць галоднага пад'есці. 3. Зімою салаўя спяваць

не прымусіш. 4. Усе ідуць жаць, а ён — у цяньку ляжаць. 5. Аматара пагуляць заўсёды знойдзеш.

**Лінгвістычны каментарый**

**Пераходнымі** называюцца дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што пераходзіць на прадмет, выражаны назоўнікам ці займеннікам у форме вінавальнага склону без прыназоўніка: *араць поле*, *апрацоўваць дэталь*, *правяраць іх*. Пераходнымі лічацца і дзеясловы, што пры сабе маюць назоўнікі ў форме роднага склону. Такія назоўнікі абазначаюць: а) частку прадмета: *выпіць малака*, *назбіраць грыбоў*; б) прадмет, які бярэцца на час: *дай нажа*, *вазьмі сшытка*, *папрашу алоўка*. Пераходнымі будуць і дзеясловы, пры якіх ёсць адмоўе: *не чытаў апавядання*, *не выканаў задання.*

*Увага!* Не блытайце вінавальны склон з назоўным. Спачатку стаўце пытанне да дзейніка (ён у назоўным склоне), потым да выказніка-дзеяслова, а ад дзеяслова — пытанне да дапаўнення, выражанага назоўнікам ці займеннікам.

**4.** Прачытайце лічылку М. Пазнякова. Выпішыце словазлучэнні «пераходны дзеяслоў + назоўнік у В. скл.». Дакажыце, што вы выпісалі словазлучэнне, а не граматычную аснову сказа.

Раз, два, тры, чатыры, пяць!
Выйшлі дзеці працаваць.
Лаўку Глеб пафарбаваў.
Клумбу Ігар ускапаў.
Віця ліпку пасадзіў.
Пеця дом шпакам зрабіў.
Света гусак пакарміла.
Жэня ганачак памыла.
Падмяла дарожкі Оля —
Стала хораша наўкола!

**Папрацуем перакладчыкамі**

**5.** Настаўніца рускай мовы зрабіла некалькі запісаў у дзённіку Юрася. Перакладзіце іх на беларускую мову. Ад імя хлопчыка растлумачце, чаму ў яго не атрымалася выканаць названыя дзеянні. Сфармулюйце правіла пра напісанне *не* з дзеясловамі.

*Узор*: Я не напісаў сачынення, таму што быў на рэпетыцыі.

Не прочитал книги, не выполнил задания, не оформил газеты, не выучил правила.

### Стол даведак

Ці з'яўляюцца зваротнымі дзеясловы *весяліць*, *радаваць*, *вітаць*?

Зваротныя дзеясловы — гэта дзеясловы з постфіксам ***-ся*** (***-ца***, ***-цца***). Якраз ён не дае дзеянню пераходзіць на іншы прадмет. Дзеянне як бы вяртаецца да таго, хто яго ўтварае. Таму такія дзеясловы называюцца зваротнымі, а дзеясловы без постфікса ***-ся*** (***-ца***, ***-цца***) — незваротнымі. Усе зваротныя дзеясловы непераходныя.

**6.** Прачытайце. У якіх раёнах Беларусі знаходзяцца названыя гарады? Знайдзіце ў тэксце зваротныя дзеясловы. Вызначце, ад якіх дзеясловаў яны ўтварыліся. Якое значэнне надае словам постфікс ***–ца***?

У Рэчыцы купаюцца,
У Парычах парацца,
У Крычаве крычаць,
А ў Клічаве чуваць.

*В. Вітка.*

Вызначце, у якіх формах ужыты дзеясловы ў тэксце.

### Вясёлы перапынак

**7.** Прачытайце скорагаворку. Знайдзіце ў тэксце зваротныя дзеясловы. Вызначце постфіксы, пры дапамозе якіх яны ўтварыліся. Выпішыце пераходныя дзеясловы. Назавіце аднакаранёвыя словы, абазначце карані.

Зубраня зубрыла,
Зубр —
Разглядаў на ўзлеску зруб.
Хвалявалася зубрыца:
— Зубрык, можна зазубрыцца!
З лесу ж чуўся
Рык зубрыны:

— Мы зубры,
А не зубрылы.

*М. Сівец.*

**Творчая лабараторыя**

**8.** Замяніце зваротныя дзеясловы незваротнымі. Ці будуць запісаныя дзеясловы пераходнымі? Дакажыце.

*Узор.* Дом будуецца (неперах.) суседам — Сусед будуе (перах.) дом.

Дом будуецца суседам. Кніжка чытаецца вучнем. Задача рашаецца настаўнікам. Града полецца бабуляй. Дарога асфальтуецца рабочымі.

**9.** Што вы ведаеце пра яравыя і азімыя пасевы? Якія злакі адносяцца да азімых? Адгадайце загадку. Вызначце постфіксы ў дзеясловах.

Увосень рассыпаецца,
Улетку збіраецца.

*З народнага.*

**Папрацуем перакладчыкамі**

**10.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Вызначце, у якой форме ўжыты дзеясловы. Назавіце пяць пераходных дзеясловаў.

**Как сканировать картинку**

1. Включить компьютер.

2. Подождать, пока загрузится программное обеспечение.

3. Включить сканер. Щёлкнуть два раза левой мышкой и выбрать программу.

4. Взять картинку и аккуратно положить её на стекло сканера. Осторожно закрыть крышку.

5. Левой кнопкой мышки щёлкнуть по значку «сканировать изображение».

6. Откорректировать изображение картинки. Определить масштаб и нужную область сканирования.

7. Внести необходимые изменения. Выбрать значок «принять».

8. Сканированную картинку легко можно отредактировать и распечатать.

*Для даведкі*: картинка — карцінка, загрузится — загрузіцца, обеспечение — забеспячэнне, щёлкнуть — шчоўкнуць, мышка — мышка, сканировать — сканіраваць, изображение — выява, откорректировать — адкарэкціраваць, определить — вызначыць, область — вобласць, изменения — змены, сканированный — сканіраваны, отредактировать — адрэдагаваць, распечатать — раздрукаваць.

## *«Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломy...»*: адметнасць ужывання і правапісу асабовых і безасабовых дзеясловаў

**Успомнім**

Асабовымі называюцца дзеясловы, якія паказваюць на ўтваральніка дзеяння. Утваральнікам дзеяння можа быць 1-я асоба (*я*, *мы*), 2-я асоба (*ты*, *вы*), 3-я асоба (*ён*, *яна*, *яно*, *яны*). Пры безасабовых дзеясловах не можа быць утваральніка дзеяння, таму яны ўжываюцца ў сказах, дзе няма і не можа быць дзейніка. Да такіх дзеясловаў адносяцца дзеясловы тыпу *світае*, *нездаровіцца*, *вечарэе*, *думаецца*.

**1.** Прачытайце. Дзясловы, што ў дужках, ужывайце ў форме цяперашняга часу. Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся. Падкрэсліце асабовыя дзеясловы. Вызначце, у якой форме яны ўжыты. Паразважайце на тэму, акрэсленую аўтарам.

Я, Ты, Ён, Яна — людзі на планеце Зямля.
Што мы (рабіць)?
(Жыць)!

(Дыхаць) і (плакаць). (Спрачацца) і (радавацца). (Кахаць) і (ненавідзець). (Ваяваць) і (сябраваць). Свой і чужы? Ці правільна, што (дзяліць) людзей на процілеглыя лагеры? Мо адсюль вытокі войнаў, боек, варожасці, здзекаў? (*Паводле У. Ліпскага*).

**2.** Вызначце, што абазначаюць групы безасабовых дзеясловаў.

**1. Вечарэе, халадае, парыць, імжыць.**

**2. Пяршыць (у горле), ванітуе, ломіць (рукі), шанцуе, цягне (сказаць).**

**3. Прыйшлося (ісці), пашчаслівіцца (сустрэцца), давялося (ехаць).**

**4. Цягне (невядома куды), запарушыла (вочы), засыпала (снегам).**

**3.** Адкажыце на пытанні пры дапамозе безасабовага дзеяслова. Складзіце з названымі дзеясловамі сказы. Растлумачце, як вы напішаце *не* з дзеясловамі.

**1. Што гавораць людзі, калі дрэнна сябе адчуваюць?**
**2. Што гавораць людзі, калі ім спадарожнічае ўдача?**
**3. Што гавораць людзі, калі нешта перастае ім падабацца?**
**4. Што гавораць людзі, калі не могуць заснуць?**

### Творчая лабараторыя

**4.** Перабудуйце сказы так, каб у іх не было дзейніка. Запішыце сказы парамі, падкрэсліце граматычныя асновы.

**На дварэ бярэцца мароз. Рыгорка не чытае і не піша. Сёння ён не можа нічога вучыць. Хлопчык не хоча сядзець у хаце, хоць і адчувае сябе не зусім добра. Ён апранае куртку і выбягае на двор.**

**Надыходзіць вечар. Аднак Рыгорка ў ложак яшчэ не хоча. Ён думае пра іншае. Наогул увечары добра марыць пра нешта.**

Як вы думаеце, пра што марыў хлопчык?

### Стол даведак

Ці з’яўляюцца безасабовымі дзеясловы ў наступных прыкладах: *хлеб смачна пахне* і *пахне хлебам*; *сэрца коле — коле ў сэрца*?

У беларускай мове сустракаецца ўжыванне формаў 3-й асобы асабовых дзеясловаў у значэнні безасабовых. У прыкладзе *хлеб смачна пахне* мы можам вызначыць утваральніка дзеяння. Гэта *хлеб*. У такім выпадку дзеяслоў аса-

бовы. У другім прыкладзе *пахне хлебам* асабовы дзеяслоў ужываецца са значэннем безасабовага (у сказе няма ўтваральніка дзеяння).

**5.** Параўнайце прыклады. У якім выпадку асабовыя дзеясловы ўжыты ў значэнні безасабовых? Паспрабуйце апісаць стыхійныя з'явы пры дапамозе безасабовых сказаў.

Дзьме моцны вецер — моцна дзьме, вецер гоніць лісце — ветрам гоніць лісце, снег засыпаў — засыпала снегам.

**6.** Выпішыце ў першы слупок табліцы дзеясловы, якія могуць быць выказнікамі толькі ў двухсастаўных сказах, у другі — дзеясловы, што могуць быць выказнікамі толькі ў безасабовых сказах, у трэці — дзеясловы, якія могуць быць выказнікамі як у двухсастаўных, так і ў безасабовых сказах.

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | | |

Не хочацца, панесла, смяецца, стукнула, замяло, бяжыць, світае, гуляе, разгадвае, засыпала, думаецца, трасе.

З трыма дзеясловамі пабудуйце сказы.

## *Падабацца ці спадабацца*: дзеясловы незакончанага і закончанага трывання, іх утварэнне, ужыванне ў беларускай мове

### Лінгвістычны каментарый

Дзясловы незакончанага трывання ўтвараюцца ад дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў ***-ва***: *даказаць — даказваць*, ***-іва*** (***-ыва***): *адрозніць — адрозніваць*, ***-оўва*** (***-ёўва***): *параўнаць — параўноўваць*, ***-а*** (***-я***): *адчыніць — адчыняць*.

Пры ўтварэнні закончанага трывання найбольш часта ўжываюцца прыстаўкі ***па-***, ***на-***, ***з-*** (***с-***, ***са-***), ***аб-***: *бяліць — пабяліць*, *маляваць — намаляваць*, *жаць — зжаць*.

**1.** Пры дапамозе націску ўтварыце трывальныя пары. З прапанаванымі словамі складзіце сказы.

Выклікаць — выклікаць, рассыпаць — рассыпаць.

**2.** Да дзеясловаў незакончанага трывання падбярыце дзеясловы закончанага трывання, каб утварыліся трывальныя пары. Выкарыстайце словы з іншымі асновамі.

**Браць — ..., гаварыць — ..., знаходзіць — ..., прыходзіць — ..., станавіцца — ...**

*Для даведкі*: **сказаць, стаць, узяць, прыйсці, знайсці.**

### Вясёлы перапынак

**3.** Прачытайце. Адгадайце загадку М. Пазнякова. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Вызначце іх трыванне і час. Пры дапамозе якіх сродкаў утварыліся дзеясловы закончанага трывання? Ці могуць дзеясловы закончанага трывання ўжывацца ў форме цяперашняга часу?

**Не спіць удзень,**
**Працуе ўночы.**
**То свішча моцна,**
**То шапоча.**
**Адчыніць фортку,**
**Хмары згоніць,**
**Улетку**
**Водарам спалоніць.**

### Творчая лабараторыя

**4.** Прачытайце прыказкі. Ад слоў у дужках утварыце дзеясловы закончанага трывання. Растлумачце значэнні прыказак.

**1. Хто хоча рыбкі, таму трэба з вудай (сядзець). 2. Лягчэй з'есці яблык, чым (расціць) яблыню. 3. Ворагаў нажыць — не кажух (шыць).**

**5.** Прачытайце верш В. Жуковіча «Замарылася». Чаму замарылася дзяўчынка? Знайдзіце дзеясловы. Вызначце трыванне. Захоўваючы трыванне дзеясловаў, утварыце і запішыце іх неазначальную форму. Знайдзіце ў тэксце словы-амонімы.

**Вам прызнаюся, люблю,**
**Каб мяне хвалілі.**
**Нешта важнае раблю**
**Кожную хвіліну.**

Як вазоны палівала,
Я вады не шкадавала.
Так старанна паліла,
Што і падлогу заліла.
І не шкадавала мыла,
Як хусціначку я мыла, —
Цэлы змыліла кусок,
Перайшла на парашок.
На пліце абед варыла,
Не зварыла, а спаліла.
Вінаваты тэлефон —
Да сябе паклікаў ён.
Як зарадку я рабіла,
Лямпу скінула, разбіла,
З братам пасварылася —
Дужа замарылася.

**6.** Падкрэсліце правільны варыянт. З двума словазлучэннямі складзіце сказы.

Сумаваць аб Радзіме — сумаваць па Радзіме, адыгрываць значэнне — мець значэнне, пайсці па журавіны — пайсці за журавінамі, жартаваць з яго — жартаваць над ім, хварэць на ангіну — хварэць ангінай.

## *Здзекавацца, здзеківацца ці здзеквацца*: загадка дзеяслоўных суфіксаў *-ава-* (*-ява-*), *-ыва-* (*-іва-*), *-ва-*, *-оўва-* (*-ёўва-*)

**1.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйцеся да паведамлення пра напісанне суфіксаў дзеясловаў незакончанага трывання.

**Напісанне суфіксаў дзеясловаў незакончанага трывання**

| 1-я ас., адз. л., цяп. ч. *-ую* (*-юю*) | Інфінітыў і прошлы час *-ава-* (*-ява-*) |
|---|---|
| *даследую*<br>*камандую* | *даследаваць*, *даследаваў*<br>*камандаваць*, *камандаваў* |

| **1-я ас., адз. л., цяп. ч.**<br>***-ваю***<br>**перад -ва- спалучэнне зычных з апошнім Л, Н, Р** | **Інфінітыў і прошлы час**<br>***-іва-* (*-ыва-*)** |
|---|---|
| *адыгрываю*<br>*падтрымліваю* | *адыгрываць, адыгрываў*<br>*падтрымліваць, падтрымліваў* |
| **1-я ас., адз. л., цяп. ч.**<br>***-ваю***<br>**перад -ва- няма спалучэння зычных з апошнім Л, Н, Р** | **Інфінітыў і прошлы час**<br>***-ва-*** |
| *паказваю*<br>*выменьваю* | *паказваць, паказваў*<br>*перачытваць, перачытваў* |

## Выпраўляем памылкі

**2.** Знайдзіце памылкі ў напісанні слоў. Запішыце правільны варыянт. З двума словазлучэннямі складзіце сказы.

Праветрываць пакой, захворываць на грып, здзекавацца з сястры, камандваць атрадам, пашчыпываць траву, забруджаваць раку, прапаведываць рэлігію.

## Папрацуем перакладчыкамі

**3.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Вызначце суфіксы дзеясловаў. Растлумачце іх напісанне.

Леонардо да Винчи был не только художником, но и учёным. Свои мысли он записывал на кусочках бумаги и иллюстрировал маленькими рисунками. Потом он складывал листок пополам и писал и рисовал на другой стороне. Когда места на листке больше не было, он вкладывал в него второй, третий, четвёртый. В те времена церковь притесняла передовую научную мысль. Если бы кто-нибудь из служителей церкви поинтересовался, о чём художник пишет, это могло бы для него плохо кончиться. Поэтому Леонардо да Винчи зашифровал свои записи. Он писал их задом наперёд, чтобы трудно было прочитать (*По Г. Граник*).

*Для даведкі*: кусочек — кавалачак, иллюстрировать — ілюстраваць, листок — аркушык, в те времена — у той час,

**притеснять — уціскаць, прыгнятаць, научная мысль — навуковая думка, служители церкви — царкоўныя служкі, поинтересоваться — пацікавіцца, задам наперёд — задам наперад.**

### Творчая лабараторыя

**4.** Замяніце словазлучэнні дзеясловамі з суфіксамі *-ава-* (*-ява-*), *-ва-*, *-іва-* (*-ыва-*). Растлумачце напісанне суфіксаў. Паразважайце, у якіх выпадках трэба праяўляць настойлівасць.

***Узор.*** **Праводзіць апытанне — апытваць.**

**Праводзіць даследаванне, весці расследаванне, праяўляць настойлівасць, аддаваць загад, рабіць рамонт, ажыццяўляць кантроль.**

**5.** Замяніце назоўнікі дзеясловамі. З трыма словамі складзіце словазлучэнні. Растлумачце напісанне суфіксаў дзеясловаў.

**Апладысменты, расход, упакоўка, замалёўка, загадка, даклад.**

**6.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне з тэксту. Прыдумайце канцоўку апавядання. Падбярыце да яго загаловак. Запішыце тэкст. Абазначце суфіксы дзеясловаў.

**Галодны бядняк сядзеў на парозе харчэўні і прагна нюхаў пах ежы. Ён не мог дазволіць сабе купіць нават самы сціплы абед. Але гаспадар харчэўні стаў патрабаваць, каб чалавек заплаціў за пах ежы. Бядняк сцвярджаў, што нічога не заказваў, але гаспадар настойваў на сваім. Тады яны пайшлі да мудрага суддзі, каб той параіў, як вырашыць іх спрэчку... (*З народнага*).**

Як вы думаеце, што зрабіў суддзя?

Спачатку дайце свой адказ, а потым зверце яго з прапанаваным (Адказ: *Суддзя ўзяў у бедняка яго грошы і пазвінеў імі над вухам у гаспадара. «Вось вы і разлічыліся, — сказаў суддзя. — Ён удыхаў пах тваёй ежы, а ты чуў звон яго грошай». З гэтымі словамі ён аддаў бедняку яго грошы.*)

## *Быў, ёсць, буду*: цяперашні, прошлы, будучы часы дзеяслова

### Лінгвістычны каментарый

Дзеяслоў мае тры лады: абвесны, умоўны, загадны. Абвесны лад абазначае рэальнае дзеянне. Ён быццам абвяшчае, што можа абазначаць дзеянне, якое адбываецца цяпер (*я іду*), адбылося раней (*я ішла*) ці адбудзецца пасля (*я пайду*). Таму толькі дзеясловы абвеснага ладу змяняюцца па часах. Дзеясловы ўмоўнага і загаднага ладу абазначаюць дзеянне нерэальнае. Яно падаецца як пажаданае (*ідзіце*, *няхай напішуць*) або як магчымае пры пэўнай умове (*заехаў бы*, *пачытала б*). Такія дзеясловы не маюць формаў часу.

## *Змяненне дзеясловаў прошлага часу*

### Успомнім

Як называецца час, які абазначае:
а) дзеянне ў момант гутаркі — ...
б) дзеянне да моманту гутаркі — ...
в) дзеянне пасля моманту гутаркі — ...

### Граматычнае сіта

**1.** Прачытайце тэкст. Як вы назвалі б дзіўны востраў? Што вы яшчэ хацелі б убачыць на ім? Выпішыце асобна дзеясловы цяперашняга, будучага і прошлага часу. Раскажыце пра асаблівасці іх значэнняў. У якой форме ўжыты выдзелены ў тэксце дзеяслоў?

Ёсць востраў на свеце,
там *жыць* — адна радасць:
на востраве горы
усе з мармеладу!
Не знойдзеш на востраве
гліны і торфу,
затое палі ўсе
з цудоўнага торту.
Там рэкі сіропу

свабодна цякуць,
цукеркі і вафлі
на дрэвах растуць...
Ці ж я тых ласункаў
хаця паспытаў?
Ды не — пра ўсё гэта
Я ў казцы чытаў.

*В. Жуковіч.*

Растлумачце напісанне канчаткаў падкрэсленых назоўнікаў.

**2.** Прачытайце скорагаворкі М. Пазнякова. Знайдзіце дзеясловы. Вызначце час, род і лік. Як утвараецца форма прошлага часу? Ці можна вызначыць род дзеясловаў прошлага часу?

Рэк закрыўшы берагі,
Красавік заліў лугі.

Бандэроль брат Браніслаў
Барысу з Браслава прыслаў.

Гравёр на алоўку
Выгравіраваў
Гравіроўку.

Дзе знаходзіцца горад Браслаў? Чым знакаміты гэты куточак Беларусі?

**3.** Дзеясловы, што стаяць у дужках, пастаўце ў форме прошлага часу. Растлумачце, як яны ўтварыліся. Назавіце нескланяльныя назоўнікі. Запішыце словазлучэнні.

| | | | |
|---|---|---|---|
| манпансье (рассыпацца) | | суш (запанаваць) | |
| шынель (парвацца) | | таполя (закалыхацца) | |
| палын (засыхаць) | | зайчаня (схавацца) | |
| жалюзі (апусціцца) | | | |

**4.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Спішыце, замяняючы дзеясловы ў дужках формай прошлага часу. Дайце граматычную характарыстыку запісаным дзеясловам. Растлумачце правапіс суфіксаў і канчаткаў.

**Калі я (вучыцца) у чацвёртым класе, на Восьмага сакавіка мама (вырашыць) для маёй настаўніцы Ніны Кірылаўны зрабіць незвычайны падарунак. Мы цэлы вечар (пячы) з пясочнага цеста... салодкія літары. А на наступны дзень (раскласці) ватман, (дастаць) літары-пячэнне і (вылажыць) віншаванне: «Дарагая Ніна Кірылаўна...» Настаўніца (узрадавацца) такому падарунку. Яна (прачытаць) віншаванне і (раздаць) усім дзецям па літары. Мы іх радасна (з'есці). Я надоўга (запомніць) гэты смак (*Паводле Т. Рык*).**

**5.** Напішыце невялікае сачыненне «Як я... (аднойчы нешта зрабіў)». Напрыклад, «Як я першы раз змайстраваў самалёт», «Як я сшыла сукенку для лялькі», «Як я адрамантаваў веласіпед», «Як я перасаджвала кветкі» і інш.

## *Змяненне дзеясловаў цяперашняга і будучага часу. Першае і другое спражэнне дзеяслова*

### Вясёлы перапынак

**1.** Прачытайце тэкст. Адкажыце, што на самай справе гарыць. Раскажыце пра значэнні дзеяслова *гарэць*. Вызначце час дзеясловаў у тэксце. Якія значэнні маюць дзеясловы цяперашняга і будучага часу?

**Што гарыць?**

— Ну і Віця! —
Дзед бурчыць.—
Бач, на ім
Усё гарыць...
Я гляджу
І ледзь не плачу,
Ды ніяк
Агню не ўбачу.
Віця ж — брат

Старэйшы мой —
Абалью яго вадой.

*М. Пазнякоў.*

**2.** Прачытайце скорагаворку. Вызначце, у якой форме ўжыты дзеясловы. Ці можна такія дзеясловы знайсці ў слоўніку? Паспрабуйце запісаць гэтыя дзеясловы ў форме цяперашняга і будучага часу.

Я чалавек верцікуляпісты,
Магу выверцікульцяпнуцца,
Перавыверцікульцяпнуцца.

*З народнага.*

**Успомнім**

**3.** Дапішыце ў правіла прапушчаныя словы.

Спражэннем называецца змяненне дзеясловаў па ___________ і __________.

**4.** Прачытайце тэкст. Назавіце дзеясловы, якія кароль -Ыць прыняў у сваё каралеўства. Чаму кароль дазволіў гэтым дзеясловам жыць у яго дзяржаве?

Жылі-былі кароль -Ыць і каралева -Іць у каралеўстве Другога спражэння. Моцная і прыгожая была ў іх дзяржава. Жылі там у згодзе дзеясловы на ***-ыць*** і ***-іць***. Спрагаліся яны па правілах, якія прапанавалі кароль з каралеваю. Дачуўся неяк строгі кароль, што аднаскладовыя дзеясловы на ***-ыць*** і ***-іць*** (*мыць*, *шыць*, *піць* і іншыя), а таксама іх дзеці (вытворныя ад гэтых дзеясловаў: *вымыць*, *пашыць*, *запіць* і іншыя) не хочуць змяняцца па ўстаноўленых у дзяржаве правілах, і прагнаў іх з каралеўства. Гэтыя дзеясловы змяняліся, як дзеясловы першага спражэння, таму жыхары дзяржавы Першага спражэння з ахвотаю прынялі іх у сваю сям'ю.

Аднойчы дачуўся кароль, што каля варот яго каралеўства стаяць восем дзеясловаў на ***-аць***, ***-яць***, ***-эць***, ***-ець*** і просяць прыняць іх у каралеўства Другога спражэння. Паразмаўляўшы з гэтымі дзеясловамі, кароль -Ыць дазволіў ім жыць у сваёй дзяржаве (*Паводле А. Рабцавай*).

Перакажыце тэкст, пашырыўшы яго васьмю дзеясловамі другога спражэння.

**5.** Прачытайце. Адгадайце загадкі У. Паўлава. У тэкстах загадак знайдзіце дзеясловы. Вызначце, да якога спражэння яны адносяцца, якімі членамі сказа з'яўляюцца. Абазначце канчаткі дзеясловаў.

Зловяць хітрыкі тваё
І арла, і вераб'я,
А яго калі прамовіш,
То ніяк нічым не зловіш.

Выглядае самавіта,
І чагосьці ў ім наліта.
Як адчыніш, вось задача:
Сам халодны — чай гарачы.

Пазбывае ўсе пралікі,
Калі вырасце вялікі, —
Хто так лёгка абяцае?
Той, хто хутка забывае.

Пра каго ў народзе кажуць:
Белая, нібыта сажа?
Зойдзеш з ёй і ў гай, і ў сад,
Ды не вернешся назад.

*Для даведкі*: хлусня, пустаслоў, слова, тэрмас.

**6.** Прачытайце верш Д. Бічэль «Акно». Замест слоў у дужках ужывайце дзеясловы цяперашняга часу. Растлумачце напісанне канчаткаў. Чаму акно на працягу дня змянялася? Якія часткі сутак адлюстравала пісьменніца. Колькі малюнкаў вы намалявалі б паводле гэтага верша? Якія значэнні маюць словы-амонімы *шыбка* і *шыбка*? Да якіх часцін мовы адносяцца?

— Ой, блакітнае акно!
— Неба яснае відно.
— А чаму яно (шарэць)?
— Гэта вечар (вечарэць).
— А чаму счарнела шыбка?
— Ноч насоўваецца шыбка.

— Як агонь, гарыць фіранка!
— То світальная заранка.
— Залатое стала шкло!
— Зноўку сонейка ўзышло.

**Лінгвістычны каментарый**

Для дзеясловаў I і II спражэння характэрны свае канчаткі. Найбольшыя цяжкасці ў напісанні выклікаюць канчаткі дзеясловаў I спражэння. Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйцеся да паведамлення «Правапіс канчаткаў дзеясловаў I спражэння».

**Канчаткі дзеясловаў I спражэння**

| 2-я ас., адз. л. | 1-я ас., мн. л. | 2-я ас., мн. л. |
|---|---|---|
| Аснова на зацвярдзелы | | |
| ***-э́ш-*** | ***-о́м-*** | ***-аце́-*** |
| *таўч**э́ш***<br>*пяч**э́ш***<br>*ар**э́ш*** | *таўч**о́м***<br>*пяч**о́м***<br>*ар**о́м*** | *таўч**аце́***<br>*печ**аце́***<br>*ар**аце́*** |
| ***-аш-*** | ***-ам-*** | ***-аце-*** |
| *ка́ж**аш*** | *ка́ж**ам*** | *ка́ж**аце*** |
| Аснова на мяккі зычны | | |
| ***-е́ш-*** | ***-ём*** | ***-яце́*** |
| *цвіц**е́ш***<br>*ку**е́ш** [куйэш]* | *цвіц**ём***<br>*ку**ём** [куйом]* | *цвіц**яце́***<br>*ку**яце́** [куйаце]* |
| ***-еш-*** | ***-ем-*** | ***-еце-*** |
| *малю́**еш***<br>*чака́**еш*** | *малю́**ем***<br>*чака́**ем*** | *малю́**еце***<br>*чака́**еце*** |

**7.** Запішыце словы ў форме 2-й асобы адзіночнага ліку, 1-й асобы множнага ліку і 2-й асобы множнага ліку. З двума словамі складзіце словазлучэнні.

Запрашаць, згатаваць, малоць, падкаваць, запець, прынесці.

**8.** Прачытайце смяшынку, устаўляючы неабходныя формы дзеяслова *жыць*. Чаго не зразумела дзяўчынка? Якая сінтаксічная канструкцыя, адпаведная рускай «жить на улице», выкарыстоўваецца ў беларускай мове? Запішыце формы дзеяслова *жыць*, якіх не хапае ў тэксце. Растлумачце правапіс канчаткаў.

**— На якой ты вуліцы (2-я ас., адз. л.) ? —**
**Стась спытаў у Веры.**
**— Ці ж на вуліцы (3-я ас., мн. л.)?**
**Я (1-я ас., адз. л.) у кватэры.**

**9.** Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх значэнне? Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў. Растлумачце напісанне канчаткаў.

**1. Крывою сцежкаю наўпрасткі не пройдз.. . 2. За добрае слова грошай не да.. . 3. Праўда люб.. свет, а крыўда — пацёмкі. 4. Прапусц.. дзень — адстан.. на два. 5. Сказанае слова назад у рот не верн.. . 6. Рана ад нажа заго..цца , а ад злога слова — ніколі.**

## Выпраўляем памылкі

**10.** Прачытайце скорагаворку. Знайдзіце памылку. Запішыце правільную форму дзеяслова.

**Сусед суседа спытаў:**
**— Колькі стое стог сена.**
**Сусед суседу сказаў:**
**— Стог сена стое сто рублёў.**

**11.** Прачытайце тэкст. Спішыце. Словы, што ў дужках, пастаўце ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу. Якое значэнне мае гэта форма дзеяслова ў тэксце?

### Правілы ўжывання садавіны

**Садавіну (есці) з дапамогай спецыяльнага ножыка і відэльца. Яблык, грушу (разразаць) на талерцы на чатыры ці восем частачак. Затым (выдзяляць) асяродак, (чысціць) кавалачкі ад скуркі і (браць) рукамі альбо відэльцам.**

**Слівы (разломваць) пальцамі і (вымаць) костачку. Вішні і чарэшні (класці) на сваю талерку, (трымаць) за пладаножку, костачкі непрыкметна (вымаць) з рота на чайную лыжачку і (класці) на сподачак (*З «Бярозкі»*).**

**12.** Спішыце прыказкі, выбіраючы неабходную літару. Растлумачце напісанне канчаткаў.

1. Усё на зямлі праходз(е, і)ць, але застаюцца ўспаміны. 2. Глухому чу(е, я)цца, а сляпому здаецца. 3. Хто дробязямі не цікав(е, і)цца, той вялікага не разуме(е, я). 4. Хто многа веда(е, я), той мала гавор(а, ы)ць. 5. Пажаданнямі хаты не пастав(е, і)ш. 6. Разумны ссяч(е, э) адно дрэва, а пасадз(е, і)ць два. 7. Не хавайся ад праўды, бо не схава(е, і, я)шся.

**Вясёлы перапынак**

**13.** Прачытайце лічылку. Назавіце дзеясловы будучага часу. Вызначце асобу і лік.

Яблык нёс
Дахаты вожык
І знайшоў на сцежцы ножык.
Ён хутчэй падняў знаходку:
— Папрацую ў ахвотку,
Ім нарэжу крышанёў
Цэлых восем кашалёў.
На зіму іх насушу,
Вас у госці запрашу —
Навару кампоту кадзь.
Дзе жыву —
Табе шукаць!

*М. Чарняўскі.*

*Для даведкі*: крышан — адрэзаны плоскі кусок чаго-небудзь ядомага (у тэксце яблыка).

Растлумачце значэнні слоў *кашэль* і *кадзь*. Прывядзіце прыклады назваў посуду і хатняга ўжытку. Для чаго яны выкарыстоўваюцца?

**14.** Прачытайце тэкст, ужываючы замест слоў у дужках простую форму дзеясловаў будучага часу. Вызначце тып і стыль тэксту. Падбярыце да яго загаловак. Спішыце. Якія яшчэ прыродныя гадзіннікі вы ведаеце?

Самы маляўнічы гадзіннік — кветкавы. Справа ў тым, што кожная кветка толькі ў пэўны час расхінае свае пялёсткі.

Жоўты казлабарод (разгарнуць) свае кветкі ў тры гадзіны раніцы. За ім (прачынацца) блакітная цыкорыя, (запунсавець) мак, (зажаўцець) дзьмухаўцы. У шэсць гадзін (парадаваць) вока льняное поле, (закалыхацца) кветкі бульбоўніку, (загарацца) палявыя гваздзікі. У восем гадзін (раскрывацца) жоўты гарлачык.

Пасля паўдня кветкі (пачынаць) засынаць. Першым (згарнуцца) ранні казлабарод, за ім — дзьмухавец, кветкі льну. Але да самага захаду (быць) цешыць вока кветкі шыпшыны (*Паводле А. Жука*).

## *Я бягу, ты бяжыш, ён бяжыць,* ці Змяненне рознаспрагальных дзеясловаў

**Успомнім**

**1.** Дапоўніце выказванне неабходнымі дзеясловамі.

Да рознаспрагальных адносяцца дзеясловы ____________ і вытворныя ад іх.

**Вясёлы перапынак**

**2.** Прачытайце смяшынку У. Мацвеева «Спражэнне дзеяслова». Назавіце рознаспрагальны дзеяслоў. Якіх формаў гэтага дзеяслова не хапае ў тэксце? Запішыце іх. Растлумачце, чаму дзеяслоў называецца рознаспрагальным.

Алена вельмі павольна, ледзь прамаўляючы словы, спрагае дзеяслоў *ісці*:

— Я іду, ты ідзеш, ён ідзе...

— Хутчэй! — робіць заўвагу настаўніца.

— Я бягу, ты бяжыш, ён бяжыць...

**3.** Дапішыце прапушчаныя формы дзеясловаў. З двума запісанымі дзеясловамі складзіце сказы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1-я ас. | ем | да-м | 1-я ас. | ядз-ім | ... |
| 2-я ас. | ясі | ... | 2-я ас. | ... | да-сце |
| 3-я ас. | ... | дасць | 3-я ас. | яд-уць | ... |

**4.** Прачытайце сказы. Назавіце рознаспрагальныя дзеясловы. Праспрагайце іх.

**Трэба забегчы ў сталовую. Хуценька паесці, каб потым здаць кніжку ў бібліятэку.**

Ад дзеясловаў *бегчы*, *есці*, *даць* утварыце аднакаранёвыя. Выкарыстайце іх ва ўласным апавяданні.

## *Гавары са мной па-беларуску*: абвесны, умоўны і загадны лады дзеяслова

### Успомнім

**1.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне пра граматычныя характарыстыкі кожнага з трох ладоў.

**Лады дзеяслова**

| Абвесны | Умоўны | Загадны |
|---|---|---|
| асоба<br>час<br>лік<br>род | —<br>—<br>лік<br>род | асоба<br>—<br>лік<br>— |

### Граматычнае сіта

**2.** Прачытайце урывак з верша М. Дуксы «Ранішняя малітва». Выпішыце асобна дзеясловы абвеснага і загаднага ладу.

О дзень вясёлы, шматгалосы,
Ідзеш ты шпаркаю хадой.
Пашлі мне ясныя нябёсы
І рэчку з цёплаю вадой.
Пашлі мне, нібы дзень, удачу,
Шчаслівым быць — зусім не грэх.
І не даводзь мяне да плачу,
І прынясі сягоння смех...
Хай будзе ў нас навокал згода,
Усцешыцца мая радня,
Хай будзе між людзьмі лагода
І запануе дабрыня.

I цэлы свет са мной таксама
Хай дзень шчасліва пражыве...
Хачу, каб на змярканні мама
Пагладзіла па галаве.

**Лінгвістычны каментарый**

Дзеясловы ўмоўнага ладу абазначаюць дзеянне, якое магло б адбыцца пры пэўнай умове. Формы ўмоўнага ладу ўтвараюцца ад асновы інфінітыва пры дапамозе суфіксаў ***-ў-***, ***-л-*** шляхам дабаўлення часціцы ***бы*** (***б***) (*прыйшоў бы*, *прыйшла б*, *прыйшло б*, *прыйшлі б*).

**3.** Прачытайце. Ад інфінітыва ўтварыце формы ўмоўнага ладу. Выкарыстайце іх ва ўласных сказах.

Залежаць, апынуцца, пранізаць, адчуць, заўважыць.

**Спроба пяра**

**4.** Уявіце, што вы закончылі школу чараўніцтва і атрымалі пасведчанне сапраўднага чараўніка. Паразважайце на тэму «Калі б я быў чараўніком...».

**Вясёлы перапынак**

**5.** Прачытайце тэкст «Бяскрылыя каровы». Чаму хлопчык не зразумеў бабулі? Вызначце, у якой форме ўжыты дзеясловы. Ці можна вызначыць час у дзеяслова *дапамажы*? А асобу, лік? Да якога ладу адносіцца гэты дзеяслоў?

Статак вяртаецца з поля. Бабуля Уладзя просіць Мікітку:

— Дапамажы, унучак, пераняць кароў, каб у жыта не паляцелі.

Глянуў Мікітка здзіўлена:

— Бабуля, а як жа яны паляцяць? У іх жа крылаў няма! (*М. Чарняўскі*).

**Успомнім**

У дзеясловаў загаднага ладу можна вызначыць асобу і лік. Яны не змяняюцца па родах і часах. Найбольш ужы-

**вальныя формы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу.**

**6.** Разгледзьце табліцу. Утварыце формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку. Як утвараюцца формы множнага ліку?

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| 2-я | -*і*-, -*ы*-, □<br>пахвал-(яць) — ...<br>рай-(аць) — ...<br>смяй-(уц)-ца — ...<br>піш-(уць) — ... | -*це*<br>пахвалі — ...<br>рай — ...<br>смейся — ...<br>пішы — ... |

**7.** Прачытайце. Ад слоў у дужках утварыце дзеясловы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку. Парайце што-небудзь сваім малодшым сябрам, выкарыстоўваючы дзеясловы 2-й асобы загаднага ладу.

**(Глядзяць) на гарызонт! (Радуюцца), калі бачыце сілуэт лесу, гаю, адзінокага дрэва. Калі малюнак аднастайны, (пастараюцца) змяніць яго — пасадзіць ліпку, клёнік, бярозку. (Даглядаюць) свае пасадкі. (Павесяць) шыльдачку, каб прахожыя бачылі ваш клопат пра дарагія вам мясціны (*Паводле В. Дранчука*).**

### Выпраўляем памылкі

**8.** Прачытайце. Знайдзіце памылку і растлумачце, чаму памылілася дзяўчынка. Як утвараюцца формы прошлага часу дзеясловаў абвеснага ладу і формы дзеясловаў загаднага ладу?

**— Маша, вазьмі цукерку.**
**— Я ўжо вазьміла (*В. Вітка*).**

**9.** Прачытайце верш Г. Каржанеўскай «Два арэхі». Назавіце дзеясловы. Дайце ім граматычную характарыстыку. Ці могуць дзеясловы прошлага часу абвеснага ладу мець асобу? Значэнне якога ладу мае дзеяслоў *ляцім*? Зрабіце марфалагічны разбор выдзеленага слова.

Два арэхі-спарышы
*Дамаўляліся* ў цішы:
— Я пад ліст,
І ты пад ліст —
Едзе веласіпедыст.

Пахаваліся браты
Пад зялёныя лісты.
Хто ні ехаў,
Ні ішоў,
Іх папраўдзе не знайшоў.

А як стаўся дзень малым,
Разам крыкнулі:
— Ляцім!

**Стол даведак**

Часам наша настаўніца выкарыстоўвае такія формы, як *хадземце*, *чытайма*. Ці з'яўляюцца яны формамі загаднага ладу і што яны абазначаюць?

Акрамя вядомых вам формаў, існуюць і формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку, якія маюць значэнне сумеснага дзеяння: *бярыма*, *нясём* і інш.

**10.** Звярніце ўвагу на табліцу. Паназірайце, як утвараюцца формы загаднага ладу. Падрыхтуйце паведамленне пра ўтварэнне формаў загаднага ладу 3-й асобы.

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| 3-я | *няхай (хай) + 3-я ас., адз. л., цяп. або буд. ч.* няхай (хай) слухае, выслухае | *няхай (хай) + 3-я ас., мн. л., цяп. або буд. ч.* няхай (хай) слухаюць, выслухаюць |

**11.** Ад прапанаваных дзеясловаў утварыце формы загаднага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку. Выкарыстайце гэтыя формы ў публіцыстычным тэксце «Мае пажаданні роднай краіне».

Жыць, квітнець, радавацца, смяяцца, развівацца.

**12.** Прачытайце смяшынку. Знайдзіце дзеяслоў загаднага ладу. Утварыце ад яго форму дзеяслова 2-й асобы множнага ліку. Ад выдзеленага дзеяслова ўтварыце форму загаднага ладу 3-й асобы. З утворанымі формамі пабудуйце сказы.

Маці *корміць* Косціка з лыжачкі.
— З'еш за маму.

Косцік з'еў.

— З'еш яшчэ за маму.

— Не буду! У мяне адна мама (*А. Хітрун*).

**Творчая лабараторыя**

**13.** Уявіце, што вы хочаце, каб вам купілі рэч, якую вы даўно марылі набыць (*веласіпед*, *камп'ютарную гульню*, *дэкаратыўную жывёліну* і інш.). Папрасіце аб гэтым бацькоў, выкарыстоўваючы як мага больш дзеясловаў загаднага ладу. Не забывайцеся пра словы ветлівасці.

**14.** Дапішыце дзеясловы да прапанаваных назоўнікаў.

***Абвесны:*** вачамі глядзяць, вушамі ..., лёгкімі ..., тапаром ..., шампунем ..., фарбамі ...;

***Умоўны:*** касой касіў бы, нажом ..., плугам ..., пяром ..., лыжкай ..., алоўкам...;

***Загадны:*** сярпом жні, лапатай ..., пілой ..., касілкай ..., лямпачкамі ..., венікам ... .

**Выпраўляем памылкі**

**15.** Прачытаце сказы. Выпраўце памылкі ва ўжыванні часу і трывання дзеяслова.

1. Вечарам мы сядзім каля кастра і важатая расказвала нам розныя гісторыі. 2. Калі наступіў красавік, надвор'е рэзка змяняецца. 3. Калі медзведзяняты падраслі, іх саджалі на цэп. 4. Я бачу, як угору падымаўся паветраны шар.

**16.** Прачытайце замалёўку. Вызначце яе тып і стыль. Падбярыце загаловак. Назавіце дзеясловы. Вызначце іх граматычную форму.

Той дзень выдаўся сонечным і радасным. Якраз для паездкі. Мы едзем да бабулі ў Брэст! Дарога доўгая, але ж гэта не першы раз!

Адпачыць спыніліся каля павароту на вёску Чамялы. Ходзім, любуемся прыродай, слухаем спеў жаваранка.

— А ці ведаеце вы, што тут зусім блізка знаходзіцца беларуская святыня? — пачуўся голас незнаёмага. — Тут жа недалёка Жыровічы. А там — святыя мясціны.

Колькі разоў спыняліся тут, а гэтага і не ведалі. Спытаўшы дарогу, мы вырашылі наведаць Жыровіцкі манастыр і святую крынічку.

Звярнулі на пасялковую дарогу — і перад намі адкрылася цудоўная карціна. Вось дзе адчуваеш, што Беларусь — край белых буслоў! Іх столькі, што немагчыма палічыць. Няма ніводнай вёсачкі, дзе не было б некалькіх бусліных гнёздаў. Яны і на слупах, і на прыгожых гонкіх соснах!

Так, захапляючыся роднай прыродай, мы звярнулі да святой крынічкі пад Жыровічамі. Папілі вады, ачысціліся ў купелі. Можна і ў храм!

Якая тут прыгажосць! У цэнтры храма знаходзіцца галоўная святыня — ікона Божай Маці, якую пастушкі знайшлі на грушы. Пакланіцца ёй едуць людзі з розных куткоў Беларусі і замежжа.

Як мала мы ведаем пра сваю Радзіму! А цудоўнае — побач. Трэба толькі захацець дакрануцца да яго...

**Спроба пяра**

**17.** Напішыце замалёўку ў форме дарожнай нататкі, выкарыстоўваючы дзеясловы закончанага і незакончанага трывання.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што можа абазначаць дзеяслоў? З прапанаваных слоў выберыце дзеясловы: *праверачны*, *праверка*, *правяраць*, *двое*, *дваіцца*, *двайны*, *двойчы*. Дакажыце.

2. Чаму інфінітыў называюць пачатковай і неазначальнай формай дзеяслова? Якія суфіксы з'яўляюцца паказчыкамі інфінітыва? Якім членам сказа можа быць інфінітыў?

3. Да зваротных дзеясловаў падбярыце, калі магчыма, адпаведныя незваротныя: *сінецца*, *апранацца*, *збірацца*, *нездаровіцца*, *змяркацца*. Ці будуць гэтыя дзеясловы пераходнымі? Вызначце, якія з названых дзеясловаў з'яўляюцца неасабовымі.

4. Вызначце асновы ў зваротных дзеясловаў: *смяецца*, *купаюцца*, *радавацца*.

5. Якой формы не маюць дзеясловы закончанага трывання? Ці можна ўтварыць форму цяперашняга часу дзеясловаў *перапісаць*, *вымыць*, *зайсці*?

6. Як можна вызначыць спражэнне дзеяслова? Вызначце, да якога спражэння адносяцца дзеясловы *марыць*, *гаварыць*, *шыць*, *абяцаць*, *гудзець*.

7. Якія дзеясловы адносяцца да рознаспрагальных? Чаму яны так называюцца? Праспрагайце дзеясловы *з'есці*, *выбегчы*, *перадаць*. Раскажыце пра адметнасць спражэння.

8. Ад неазначальнай формы дзеяслова *сходзіць*, *падараваць*, *надрукаваць* утварыце дзеясловы ўмоўнага ладу. Складзіце сказы, каб утвораныя вамі формы ўмоўнага ладу ўжываліся ў значэнні загаднага.

9. Раскажыце, як утвараюцца формы загаднага ладу. Якая з іх найбольш ужывальная? Утварыце формы загаднага ладу 3-й асобы множнага ліку. Выкарыстайце іх ва ўласным выказванні.

**Правяраем сябе**

## I варыянт

1. Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі. Падбярыце загаловак да тэксту.

Мікалай Судзілоўскі — выдатны палітычны дзе..ч. Ён нарадзіўся ў Беларусі, але воляй лёсу вымушаны быў жыць за яе межамі. Мікалай Судзілоўскі ***пакінуў*** значны след у гісторыі Расіі, Румыніі, Балгарыі, Сербіі, Францыі. Яго псе..данім Русэль унесены ва ўсе мед..цынскія энц..клапедыі як імя вядомага ўрача і навукоўца. Ён быў прэм'ер-міністрам Ґава..ў, працаваў ва ўрадзе Філіпінаў. Дослед..ваў сельск..ю гаспадарку, флору і фа..ну Акіяніі, Індакіта.., Філіпінаў, Кітая. Але заўсёды ганары..ся, што ён беларус, і марыў пра волю для сва..й Бацькаўшчыны (*Паводле Д. Кісялёва*).

2. Выпішыце з тэксту неазначальную форму дзеяслова. Падбярыце неазначальную форму для дзеясловаў *пакінуў*, *нарадзіўся*.

3. Падкрэсліце зваротныя дзеясловы.

4. Вызначце, ці з'яўляецца пераходным выдзелены ў тэксце дзеяслоў.

5. Вызначце, у якой форме ўжыты дзеясловы ў тэксце.

6. Вызначце, якія формы дзеясловаў «згубіліся». Спішыце, устаўляючы формы, якіх не хапае. Вызначце трыванне дзеясловаў.

   **1. Працую, працуе, працуеце, працуюць.**
   **2. Народзішся, народзіцца, народзімся, народзяцца.**

## II варыянт

1. Прачытайце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, дапішыце канчаткі. Падбярыце загаловак да тэксту.

**Тры сябры вандр..валі па свеце. Стаміліся і вырашылі а..пачыць. Спыніліся ў крайняй хац.. . Гаспадары былі здзіўлены далікатнасц.. і выхаванасцю юнакоў. Аднак вырашылі праверыць, наколькі шчырыя іх адносіны.**

**Калі адзін хлопец вы..шаў, гаспадар спыта..ся, ціварты юнак сяброўскай пашаны.**

**— Ён асёл! — сказалі пра яго сябры.**

**Калі ж вы..шлі з хаты гэтыя два, гаспадар спыта..ся пра іх у першага хлопца.**

**— Той, што чарнявы, — проста сабака. Другі — баран.**

**І гаспадар *падрыхтаваў* для іх «стол»: «аслу» — ячмен..., «барану» — сена, а «сабаку» — костку. Затым запрасіў хлопцаў да стала і сказаў:**

**— Спадзяюся, кожны з вас пазнае, каму і што вам на стале належ..ць (*Паводле У. Дубоўкі*).**

2. Выпішыце з тэксту дзеяслоў у неазначальнай форме. Падбярыце неазначальную форму для дзеясловаў *выйшаў*, *спытаўся*.

3. Падкрэсліце зваротныя дзеясловы.

4. Вызначце, ці з'яўляецца пераходным выдзелены ў тэксце дзеяслоў.

5. Вызначце, у якой форме ўжыты дзеясловы ў тэксце.

**6.** Вызначце, якія формы дзеясловаў «згубіліся». Спішыце, устаўляючы формы, якіх не хапае. Вызначце трыванне дзеясловаў.

1. Спадзяюся, спадзяецца, спадзяёмся, спадзяюцца.
2. Вырашу, вырашыць, вырашым, вырашыце.

# ТЭСТ «ЛІНГВІСТЫЧНЫ МАРАФОН»

## І варыянт

**1.** Адзначце правільнае сцвярджэнне:

а) назоўнікі змяняюцца па родах, ліках, склонах;
б) назоўнікі змяняюцца па ліках і склонах;
в) род маюць усе назоўнікі.

**2.** Вызначце род назоўнікаў *гну*, *поні*, *шымпанзэ*:

а) мужчынскі; б) ніякі; в) жаночы.

**3.** Адзначце «пятае лішняе»:

а) няўмека; б) піскля; в) прыгажуня; г) непакора; д) непаседа.

**4.** Адзначце словы, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку:

а) канікулы; б) лісты; в) камяні; г) дажынкі; д) сані.

**5.** Адзначце правільнае напісанне назоўнікаў у месным склоне:

а) пры маленькай сароке; б) у залатой клетцы; в) на мясцовым кірмашы; г) у ценю дрэва; д) пры новым дырэктару.

**6.** Адзначце якасныя прыметнікі:

а) курыны почырк; б) залатыя рукі; в) жалезныя дзверы; г) лісіная нара; д) Васевы сшыткі.

**7.** Вызначце правільныя граматычныя формы:

а) вышэй за брата; б) смачнейшы за марожанае; в) прыгажэйшы ў свеце горад; г) даўжэйшы яго; д) разумнейшы за ўсіх.

**8.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў:

а) каля мядзведж.. берлагу; б) на свеж.. паветры; в) па асенн.. дажджах; г) над блакітн.. краінай; д) вакол Рыгорава.. сабакі.

**9.** Адзначце сярод запісаных слоў лічэбнікі:

а) сямёрка; б) трое; в) падвоіць; г) першы; д) адзінокі.

**10.** Адзначце памылкі ва ўтварэнні формаў лічэбнікаў:

а) дзвюмястамі; б) трыццаццю пяццю; в) стамі; г) дзвюхсот; д) адзінаццаццю.

**11.** Адзначце сказы з правільнымі формамі займеннікаў:

а) Васілінка вярнулася ні з чым.
б) Некаму парадавацца за нас.
в) Антось падзякаваў сам сабе.
г) Яго самаго не было дома.
д) Мы рады бачыць цябе.

**12.** Адзначце правільнае сцвярджэнне:

а) дзеясловы ўмоўнага ладу змяняюцца па асобах;
б) дзеясловы закончанага трывання не могуць мець формы цяперашняга часу;
в) неазначальная форма дзеяслова мае род.

**13.** Адзначце, якія дзеяслоўныя формы маюць час:

а) бегаю; б) засумаваў бы; в) бяжы; г) развіталіся; д) спяваюць.

**14.** Адзначце непераходныя дзеясловы:

а) спаць на канапе; б) чытаць кнігу; в) вучыць верш; г) марыць пра мора; д) выпіць соку.

**15.** Адзначце рознаспрагальныя дзеясловы:

а) выбегчы; б) пайсці; в) з’есці; г) дагнаць; д) аддаць.

**16.** Дапішыце канчаткі дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу:

а) браць — бер..; б) несці — нес..; в) малоць — мел..; г) рэзаць — .., д) кляваць — клю.. .

## II варыянт

**1.** Адзначце няправільнае сцвярджэнне:

а) назоўнікі змяняюцца па асобах і ліках;
б) множналікавыя назоўнікі не маюць роду;
в) рэчыўныя назоўнікі могуць мець форму множнага ліку.

**2.** Вызначце род назоўнікаў *кальрабі*, *салямі*, *авеню*:

а) мужчынскі; б) ніякі; в) жаночы.

**3.** Адзначце «пятае лішняе»:

а) чысцёха; б) дырэктар; в) малайчына; г) задзіра; д) ляўша.

**4.** Адзначце словы, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку:

а) дрожджы; б) выбары; в) прамяні; г) каласы; д) акуляры.

**5.** Адзначце правільнае напісанне назоўнікаў у месным склоне:

а) пры беларускім чарадзею; б) у бурлівай рацы; в) чароўнай жар-птушке; г) на разумнай дачцэ; д) згарэць у полымі.

**6.** Адзначце адносныя прыметнікі:

а) воўчы погляд; б) лісіны каўнер; в) драўляны стол; г) свінцовая хмара; д) Данілаў дзённік.

**7.** Вызначце правільныя граматычныя формы:

а) маладзей за дзеда; б) глыбейшае ў Беларусі возера; в) весялейшы за ўсіх; г) смялейшая за сяброўку; д) цямнейшая яе.

**8.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў:

а) чытаю Алегав.. сачыненне; б) каля буслав.. гнязда; в) чалавеч.. спагаду; г) бел.. абрусам; д) на салаўін.. канцэрце.

**9.** Адзначце сярод запісаных слоў лічэбнікі:

а) васьмёрка; б) шасцёра; в) патроіць; г) сёмы; д) двайны.

**10.** Адзначце памылкі ва ўтварэнні формаў лічэбнікаў:

**а) чатырмястамі; б) пяццюдзесяццю шасцю; в) саракамі; г) трынаццаццю; д) паўтарамі.**

**11.** Адзначце сказы з правільнымі формамі займеннікаў:

**а) Мама купіла сябе новы веласіпед.**
**б) Хлопчык аддзячыў табе.**
**в) Я не хацеў ісці ў паход з нікім.**
**г) Нечым было адчыніць дзверы.**
**д) Не было каму прынесці часопіс.**

**12.** Адзначце правільнае сцвярджэнне:

**а) дзеясловы закончанага трывання адказваюць на пытанне *што рабіць?*;**
**б) неазначальная форма дзеяслова спрагаецца;**
**в) дзеясловы прошлага часу ў адзіночным ліку змяняюцца па родах.**

**13.** Адзначце, якія дзеяслоўныя формы маюць час:

**а) смяюся; б) пачытаў бы; в) радуйся; г) сумняваліся; д) шыюць.**

**14.** Адзначце непераходныя дзеясловы:

**а) ляжаць на траве; б) пісаць ліст; в) папрасаваць бялізну; г) сумаваць па маці; д) наліць малака.**

**15.** Адзначце рознаспрагальныя дзеясловы:

**а) перайсці; б) дабегчы; в) выдаць; г) захацець; д) пад’есці.**

**16.** Дапішыце канчаткі дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу:

**а) каваць — ку..; б) маляваць — малю..; в) ісці — ідз..; г) казаць — каж..; д) крычаць — крыч.. .**

# ЛІТАРАТУРА

1. Беларуская мова : 6 кл. : дыктанты, пераказы, пераклады : дапам. для настаўнікаў установаў, якія забяспечваюць атрыманне агульн. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Забаштанская, П. А. Міхайлаў, Т. Я. Старасценака [і інш.] ; пад рэд. П. А. Міхайлава. — 3-е выд., дапрац. — Мінск : Аверсэв, 2005. — 300 с.

2. Беларуская мова : 7 кл. : дыктанты, пераказы, пераклады : дапам. для настаўнікаў установаў, якія забяспечваюць атрыманне агульн. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Забаштанская, П. А. Міхайлаў, Т. Я. Старасценака [і інш.] ; пад рэд. П. А. Міхайлава. — 3-е выд., дапрац. — Мінск : Аверсэв, 2005. — 300 с.

3. Беларуская мова : тэорыя, тэсты : для школьнікаў і абітурыентаў / Э. Д. Блінава [і інш.]. — 3-е выд., выпраўлен. — Мінск : Выш. шк., 2008. — 384 с.

4. Беларуская мова ў табліцах і схемах : вучэб. дапам. для вучняў ст. кл. сярэд. шк. / Г. М. Валочка, Я. М. Лаўрэль, В. П. Красней [і інш.]. — Мінск : Юніпрэс, 2005. — 192 с.

5. Беларуская мова: сцісла і даступна : дапам. / У. Г. Будай [і інш.]. — 3-е выд. — Мінск, 2007. — 160 с.

6. Беларускі арфаграфічны слоўнік для школьнікаў : дапаможнік для агульнаадукацыйных установаў з беларускай і рускай мовамі навучання. — Мінск : Аверсэв, 2010. — 317 с.

7. Голуб, И. Б. Уроки русской орфографии. О сложном просто и легко / И. Б. Голуб. — М. : Логос, 2002. — 158 с.

8. Зборнік тэматычных і выніковых кантрольных работ па беларускай мове для 5—9 кл. (з адказамі) : дапам. для настаўнікаў установаў, якія забяспечваюць атрыманне агульн. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка, Я. М. Лаўрэль, В. У. Протчанка [і інш.]. — 4-е выд., дапрац. — Мінск : Аверсэв, 2005. — 175 с.

9. Лявоненка, С. У. Заданні і практыкаванні па марфалогіі : 6—8 кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. установаў з беларус. і рус. мовамі навучання з 12-гадовым

тэрмінам навучання / С. У. Лявоненка. — Мінск : Сэр-Віт, 2007. — 168 с.

10. Сердзюкова, С. Р. Тэставы кантроль па беларускай мове : 7—10 кл. : дапам. для настаўнікаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульн. сярэд. адукацыі, з 12-гадовым тэрмінам навучання / С. Р. Сердзюкова. — 2-е выд., дапрац. — Мінск : Аверсэв, 2006. — 238 с.

11. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова : кароткі даведнік / В. М. Сіўковіч. — Мінск : Аверсэв, 2011. — 140 с.

12. Солахаў, А. В. Займальны матэрыял па беларускай мове / А. В. Солахаў. — 2-е выд., выпраўлен. — Мінск : Лексіс, 2007. — 174 с.

13. Старычонак, В. Д. Займальная філалогія = Занимательная филология / В. Д. Старычонак. — Мінск : Выш. шк., 1998. — 253 с.

14. Цыбульская, С. І. Паўрочны і тэматычны кантроль па беларускай мове : 6 кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / С. І. Цыбульская. — Мінск : ТетраСистемс, 2008. — 176 с.

# ЗМЕСТ

